24 красавіка 2015 | № 16 (433)

# Новы час

novychas.info

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

**Брукаванку — у спіс каштоўнасцяў Беларусі** стар. 6

**4 БЕЛАРУСЫ І ЎКРАІНЦЫ: ДАВАЙЦЕ ЗНАЁМІЦЦА!**

Дзіўна казаць, што нешта адбылося «дзякуючы вайне», але менавіта праз вайну Беларусь зблізілася з Украінай. А ўкраінцы звярнулі ўвагу на беларусаў

**27 ШКІЛЕТЫ З ШАФЫ ХІЛАРЫ**



Заява Хілары Клінтан пра намер балатавацца на пасаду прэзідэнта адразу дала старт пошукам шкілетаў у яе шафе

**9–24**





**30 НА ЧАТЫРОХ КОЛАХ ПА ЗАХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ**



# Паміж Рыгай і Масквой

## Афіцыйны Мінск асцярожна паварочваецца тварам да Захаду — з аглядкай на Маскву



Сяргей ПУЛЬША

Кіраўнік Беларусі ўсё больш аказваецца «ў заходнім трэндзе». Пасля першай мінскай сустрэчы Парашэнкі і Пуціна Захад разглядзеў у Лукашэнку патэнцыял міратворца, нягледзячы на тое, што сам ён абедзвюма рукамі адхрышчваўся ад гэтага звання. А пасля «Мінску–2», калі з Лукашэнкам паручкаліся Меркель і Аланд, па-ранейшаму не заўважаць «апошняга дыктатара Еўропы» стала зусім маветон.

І вось ужо прэзідэнт Латвіі Андрыс Берзіньш заяўляе, што гатовы правесці афіцыйную сустрэчу з Аляксандрам Лукашэнкам, калі кіраўнік Беларусі прыбудзе на саміт «Усходняга партнёрства», які адбудзецца ў маі ў Рызе. То бок, афіцыйнаму Мінску прыадчынілі дзверы ў Еўропу.

У той жа час адносіны з Масквой не выглядаюць бязвоблачнымі. Нягледзячы на вонкавую «брацкую рыторыку», у нас загінаюцца інтэграцыйныя праекты па стварэнні агульных холдынгаў. З $2,5 мільярда крэдыту мы атрымалі толькі $110 мільёнаў. Рассельгаснагляд з зайздросным пастаянствам заварочвае на сваёй мяжы беларускі рээкспарт. Ну і, канешне, непрыемнасцяў нам дадаў расійскі «падатковы манеўр» на нафту, які знізіў нашу выгаду ад ЕАЭС ледзьве не ўдвая.

Новы крок на Захад беларускі правадыр зрабіў літаральна днямі. Лукашэнка заявіў, што не падтрымлівае палітыкаў, якія «амбіцыйна адмаўляюцца» прыехаць на святкаванне 70-годдзя перамогі над фашысцкай Германіяй у Маскву. Але ў той жа час сказаў, што сам на парадзе ў Маскве не будзе. Не, ён, канешне, наведае ўрачыстасці ў сталіцы Расіі 7–8 мая, але 9 мая будзе прымаць свой парад Перамогі ў Мінску. «Недапушчальна, калі няма галоўнакамандуючага. Ніхто, акрамя яго, па Канстытуцыі, не зможа прымаць парад», — дадаў Лукашэнка.

Толькі ў беларускай Канстытуцыі няма такога палажэння, што выключна прэзідэнт альбо галоўнакамандуючы можа прымаць парад.

У Маскве да гэтага паставіліся нібыта з разуменнем. «Наш найбліжэйшы саюзнік, прэзідэнт Беларусі, 9 мая будзе прысутнічаць на аналагічным парадзе ў Мінску. Беларусь абсалютна шырокамаштабна святкуе Дзень Перамогі і тым самым шануе загінулых. Беларусь знаходзіцца разам з намі ў гэтых пачуццях і падзяляе іх», — сказаў прэс-сакратар кіраўніка Расіі Дзмітрый Пяскоў, каментуючы рашэнне «саюзніка».

Але вонкавае «разуменне» наўрад ці шчырае. Расійскія прапагандысты адзначалі, што падчас святкавання 60-годдзя Перамогі Лукашэнка паспеў і ў Маскве пабываць, і свой парад прыняць. А ў мінулым годзе Пуцін прыехаў у Мінск на святкаванне 70-годдзя вызвалення Беларусі, і нават адкрыў з беларускім калегам новы музей ВАВ. Таму стаўленне да жадання Лукашэнкі прыняць свой парад у сваёй сталіцы — як да здрады.

Дырэктар Інстытута краін СНД Канстанцін Затулін, напрыклад, лічыць, што Лукашэнка зрабіў «не самы прыстойны ўчынак», і назваў гэта «працягам лініі беларускага кіраўніка на залагоджванне Захаду перад прэзідэнцкімі выбарамі». Галоўны рэдактар часопіса «Расія ў глабальнай палітыцы» Фёдар Лук'янаў упэўнены, што ўчынак лідара сінявокай «нельга не расцаніць як дэмарш».





**З кім мы на бліжэйшы год: з Расіяй альбо з Захадам?**

Дырэктар Цэнтра ўкраіністыкі і беларусістыкі МДУ Багдан Беспалька лічыць, што нежаданне Лукашэнкі прыехаць у Маскву — гэта «сімвалічны акт: і сігнал Захаду, і спроба не сапсаваць адносіны з Масквой».

І яшчэ адзін фінт ад нашага кіраўніка. 22 красавіка Аляксандр Рыгоравіч павінен быў выступіць са штогадовым пасланнем народу і парламенту. Аднак пасыл народа перанеслі: у Лукашэнкі ў гэты дзень знянацку намаляваўся візіт у Тбілісі. У тое самае Тбілісі, якое да скону жыцця ўдзячнае яму за непрызнанне Абхазіі і Паўднёвай Асеціі, адарваных ад Грузіі Расіяй таксама, як зараз адарваны Крым.

Канешне, можна не шукаць у пераносе паслання палітычнага падтэксту. І раней бывалі выпадкі, калі пасланне адкладалася з-за таго, што яно не было падрыхтаванае. У 2012 годзе, напрыклад, Лукашэнка раскрытыкаваў тэкст падрыхтаванага яму дакумента і адправіў яго на дапрацоўку. Але зараз ніхто не кажа пра «тэхнічную прычыну пераносу». Ну не мог жа Лукашэнка, прызначаючы дату паслання, не ведаць пра візіт у Грузію?

Відавочна, што ў пасланні Аляксандр Рыгоравіч павінен быў дакладна патлумачыць, з кім мы. Расія — наш «брат» ці проста «асноўны эканамічны партнёр»? Захад нам «вораг», альбо «нашыя адносіны істотна палепшыліся, і яны ўжо не так балюча ўспрымаюць асаблівую пазіцыю Беларусі»?

Апошнія словы можна будзе казаць тады, калі будзе ўпэўненасць: ці заўважыў Захад дзеянні Лукашэнкі па нармалізацыі адносінаў? Гэта высветліцца проста: адказам на пытанне, хто паедзе ў Рыгу на саміт «Усходняга партнёрства». Аляксандр Рыгоравіч чакае, што яго туды запросяць.

Лукашэнка чакае адказу на гэтае пытанне. І тады ён патлумачыць народу, з кім мы на бліжэйшы год: з Расіяй альбо з Захадам.

## НАВІНЫ РЭГІЁНАЎ

### ГРОДНА. Журналістаў-фрылансераў аштрафавалі на 20 базавых велічынь

**22 красавіка ў судзе Ленінскага раёна Гродна быў завершаны разгляд адміністрацыйнай справы ў дачыненні да журналістаў-фрылансераў Алеся Дзянісава і Алеся Кіркевіча.**

Суддзя Алена Пятрова завяршыла працэс вельмі хутка. Яна зладзіла толькі прагляд матэрыялу, што быў паказаны на тэлеканале «Белсат». Сюжэт, зняты Дзянісавым і Кіркевічам, быў паказаны праз тэлеканал «Белсат» у пачатку сакавіка і датычыў адкрыцця выставы слуцкіх паясоў у Беларускім дзяржаўным музеі гісторыі рэлігіі.

Пасля гэтага суддзя Пятрова абвясціла сваю пастанову — па абвінавачанні ў незаконным вырабе і распаўсюдзе інфармацыйнага матэрыялу (артыкул 22.9, частка 2 КаАП РБ) журналісты аштрафаваныя на 20 базавых велічынь кожны. Гэтую пастанову Дзянісаў і Кіркевіч маюць намер аспрэчыць у судзе касацыйнай інстанцыі.

### БЯРОЗА. Праваабаронцы абскарджваюць забарону пікета

**Бярозаўскія праваабаронцы накіравалі адпаведную заяву ў суд Бярозаўскага раёна. Яны лічаць прычыну адмовы Бярозаўскім райвыканкамам у правядзенні пікета 25 сакавіка надуманай.**

Адмова падпісана намеснікам старшыні райвыканкама Яўгенам Тарасюком. Праваабаронцы адназначна не згодныя з тым, што мэты пікета: адзначэнне чарговай гадавіны Беларускай Народнай Рэспублікі і патрабаванне вызвалення палітвязняў распальваюць нацыянальную варожасць.

— У заяве не згадваецца ніводная краіна, ніводная нацыянальнасць. Немагчыма патлумачыць, у чым бярозаўскія ідэолагі ўбачылі распальванне нацыянальнай варожасці, — адзначае адзін з заяўнікаў пікета Сяржук Русецкі.

На думку праваабаронцаў, ёсць усе падставы выйграць суд, калі ён будзе бесстаронным і накіраваным на выкананне закона, а не палітычнай замовы.

### ГОМЕЛЬ. Рубцоў можа перайсці на сухую галадоўку

**Жонка гомельскага актывіста Юрыя Рубцова Ядвіга распавяла, што Юрый па-ранейшаму трымае галадоўку і нават не выключае, што пяройдзе на «сухую», калі пераслед не спыняць.**

Юрый Рубцоў пачаў галадоўку 6 красавіка, калі яго са спецкамендатуры ў вёсцы Куплін прывезлі ў Пружанскі райаддзел міліцыі, дзе змясцілі ў адзіночную камеру і паведамілі пра завядзенне супраць яго крымінальнай справы паводле абвінавачання ва ўхіленні ад адбыцця «хіміі». Рубцоў не прызнае сябе вінаватым. Ён кажа, што не ўхіляўся ад працы, але не пагаджаўся на працу за мізэрны заробак і патрабаваў аплаты на ўзроўні сярэдняга заробку па краіне.

Некалькі дзён таму Юрыя Рубцова з Пружанаў перавезлі ў следчы ізалятар у Баранавічах. «Адвакат паведаміў, што адмыслова папярэдзіў адміністрацыю ізалятара пра тое, што паводле закону яны адказныя за стан здароўя Юрыя і мусяць пры пагаршэнні сітуацыі выклікаць да яго дактароў», — распавяла Ядвіга Рубцова.

spring96.org




# Улады не жадаюць лічыць галасы на выбарах разам

**Намеснік старшыні Руху «За Свабоду» Алесь Лагвінец 21 красавіка выступіў у Страсбургу на слуханнях, якія правёў камітэт па палітычных пытаннях Парламенцкай асамблеі Савета Еўропы ў межах веснавой сесіі ПАСЕ.**

У сваёй прамове Алесь Лагвінец сказаў пра неабходнасць «роўнага і канструктыўнага дыялогу» ўнутры нашай краіны — гэтак, як улады Беларусі хочуць ад еўраструктур.

Але, на жаль, заўважыў адзін з кіраўнікоў руху, «прырода палітычнага рэжыму ў Беларусі засталася нязменнай», бо «улады толькі гавораць, але нічога не робяць, каб рэальна наблізіць Беларусь да стандартаў Савета Еўропы».

«Беларусы годныя таго, каб карыстацца з еўрастандартаў, у тым ліку ў сферы правоў чалавека, аднак па-ранейшаму палітычныя правы беларусаў не паважаюцца. Так, у сферы выбарчага заканадаўства можна канстатаваць пагаршэнне, а не паляпшэнне сітуацыі. Улады ўсяляк не жадаюць увесці просты і зразумелы прынцып — падлік галасоў разам», — заявіў Алесь Лагвінец.

Статус «адмыслова запрошанага» ў ПАСЕ для парламента Беларусі можна аднавіць толькі пасля выбараў–2016 пры ўмове, што ўлады пойдуць на «рэальныя змены ў заканадаўстве і правапрымяняльнай практыцы». «Кампанія прэзідэнцкіх выбараў пры канцы 2015 года таксама дазволіць яшчэ раз ацаніць, ці словы адпавядаюць справам», — лічыць Лагвінец.

Ён таксама зазначыў, што «ўвесці мараторый на смяротнае пакаранне ды вызваліць палітвязняў можна і трэба было б ужо сёння». «Мікола Статкевіч ды іншыя палітвязні павінны быць на волі!» — заявіў Алесь Лагвінец.

Пры гэтым адзін з кіраўнікоў Руху «За Свабоду» падкрэсліў, што апазіцыя выступае за мірныя перамены і нацыянальную кансалідацыю, а адным са спосабаў дасягнення гэтай мэты можа стаць «Народны рэферэндум», кампанію па правядзенні якога ладзяць шэраг дэмакратычных партый і арганізацый.

Таксама на слуханнях выступіў спецыяльны дакладчык ПАСЕ па сітуацыі ў Беларусі Андрэа Рыгоні, з беларускага боку ўдзел узялі, апрача намесніка старшыні Руху «За Свабоду» Алеся Лагвінца, кіраўнік пастаяннай камісіі па міжнародных справах Палаты прадстаўнікоў Мікалай Самасейка і намеснік кіраўніка праваабарончага цэнтра «Вясна» Валянцін Стэфановіч.

pyx.by

# Сацыял-дэмакраты просяць еўрапейскіх палітыкаў дапамагчы вызваліць Статкевіча

**Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя (Грамада) звяртаецца да еўрапейскіх палітыкаў з заклікам прадэманстраваць салідарнасць сусветнай і еўрапейскай сацыял-дэмакратыі з Мікалаем Статкевічам.**



«З калоніі № 17 у Шклове прыйшла трывожная вестка пра тое, што адміністрацыя гэтай установы ўзмацніла ціск на палітычнага вязня Мікалая Статкевіча. Ёсць намер праз судовую працэдуру перавесці яго з калоніі ў турму.

Не выклікае сумнення, што ўсе гэтыя меры накіраваныя на тое, каб змусіць Мікалая Статкевіча напісаць прашэнне аб памілаванні і такім чынам прызнаць сябе вінаватым», — гаворыцца ў заяве прэзідыума Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Грамады).

Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя (Грамада) выказвае салідарнасць з палітзняволеным Мікалаем Статкевічам і патрабуе спыніць адміністрацыйны ціск у дачыненні да яго.

Сацыял-дэмакраты выказваюцца за тое, каб да палітвязня Мікалая Статкевіча былі дапушчаныя праваабаронцы і прадстаўнікі міжурадавых устаноў, у прыватнасці Прадстаўніцтва ААН у Беларусі, а таксама дыпламатычных місій краін Еўрапейскага саюза.

Сацыял-дэмакраты заклікаюць усе левыя і дэмакратычныя партыі і групы Беларусі выступіць у абарону Мікалая Статкевіча.

Таксама сацдэкі звяртаюцца да Сацыялістычнага Інтэрнацыяналу, да Партыі еўрапейскіх сацыялістаў, да Групы сацыялістаў і дэмакратаў у Еўрапейскім парламенце і асабіста да старшыні Еўрапарламента Марціна Шульца з заклікам прадэманстраваць салідарнасць сусветнай і еўрапейскай сацыял-дэмакратыі з Мікалаем Статкевічам.

**Паводле прэс-рэліза**

# «Зробім» Беларусь чыстай! Далучайцеся!

**16 мая Беларусь у 4-ы раз далучыцца да добраахвотніцкай акцыі па сусветнай уборцы «Зробім!» («Let's do it!»). Мэта акцыі — прыбраць смецце ў лясах, на берагах рэк і азёр, у месцах адпачынку, а таксама там, куды не дабіраюцца камунальныя службы.**

«Зробім!» з'яўляецца часткай сусветнай кампаніі «Let's Do It!» — «World clean up-2015», што аб'ядноўвае мільёны людзей, якія імкнуцца ачысціць прыроду ад смецця і забяспечыць устойлівую чысціню і парадак ва ўсім свеце. Упершыню акцыя прайшла ў 2008 годзе ў Эстоніі, пасля чаго стала папулярнай ва ўсім свеце. З года ў год жыхары розных гарадоў у адзін і той жа дзень выходзяць прыбіраць лясы, палі, пляжы, паркі, скверы і проста вуліцы. У 2012 годзе да ініцыятывы падключыліся больш за 100 краін свету, у тым ліку і Беларусь.

Арганізатарамі акцыі ў нашай краіне выступаюць Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя, Таварыства экалагічных арганізацый «Зялёная сетка», Установа «Цэнтр экалагічных рашэнняў», МГА «Экапартнёрства», ГА «Ахова птушак Бацькаўшчыны», ГА «Мінскае веласіпеднае таварыства», ООВ «ВелаГродна». Яны запрашаюць кожнага жыхара Беларусі далучыцца да ўборкі: валанцёраў, рэгіянальных арганізатараў месцаў уборкі, розныя кампаніі і арганізацыі — усіх, хто гатовы стаць актыўнай часткай глабальнага навядзення парадку.

Дадатковую інфармацыю можна атрымаць у Ані Дапшэвічутэ, таварыства «Зялёная сетка»: +375 29129 16 10; Дзмітрыя Васьковіча, установа «Цэнтр экалагічных рашэнняў»: +375 17237 40 70; Уладзіміра Маркава, аддзел інфармацыі і сувязі з грамадскасцю Мінпрыроды: +375 17200 65 49.

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Незаўважаныя перамогі

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Выглядае, што ў нас усё добра. Мы паспяхова правялі суботнік, адгулялі доўгія выходныя. Долар падае, пачынаецца пасяўная. Мы лічым, што ўсё нармальна.**



Беларускім уладам у сакавіку нават амаль удалося стрымаць рост складскіх запасаў. У сакавіку складскія запасы выраслі ўсяго на 0,32 трыльёна рублёў і на 1 красавіка 2015 года дасягнулі 38,95 трыльёна рублёў. Праўда, з пачатку года складскія запасы павялічыліся на 6,27 трыльёна рублёў. Суадносіны запасаў гатовай прадукцыі і сярэднямесячнага аб'ёму вытворчасці на 1 красавіка 2015 года склала 83,95% супраць 75,8% на 1 студзеня 2015 года і 80,7% на 1 красавіка 2014 года. Але ж поспех ёсць?

Поспех ёсць, толькі не той, на які разлічвалі. З канца сакавіка і ўвесь красавік да нас паступалі навіны, што то адно, то іншае прадпрыемства перайшло на «чатырохдзёнку» альбо ўвогуле спыніла вытворчасць. Як вынік, у цэлым эканоміка Беларусі ў сакавіку паскорыла сваё падзенне і за тры месяцы бягучага года абвалілася на 2% у параўнанні з аналагічным перыядам мінулага года. У грашовым выразе ВУП склаў 187 трыльёнаў рублёў, паведамляе Нацыянальны статыстычны камітэт.

У студзені ВУП знізіўся на 0,4%, за студзень-люты — на 0,6%. Выпуск прамысловай прадукцыі склаў Br172,6 трыльёна, што на 7,3% менш, чым за аналагічны перыяд 2014 года.

Нагадаем, што па плане беларускія ўлады разлічваюць на 0,2–0,7% росту ВУП па выніках года. Міжнародны валютны фонд жа абяцаў спад беларускага эканамічнага цуду на 2,3%. Аказваецца, што самага песімістычнага прагнозу МВФ мы толькі за тры месяцы амаль дасягнулі.

Замежнікі ж заўважаюць не ўнутраную «стабільнасць», а глабальныя паказчыкі. Міжнароднае рэйтынгавае агенцтва Moody's у сувязі з гэтым нанесла сінявокай удар пад дых. Агенцтва панізіла суверэнны рэйтынг эмітэнта і рэйтынг незабяспечанага доўгу Беларусі да «смеццевага ўзроўню» — з «B3»да «Саа1». Прагноз па рэйтынгах — «негатыўны», гаворыцца ў паведамленні агенцтва.

Нагадаем, што, згодна з міжнароднай класіфікацыяй, усе рэйтынгі, ніжэй першай літары «В» і пачынаючы з «С», з'яўляюцца «смеццевымі». Гэта азначае вялікую рызыку невяртання дадзеных крэдытаў і ўкладзеных інвестыцый. То бок, грошы, затрачаныя ў такой краіне, можна лічыць «выкінутымі ў сметніцу».

Адначасова Moody's панізіла рэйтынгі валютнага доўгу Беларусі з «B3» да «Саа1», максімум абавязацельстваў і дэпазітаў у нацыянальнай валюце да «B3» з «B1» і столь рэйтынгу дэпазітаў у замежнай валюце да «Саа2» з «Саа1». Зніжэнне рэйтынгу агенцтва растлумачыла асцярогамі з нагоды здольнасці краіны абслугоўваць знешні доўг з-за зніжэння экспартнай выручкі і падтрымкі з боку Расіі, а таксама нестабільнай эканамічнай мадэлі Беларусі. Moody's нагадала, што абслугоўванне знешняга доўгу абыдзецца Беларусі ў 2015 годзе ў $4 мільярды, у 2016 — $3,1 мільярда, у 2017 годзе — $2,8 мільярда, у 2018 годзе — $3 мільярды. У той жа час агенцтва салідарнае з МВФ наконт таго, што ВУП Беларусі ў 2015 годзе скароціцца на 2,3%, у 2016 годзе — на 0,1%.

То бок, Беларусі няма дзе ўзяць грошы на выплату знешніх пазыкаў. Таму Moody's і апусціла Беларусь «у сметніцу».

Ці справядлівая гэта? Між іншым, рэйтынг «С» зараз у Грэцыі. І што ў параўнанні з гэтым нашыя знешнія пазыкі — Грэцыя павінная крэдыторам аж 320 мільярдаў еўра! Да таго ж, мы дамовіліся з Расіяй аб рэструктурызацыі нашых знешніх пазыкаў гэтай краіне — пра гэта заявіў наш прэм'ер Андрэй Кабякоў. А вось Грэцыя з МВФ пра адтэрміноўку плацяжоў не дамовілася, і ў гэтым годзе Грэцыя павінна выплаціць больш €9 мільярдаў.

Дык ці мае рацыю Moody's? Можа, яны возьмуць на працу нашых эканамістаў?

Да таго ж, у нас, як заўсёды, ёсць рэзервы. І, як заўсёды, гэтыя рэзервы знаходзяцца ў кішэнях грамадзян. Той жа Белстат паведамляе, што прыхаванае беспрацоўе ў Беларусі прынамсі ў лютым гэтага года працягвала набіраць абароты. Так, у параўнанні з лютым 2014 года, колькасць работнікаў, якія працавалі няпоўны працоўны час па ініцыятыве наймальніка, у лютым бягучага года вырасла ў 3,7 разы (склала 370%) з 17,4 тысячы да 63,6 тысячы чалавек. У параўнанні са студзенем гэтага года колькасць такіх работнікаў вырасла на 44,9%.

Колькасць работнікаў, якім былі прадстаўленыя адпачынкі без захавання або з частковым захаваннем зарплаты па ініцыятыве наймальніка, за люты вырасла ў 2,3 разы (230%) з 16,4 тысячы да 37,8 тысячы чалавек у параўнанні з лютым 2014 года. Колькасць работнікаў, якія знаходзіліся ў цалкадзённым (цалказменным) прастоі вырасла на 9,2% у адносінах да студзеня бягучага года.

Нездарма Аляксандр Рыгоравіч падпісаў дэкрэт аб лайдаках і ўтрыманцах! Праўда, трэба было б гэты дакумент дапоўніць адказнасцю наймальніка за «вымушаны прастой». А то колькі людзей «лічацца» на працы, а на самай справе не працуюць!

Праўда, усё яшчэ наперадзе. Натхнёўшыся працай падчас суботніка, Лукашэнка заявіў, што дэкрэт аб утрыманцах пакуль што носіць эксперыментальны характар, і не выключыў унясення паправак у дакумент напрыканцы года.

«Я не кажу, што ён (дэкрэт. — аўт.) ідэальны. Вы бачыце, я нават не абараняю яго. Мы глядзім, нармальны ён ці не. Памыліліся — паправім, але трэба даць магчымасць, каб гэты дакумент папрацаваў. А затым дапрацуем. Дзе памыліліся, мы папросім прабачэння і паправім. Да канца года сітуацыю выправім», — сказаў Лукашэнка. Аднак ён не ўдакладніў, на падставе чаго будуць уносіцца папраўкі: выплаты па дэкрэце пачнуцца толькі ў наступным годзе.

У той жа час Лукашэнка сцвярджае аб падтрымцы дэкрэта з боку працоўных. «Таму што, напэўна, не вельмі, калі ты працуеш з раніцы да вечара і глядзіш, каб сям'ю накарміць, а некаторыя, наогул не напружваючыся, на «Лексусах», «БМВ», «Мерседэсах» раз'язджаюць, не выплочваючы нават капейкі падаткаў. У паліклініку, школу, дзіцячы сад, яшчэ кудысьці — яны першыя. Дык там таксама грошы, гэта ж пабудавана за грошы людзей», — заявіў беларускі кіраўнік.

У інтэрнэце пад петыцыяй за адмену «дэкрэту аб лайдаках» падпісалася больш за 30 тысяч чалавек. Але каго гэта хвалюе?

ФІГУРЫ ТЫДНЯ



## Міхаіл Ежаль

**Беларуская пракуратура адмовілася адказваць на запыт Генпракуратуры Украіны пра тое, ці сапраўды ўкраінскі пасол лекуецца ў Мінску.**

Міхаіл Ежаль нейкі час быў міністрам абароны пры Януковічы, пасля быў прызначаны паслом у Мінску. Ягоны наступнік збег у Расію напярэдадні яе агрэсіі ў Крыме і на Данбасе. Украінская армія аказалася зусім не падрыхтаванай да абароны тэрытарыяльнай цэласнасці краіны. Знікненне тэхнікі і стала прадметам следства, якое зачапіла і Ежаля. Украіна шукае Ежаля як падазраванага па справе аб растраце дзяржаўных грошай.

«Паводле атрыманай з МЗС інфармацыі, з 10 жніўня 2014 года Ежаль М.Б. знаходзіцца на лекаванні ў вайсковым шпіталі ў горадзе Мінск, у сувязі з чым прыбыць ва Украіну не можа», — распавялі ў ГПУ. Украінскае ведамства накіравала запыт беларускім калегам, «аднак у прадастаўленні запытанай інфармацыі Генпракуратура Беларусі адмовіла».



## Кірыл Сілівончык

**Беларус асуджаны ў Расіі на два гады калоніі-пасялення за заклікі вярнуць Крым Украіне.**

Кірыл Сілівончык публікаваў на сваёй старонцы ў сацсетцы тэксты і малюнкі ў падтрымку Украіны і з асуджэннем расійскай палітыкі. 22-гадовага грамадзяніна Беларусі Маскоўскі акруговы вайсковы суд асудзіў за гэта па артыкулу «Публічнае апраўданне тэрарызму ці публічныя заклікі да яго». У Расіі справы па гэтым артыкуле падпадаюць пад юрысдыкцыю ваеннага суда, нават калі абвінавачаны — грамадзянская асоба.

У судзе Сілівончык абраў тактыку, якая вяла да мінімізацыі прысуду. Ён прызнаў сваю «віну». Гэта дало магчымасць правесці працэс у спрошчаным парадку і прывяло да максімальна мяккага прысуду, бо артыкул прадугледжвае да сямі гадоў турмы.

Сілівончык працягвае знаходзіцца ў СІЗА №1 Ніжняга Ноўгарада па адрасе: 603009, Ніжагародская вобл., г. Ніжні Ноўгарад, пр. Гагарына, 26а. На наступным тыдні ўпраўленне выканання пакаранняў павінна вызначыць, у якой калоніі-пасяленні Сілівончык будзе адбываць тэрмін. Калонія-пасяленне — гэта пакаранне больш мяккае, чым беларуская «хімія». Асуджаны ў ёй можа працаваць, а можа і не працаваць. Сваякам дазваляюць пражываць разам з ім. Сваякі беларуса спадзяюцца на амністыю, якая чакаецца ў Расіі.



## Аляксандр Глеб

**Беларускі паўабаронца турэцкага клуба «Генчлербірлігі» трапіў у непрыемную гісторыю.**

У інтэрв'ю французскаму часопісу «SoFoot» ён раскрытыкаваў трэнерскую сістэму Турцыі.

«Грошы — гэта важна, — цытаваў «SoFoot» Глеба. — Але я не толькі таму пераехаў у Турцыю. Узровень футбола тут мяне таксама прыцягнуў. Аднак турэцкія трэнеры — ідыёты. Яны прымушаюць нас рабіць прабежкі вакол поля і даюць найпростыя тактычныя ўстаноўкі. І ўсё на гэтым. Ніякай глыбіні».

Асацыяцыя трэнераў Турцыі выступіла з заявай. «Футбаліст «Генчлербірлігі» ў інтэрв'ю французскаму часопісу назваў трэнераў Турцыі ідыётамі. Гэта не пасуе спартсмену. Ні адзін спартовец не мае ніякага права так гаварыць. Гэта неэтычна. У Турцыі працуе шмат замежных трэнераў, і словы Глеба кідаюць цень і на іх. Можа быць, што словы футбаліста былі няправільна перакладзеныя або вытлумачаныя. У такім выпадку мы не асуджаем футбаліста. Мы заклікаем Глеба ў будучыні сачыць за тым, што ён кажа», — гаворыцца ў заяве.

Пазней Глеб заявіў, што многія яго словы французскі журналіст перакруціў або дапоўніў. Праўда, Глеб прызнаецца, што даваў інтэрв'ю яшчэ ў мінулым годзе. Магчыма, дэталяў ён ужо і не памятае.

# Беларусы і ўкраінцы: давайце знаёміцца!



Зміцер ГАЛКО

**Дзіўна казаць, што нешта адбылося «дзякуючы вайне», але менавіта праз вайну Беларусь зблізілася з Украінай. А ўкраінцы звярнулі ўвагу на беларусаў.**

Жахліва, што нас зблізіла такая нагода, але каштоўнасці збліжэння гэта не адмяняе. Гаворка не пра кантакты на палітычным узроўні, у іх заўжды шмат крывадушша, а пра нізавыя сувязі — на ўзроўні добраахвотнікаў, валанцёраў, ахвярадаўцаў. У гэтым выпадку — пра сувязі мірныя, пра ўзаемную культурніцкую цікавасць.

Нагоду адысці ад змрочнай ваеннай тэматыкі мне даў Алесь Мазанік, які ўпершыню прыехаў ва Украіну, каб правесці тут сваё «Шоў Беларушчыны», ужо даволі вядомае ў нашай краіне. Дакладней, першапачаткова Алесь прыехаў падтрымаць сваю сяброўку Наталку Белазёраву, якая мелася выступіць на танцавальным конкурсе «Танцююць всі» з беларускім народным танцам ва ўласнай пастаноўцы. І ў дадатак зладзіў у Кіеве вечарыну-віктарыну, падчас якой цікаўныя маглі пачаць ці працягнуць сваё знаёмства з Беларуссю. За правільныя адказы ўдзельнікі атрымлівалі дыскі з фільмамі ці музыкай па-беларуску альбо беларускія сувеніры. Асноўную частку гасцей вечарыны склалі наведнікі «Беларускага размоўнага клубу».

## Украінцы бліжэй да Еўропы

З Алесем Мазанікам мы пагутарылі пра яго першыя ўражанні ад Украіны.

***— Алесь, калі забыцца на несумленнае ўжыванне гэтага слова ў палітычных мэтах, Украіна нам брацкая?***

— Я тут усяго суткі. І за гэтыя час я адчуў, па-першае, агромністую розніцу з Польшчай, якая зусім побач, адначасова вялікую розніцу з Расіяй, а разам з гэтым блізкасць да Беларусі. Цяпер я разумею, што буду прыязджаць сюды нават часцей, чым у Вільню. Аднак мяне трохі бянтэжыць камерцыялізацыя тэмы Майдана і нават вайны на Данбасе. У пэўным сэнсе тут, у Кіеве, гэта стала таварам. Мне здаецца, што беларусам не ўласцівы такі падыход. Але галоўнае адрозненне — гэта мова, моўнае пытанне. Украінская мова жыве і цалкам нармальна пачуваецца нават у збольшага рускамоўным асяроддзі, нідзе праз мову не ўзнікае праблемаў.

***— Многіх беларусаў, у тым ліку тых, што вельмі прыязна ставяцца да Украіны, шакуе тут адсутнасць беларускага парадку.***

— Нават калі не браць Смаленск, каб не сказалі, што вы з «клятымі маскалямі» вечна параўноўваеце, а ўзяць Вільню і Трокі ці Беласток і Варшаву, там таксама няма беларускага парадку. Аднак пры тым, што там можа быць бруднавата і шурпата, якасць сервісу будзе істотна вышэйшай за беларускую. Людзі ў гэтым не вельмі дасканалым асяроддзі будуць вальнейшымі і больш радаснымі! Наша ўлада, падобна, упэўненая, што «чысціня — залог здароўя», і ад яе ўсё будзе, чысціня стала іх навязлівай ідэяй. Я б сказаў, што часам у нашым звышпарадку ёсць нейкая бяздушнасць і застыласць, знак адсутнасці развіцця.

***— Выглядае на тое, што нам варта было б трымацца разам, асабліва ў гэтыя часы. Ёсць чаму павучыцца адно ў аднаго.***

— Я б хацеў, каб мы павучыліся ў украінцаў салідарнасці і разуменню такой нібыта простай рэчы, што «краіна пачынаецца з цябе». Яно ў іх ёсць адносна значна больш важных рэчаў. І гэта робіць іх значна бліжэйшымі да Еўропы за нас з нашай чысцінёй.

Часы, як казала актрыса Таццяна Мархель, заўсёды былі храновымі. А трымацца разам, безумоўна, варта, зважаючы і на нашу агульную спадчыну, бо мы былі разам у Вялікім Княстве Літоўскім, і на агульныя задачы сённяшняга дня. Трэба наладжваць больш сувязяў і кантактаў. Чаму я і спрыяю праз правядзенне беларускай вечарыны ў Кіеве. Хто можа зрабіць болей і лепей, хай робіць.

## «Тражык» і беларускае мора

Стваральнік «Беларускага размоўнага клуба», які ўжо колькі гадоў стала збіраецца ў Кіеве, Дэйка Бугай, чысты ўкраінец, ніякіх беларускіх каранёў у яго няма. Калісьці, расказвае ён, на яго паказалі пальцам, як на «таго самага хлопца, які размаўляе па-беларуску». Цяпер ён ужо даўно не адзін, чым вельмі ўсцешаны.

***— Дэйка, раскажы, як ты пачаў цікавіцца беларускай мовай?***

— Спачатку мяне зацікавіла ўкраінская мова, потым — мовы да яе падобныя. А самая падобная да ўкраінскай, уласна, беларуская мова. І яшчэ мяне падштурхнула тое, што мы ведалі пра Польшчу, вельмі шмат ведалі пра Расію, натуральна, нешта пра Амерыку, Францыю і г.д., а пра Беларусь — зусім нічога. Зрэдку сякая-такая інфармацыя прабівалася, памятаю нейкую перадачу пра гонкі беларускіх трактароў на тэлебачанні, яшчэ нешта дробязнае, і на гэтым усё. Беларусь мяне зацікавіла сваёй блізкасцю і адначасова малавядомасцю. Моцным штуршком да вывучэння беларускай мовы стала інтэрв'ю Лявона Вольскага на ўкраінскім радыё. Ён адказваў па-беларуску, і тады я адчуў, наколькі беларуская мова зразумелая, цікавая і прыгожая. Пасля інтэрв'ю я пачаў шукаць музыку «N.R.M.», іншую беларускую музыку. Да развіцця інтэрнэту гэты працэс адбываўся павольна, са з'яўленнем сеціва ён вельмі паскорыўся.



Наталка Белазёрава



Дэйка Бугай



Алесь Мазанік

***— Дарэчы, чаму так атрымалася, што беларусы і ўкраінцы мала ведаюць адно аднаго?***

— Мяркую, гэта спадчына савецкіх часоў. Нібыта «дружба народаў», а на самай справе сувязі былі выбудаваныя вертыкальным чынам. Усе кантакты Мінску, як і Кіева, былі цэнтралізавана завязаныя на Маскву. Гарызантальнага супрацоўніцтва паміж рэспублікамі было вобмаль. А ў 1990-я гады сітуацыя яшчэ і пагоршылася, бо ўвогуле стала не да таго.

***— Калі ты сам упершыню пачаў размаўляць па-беларуску?***

— Самы першы раз я цэлы дзень размаўляў па-беларуску ў 2007 годзе, на музычным фестывалі. Спачатку гэта быў сапраўдны шок! У мяне ўсе мышцы твару балелі, бо мова хоць і падобная, але фанетыка вельмі розная. З цягам часу ў мяне маўленчы апарат «беларусізаваўся». Пасля паездкі ў этнаграфічную экспедыцыю па Гомельшчыне, пасля чаго была паездка ў Мінск, а ўвесь час я ў Беларусі размаўляў па-беларуску, я паехаў у Львоў, і раптам мае суразмоўцы пачалі заўважаць, што я дзіўнавата размаўляю па-ўкраінску, неяк не так.



***— А як прыйшла ідэя стварыць клуб?***

— Я напісаў на сваёй старонцы «УКантакце», што ведаю беларускую мову. Да мяне пастукалася дзяўчына з пытаннямі — што ды як, дзе я вывучыў беларускую і ці ёсць курсы беларускай у Кіеве. Ну якія там курсы беларускай, ты што. І тады ў мяне з'явілася ідэя стварыць размоўны клуб, каб практыкаваць вымаўленне. Але я не быў упэўнены, што тое камусьці будзе цікава. Тая дзяўчына сказала, што ёй дакладна будзе. Ну вось, нас ужо двое, можна пачынаць, іншыя падцягнуцца, калі будзе куды. Гэтая размова адбылася летам 2009 года, увосень я скантактаваўся з лінгвістамі, яны былі правялі вечар беларускай мовы, якая іх цікавіла ў шэрагу шмат якіх іншых, ад літоўскай да гэльскай, мы сустрэліся, і так усё пачалося. Потым ужо замест лінгвістаў пачалі прыходзіць людзі, зацікаўленыя не мовамі ўвогуле, а менавіта беларускай мовай. Спачатку збіраліся недзе раз на тры тыдні, чалавек па 8–12, а гады тры збіраемся ўжо стабільна раз на два тыдні і значна большай колькасцю.

***— У клуб прыходзілі ўкраінцы?***

— Так, у першыя гады выключна ўкраінцы. Беларусы калі і прыходзілі, дык толькі для таго, каб сустрэць іншых беларусаў. Прыходзяць яны, а тут нейкія ўкраінцы, якія яшчэ і па-беларуску размаўляць. Не, нам не сюды, казалі. І сыходзілі. Быў нейкі дзядзька, не ведаю, магчыма, кадэбіст, які прыйшоў, каб панаракаць на тое, чаму мы... падтрымліваем беларускую апазіцыю.

***— Як жа вы па-беларуску без беларусаў размаўлялі?***

— За той час, пакуль беларусаў сярод нас не было, у нас стварылася свая ўнутраная беларуская мова. Калі мы не ведалі якога-небудзь слова, мы інтуітыўна вырашалі, што гэтае слова, напэўна, будзе нейкім такім. Пачыналі яго выкарыстоўваць, наш калектыў да яго звыкаў. Потым прыходзілі беларусы: «Што? Няма такога слова, націск робіцца не тут і г.д.» Для гэтай нашай унутранай мовы мы нават назву прыдумалі — «тражык», ад словаў «трасянка» і «суржык». Вядома, калі з'явіліся беларусы, яны пачалі наш «тражык» прычэсваць і нармалізаваць.

***— Ці адчуваецца розніца паміж народамі праз мовы?***

— Мова фармуе носьбіта ў вельмі значнай ступені. Пачынаючы размаўляць на іншай мове, адчуваеш сябе крыху іншым чалавекам. У беларускай найперш заўважная мяккасць. Але, скажам, гукі «ч» і «р» значна цвярдзейшыя за ўкраінскія. Неяк я быў у горным паходзе ў Крыме, мы спусціліся ў першую ноч з гораў да мора... ноч, горы, мора, чарната... і я раптам адчуў мора зусім іначай, чым да таго. Калі яно было «морем», яно для мяне было чымсьці павярхоўным. Чайкі там, музычка папсовая, ахаладжальныя напоі, каму пахлавы. А тут я адчуў, што гэта велізарная маса вады, глыбокая, чорная, магутная стыхія. І я не мог назваць яе інакш, чым «морам». Мабыць, яно моцна ўразіла калісьці беларусаў. Ведаючы розныя славянскія мовы, можна часам называць пэўныя рэчы словамі з розных моваў, якія тым рэчам болей пасуюць. Нешта лепей назваць украінскім словам, нешта беларускім, нешта польскім. Гэта прышпільна! Дарэчы, я не збіраўся польскую мову вучыць, але пасля беларускай яна сама неяк вывучылася.

***— Чаго б ты пажадаў чытачам «Новага Часу»?***

— Давайце знаёміцца! Наладжваць гарызантальныя сувязі, запаўняць прабелы савецкай «дружбы народаў», узбагачаць адно аднаго. Ужо і мова агульная ёсць — той самы «тражык».

## Танцюють всі

Падчас беларускай вечарыны ў Кіеве Наталка Белазёрава выканала запальны беларускі народны танец. Яна прывезла яго ва Украіну на конкурс «Танцюють всі», але журы не разумела беларускай мовы, на якой дзяўчына прадстаўляла свой нумар. Мабыць, праз гэта атрымала непрахадны бал. На вечарыне танец прайшоў на ўра, выклікаўшы гучныя воплескі.

Асаблівасць гэтага нумару ў тым, што народны танец, які звычайна выконваецца калектывам, хлопцамі і дзяўчынамі, Наталка выконвае сола. Дзяўчына прыдумала яго падчас вучобы ў Аўстрыі, дзе студэнтаў прасілі прадстаўляць сваю краіну праз розныя мастацкія сродкі.

Варта часцей праводзіць такія мірныя вечарыны і сустрэчы. Давайце знаёміцца, ці што.

# Андрэй Стрыжак: дапамога людзям натхняе

**Беларускага праваабаронцу і народнага дыпламата Андрэя Стрыжака з Рэчыцы добра ведаюць ва Украіне. Ён дапамагаў украінцам падчас падзеяў на Майдане. Дапамагае і цяпер. На пачатку лютага прывёз у прыфрантавы Данбас лекі, што былі набытыя на ахвяраванні беларусаў. У красавіку адвёз у зону АТА рэанімабіль. Пра свой лёс Андрэй Стрыжак распавёў журналісту НЧ Марату Гаравому.**




Рэанімацыйны аўтамабіль «Ратаўніца»

### Жыццё ў Германіі

На маё станаўленне як асобы найбольш паўплывалі тры падзеі. Першая з іх — ад'езд у Германію. Адбылося гэта ў 1994 годзе, калі мне было 9 гадоў. Мой бацька – адзін з першых беларускіх гастарбайтэраў, якія пасля абвалу «жалезнай заслоны» падаліся за мяжу на заробкі. Тата спачатку працаваў у Польшчы, а затым у ФРГ. Жылі ў былым інтэрнаце памежнікаў ГДР на самай мяжы з Заходняй Германіяй. Вучыўся ў мясцовай школе.

Для мяне сталася відавочным, што прыгожая ідэя камунізму не прыстасаваная да людзей і не мае аніякай перспектывы. З іншага боку, бачыў, што заходняя мадэль працуе, людзі жывуць лепш, а адносіны паміж імі больш прыязныя і адкрытыя.

Але давялося сутыкнуцца і з праявамі ксенафобіі, бо некаторыя аднакласнікі ў нямецкай школе ўспрымалі мяне як рускага прыхадня. Аднак гэтыя адзінкавыя выпадкі праяўлення нядобразычлівасці падрабязна разглядаліся на ўзроўні школьнай адміністрацыі, з удзелам дырэктара школы, настаўнікаў і ўсяго класа: дзецям тлумачылі, дзе палягаюць вытокі ксенафобіі, і чаму так рабіць нельга.

### Пералом пазваночніку

Наступным моцным штуршком, які мяне загартаваў, стаў пералом пазваночніку, што адбыўся ў 2005 годзе. Доўгі час не мог хадзіць. Ляжаў у шпіталях Рэчыцы і Гомеля. Магу канстатаваць, што не ўсё так дрэнна ў беларускай медыцыне, бо ёсць сапраўдныя прафесіяналы, дзякуючы якім я вярнуўся да нармальнага стану. Аднак пакуль глядзеў на свет з гарызантальнай пазіцыі, шмат што перагледзеў у сваім жыцці.

Чалавек, які пераадолеў наступствы такой цяжкай траўмы і зноў пачаў хадзіць, адчувае ў сабе моц адолець іншыя жыццёвыя перашкоды. Гады лячэння сталі для мяне своеасаблівай школай жыцця...

### Майдан

Аднак галоўнай падзеяй у маім жыцці стаў кіеўскі Майдан 2013–2014 гадоў, у якім я актыўна ўдзельнічаў як праваабаронца, грамадскі дзеяч і валанцёр. Усё пачалося з даволі драматычнай сітуацыі 6 снежня 2013 года, калі разам з іншымі беларусамі ехаў аўтобусам з Мінска ў Кіеў, каб падтрымаць удзельнікаў Еўрамайдана.

Вечарам нас спынілі міліцыянты каля Мар'інай Горкі. І хаця з дакументамі ў нас усё было ў парадку, нам прапанавалі прайсці ў аддзел міліцыі. Мы адмовіліся і рушылі на бліжэйшую АЗС. У «Фэйсбуку» я тады напісаў: «Аўтобус арыштаваны, пасажыры на волі, ідзем па снежным полі». Мы даволі хутка арганізаваліся: хтосьці вярнуўся, нехта паехаў у Кіеў цягніком, а мы — спачатку ехалі аўтаспынам, затым цягніком.

Самае трывожнае пачалося пасля таго, як дабраліся да Кіева. Частка людзей, што ехалі на Майдан рэйсавым аўтобусам Гомель — Чарнігаў, былі затрыманыя на ўкраінскай мяжы. Ад іх патрабавалі падпісаць абавязацельствы, што ва Украіне яны не будуць займацца супрацьпраўнымі справамі. Аднаго з хлопцаў правакавалі на супрацоўніцтва з СБУ пад пагрозай турэмнага зняволення, на той падставе, што пад яго крэслам у аўтобусе быццам бы знайшлі наркотык. Аднак юнак, дзякуй Богу, аказаўся даволі стойкім.

Пра гэту сітуацыю стала вядома ад украінскага праваабаронцы, які вяртаўся ў Чарнігаў з Вільні і ўбачыў ноччу на мяжы затрыманы аўтобус Гомель — Чарнігаў, што стаяў у агароджаным куце. Прычым больш за 40 гадзін пасажыраў не атрымлівалі ні харчавання, ні вады.

Я тэрмінова стэлефанаваўся з украінскімі калегамі, з офісам амбудсмена ў Кіеве. Ад яго да затрыманых выехала мабільная група ў складзе Юрыя Беларусава і Вадзіма Півавара, а таксама здымачная група тэлеканалу «1+1». Было вельмі цікава назіраць, як у гэтай сітуацыі змянялася стаўленне супрацоўнікаў СБУ і памежнікаў да затрыманых. Спачатку ім далі ваду і пакармілі, а потым увогуле адпусцілі, бо крымінальная справа, хоць і



Андрэй Стрыжак на Майдане

была заведзеная, але падазраваных знайсці не ўдалося.

Я зразумеў, што ўкраінская ўлада не маналітная, а значыць, перамены магчымыя. Але падзеі на вуліцы імя Міхайлы Грушэўскага, якія адбыліся, калі я ўжо быў дома, у Рэчыцы, напачатку ўспрыняў супярэчліва, як эскалацыю гвалту з абодвух бакоў. Пераход ад мірнага супраціву да рэвалюцыі для мяне быў абсалютна не прымальны. Аднак калі паглядзеў анлайн падзеяў на Майдане ў ноч з 18 на 19 лютага, калі гарэў Дом прафсаюзаў, быў настолькі ўзрушаны, што адразу ж сабраўся на вакзал, і 20-га раніцай я быў ужо ў Кіеве.

Так атрымалася, што літаральна праз пару гадзінаў я пачаў працаваць на гарачай лініі валанцёрскай ініцыятывы «Еўрамайдан-SOS». 20 лютага 2014 года — трагічны дзень крывавых падзей на вуліцы Інстытуцкай. Мы злучалі тых, хто шукаў падтрымку, з тымі, хто хацеў дапамагчы іншым. Увесь дзень дзяжурыў на тэлефоне і прымаў інфармацыю пра параненых і забітых. Не было часу нават збегаць у прыбіральню, бо на кожны наш тэлефон прыпадала да 70 званкоў на гадзіну. Найбольш драматычныя званкі былі ад сем'яў, якія шукалі сваіх родных. Некалькі разоў мне давялося чытаць пахавальныя.

Пасля вяртання дахаты перажыў посттраўматычны сіндром, які цягам тыдня моцна адчуў ва ўсіх яго прыўкрасах. Але было не толькі гэта. Майдан мяне дашліфаваў, я спазнаў баявое братэрства — зрадніўся з аператарам «Белсату» Алесем Баразенкам, які падчас майго знаходжання ў Кіеве асвятляў падзеі ва Украіне.

### Дапамога Украіне

З сябрамі па народнай дыпламатыі мы зрабілі чатыры гуманітарныя вандроўкі ва Украіну. Дастаўлялі самае неабходнае з медыкаментаў і медычнага абсталявання, што, каб не везці праз мяжу, набывалі ва Украіне на сродкі, сабраныя ў Беларусі. Раней мы дапамагалі шпіталям сістэмы Міністэрства аховы здароўя Украіны, а зараз працуем з Першым добраахвотным мабільным шпіталем імя Міколы Пірагова, таму што з ягонымі валанцёрамі лёгка знайшлі агульную мову.

Маршрут апошняй вандроўкі пралягаў праз Харкаў, Арцёмаўск, Чырвонаармейск і Днепрапятроўск. У шпіталь імя Міколы Пірагова мы прыгналі з Нямеччыны машыну хуткай дапамогі, назвалі яе «Ратаўніца» і ўпрыгожылі налепкамі з украінскай вышыванкай. Рэанімабіль урачыста перадалі кіраўніку шпіталя Яўгену Найштэцку. «Ратаўніца» адразу ж заступіла на баявое дзяжурства, тым больш што 12 красавіка пачалася актывізацыя баявых дзеянняў на данецкім накірунку.

Таксама вядзем збор рэчаў для перасяленцаў з зоны АТА, сем'яў загінулых і параненых байцоў, якія жывуць у Чарнігаўскай вобласці. Разам з медыкаментамі, медычным абсталяваннем і рэчамі перадаём украінцам шакалад гомельскага «Спартака», глыбоцкую і рагачоўскую згушчонку.

Я і раней ведаў, што дапамога іншым натхняе, а зараз упэўніўся ў гэтым. Бо валанцёрская праца захоплівае, калі ты адчуваеш рэальныя вынікі. Калі разумееш, што «Ратаўніца», медыкаменты і медычнае абсталяванне, прыдбаныя на грошы беларусаў, ратуюць людзям жыццё, калі бачыш, што нашая дапамога надае павагі беларусам. Усё гэта матывуе. Зараз мы вядзем збор сродкаў на джып для медыкаў шпіталя імя Міколы Пірагова. Сам я падчас валанцёрскай працы набыў шмат добрых калегаў і сяброў, у тым ліку Вольгу Гальчанка і Аляксандру Алёшыну.

### Беларусам патрэбны дыялог

Сёння шмат хто ў Беларусі, незалежна ад сваіх палітычных поглядаў і сімпатый, разумее, што без пераменаў краіна можа страціць незалежнасць. У сітуацыі, калі з боку Расіі існуе такая патэнцыйная пагроза, натуральнымі хаўруснікамі для беларускіх уладаў становяцца тыя абаронцы незалежнасці краіны, якія шмат год хацелі, каб Лукашэнка сышоў. З іншага боку, мы не можам паступацца прынцыпамі і забыцца на палітзняволеных, на парушэнні правоў чалавека. Але ў нас з'яўляецца шанец неяк паўплываць на сітуацыю, бо ўлада даволі няпэўна сябе паводзіць.

Да прыкладу, калі мы 24 лютага мінулага года вярталіся з украінскага Майдану, не выключалі, што нас могуць павязаць нават у цягніку як патэнцыйных бунтаўшчыкоў. Аднак пайшоў другі год пасля вяртання на Радзіму, і я не магу назваць ні аднаго факту, які б засведчыў увагу спецслужбаў да мяне ці да маіх сваякоў.

Складваецца ўражанне, што ўлады ўвогуле не жадаюць акцэнтаваць увагу на маіх вандроўках ва Украіну. У гэтым ёсць шанец заахвоціць больш шырокія колы грамадства хоць да нейкіх пераменаў. Ну, хаця б на правядзенне культурніцкіх акцыяў па папулярызацыі беларускай мовы, нацыянальнай сімволікі, увогуле айчыннай спадчыны. Гэта вельмі эмацыйныя акцыі, якія аб'ядноўваюць нацыю, бо даюць кожнаму яе ўдзельніку адчуванне пляча суайчынніка.

Я бачыў Майдан ва ўсіх ягоных праявах — ад мірных ініцыятываў да крыві, і ведаю, што гвалтоўны варыянт — не лепшы для зменаў у грамадстве. І вельмі б не хацелася, каб сітуацыя ў Беларусі пайшла менавіта па ўкраінскім варыянце. Спадзяюся, што ў нас на ўсе бакі хопіць вытрымкі і разумення сітуацыі. Бо калі размова не атрымліваецца, перамагае гвалт.

Трэба ісці на дыялог, настойліва і сістэматычна шукаць тыя агульныя кропкі, што дапамогуць пашырыць узаемаразуменне і знайсці выйсце з любой сітуацыі, нават той, якая часам здаецца абсалютна тупіковай.

ЛІСТ У НУМАР

# Дармаедская арыфметыка

**З лёгкай рукі тых, хто ўвесь час глядзіць у чужыя кішэні, каб набіць свае, я трапіла ў разрад дармаедаў. Цяпер мне кажуць, што я павінна ісці працаваць, а калі не, дык сплаціць невядома каму 20 базавых велічынь (3 мільёны 600 тысяч рублёў).**

Я гатова пайсці працаваць, каб нарэшце ўлады атрымалі ад мяне падаходны падатак (дарэчы, увесь гэты час я плаціла іншыя падаткі: напрыклад, падатак на дабаўленую вартасць ці дарожны падатак). Але ці гатова ўлада вярнуць мне тыя грошы, што я і мая сям'я згубяць, калі я пайду на працу? Ці гатовы яны таксама кампенсаваць маёй сям'і маральныя страты? Каб зразумець, пра якія лічбы ідзе гаворка, займуся арыфметыкай.

Але спачатку пра сябе. У мяне вышэйшая педагагічная адукацыя, у шлюбе 30 гадоў, сыну 27 гадоў. Да пенсійнага ўзросту не хапае яшчэ 6 гадоў. Працавала каля года.

Пасля заканчэння ВНУ ў мяне нарадзілася дзіця, пасля доўгі час ніхто не браў на працу, ну а калі працу я нарэшце знайшла, сын пачаў хварэць, і мне давялося звольніцца. Муж у мяне не бізнесмен, таму лішніх грошай ніколі не было. І я пачала весці хатнюю гаспадарку, каб мы маглі нармальна жыць на той заробак, што быў у мужа.

Дык вось пра грошы. Дапусцім, я зараз знайду працу. Праўда, з улікам адсутнасці стажу і вопыту, ды яшчэ амаль перадпенсійнага ўзросту, наўрад ці гэта будзе нешта з заробкам большым за 3–4 мільёны. Але давайце падлічым, колькі я страчу.

Паколькі я не змагу штодня гатаваць абеды, то мая сям'я і я вымушаны будзем харчавацца ў сталоўках. Сярэдні кошт такога абеду 50–70 тысяч на чалавека. То бок наша сям'я штодня будзе выкідаць каля 200 тысяч рублёў на ежу сумнеўнай якасці, замест таго, каб харчавацца за прыкладна 50 тысяч на дзень. З улікам таго, што працоўных дзён 20–22 на месяц, нашы страты складуць прыкладна 3 мільёны рублёў штомесяц.

Паколькі часу на гатаванне нармальнай вячэры ў мяне таксама не будзе, мы будзем збольшага купляць паўфабрыкаты, а значыць, губляць яшчэ прыкладна 50 тысяч на дзень, то бок 1 мільён на месяц.

Акрамя таго, мне спатрэбіцца праязны ці дадатковыя грошы на паліва, калі мяне будзе давозіць да працы муж. Гэта яшчэ прыкладна 200–300 тысяч рублёў.

Шмат што з гардэробу нашай сям'і зроблена маімі рукамі (я добра шыю і вяжу). Швэдры, сукенкі, штаны, пасцельную бялізну і яшчэ шмат што зараз прыйдзецца купляць. А каштуе гэта ўсё ў нашых крамах нятанна.

А зараз зробім падлік: 3 мільёны плюс 1 мільён і плюс яшчэ 1 мільён на праезд і вопратку — у выніку каля 5 мільёнаў будзе каштаваць нашай сям'і выхад на працу. То бок мінус 2 мільёны (а гэта ўжо з заробку майго мужа) штомесяц.

І яшчэ, не выключана, што пасля таго, як я пайду на працу, мне давядзецца звяртацца ў паліклініку. А, між іншым, за апошнія 25 гадоў я была ў нашай раённай паліклініцы ўсяго некалькі разоў, і тое мяне выклікалі. Гінеколага і стаматолага я наведваю прыватнага. Такім чынам, ужо не я, а дзяржава страціць ад майго бальнічнага і таго, што на мяне пойдуць бюджэтныя сродкі, выдзеленыя на медыцыну.

Ну і, дарэчы, як быць з псіхалагічным кліматам у сям'і? Увесь гэты час мае мужчыны бачылі ад мяне толькі пазітыў. Я з радасцю чакаю іх дахаты, з радасцю правожу на працу. І хаця ацаніць маральную шкоду ад майго выхаду на працу пакуль не магчыма, упэўнена, што гэта адаб'ецца на нашай сям'і не лепшым чынам.

У сувязі з гэтым у мяне пытанні да ўлады: да каго асабіста я магу звярнуцца, каб спагнаць тыя 2 мільёны на месяц, якія страціць наша сям'я? Хто кампенсуе нам маральныя страты? Хто дасць грамадзянам уцямную справаздачу, як чыноўнікі марнуюць нашы грошы?

**Лілія Р., Мінск**

# Брукаванку — у спіс каштоўнасцяў Беларусі

Марат ГАРАВЫ

**Грамадскасць ініцыюе ўнясенне старадаўняга брукаванага шляху, па якім хадзіў Якуб Колас, у Дзяржаўны спіс гісторыка-культурных каштоўнасцяў Рэспублікі Беларусь.**



Такой прыгожай была брукаванка Стоўбцы — Новы Свержань раней (фота Алеся Гутоўскага)

Беларускія брукаванкі патрабуюць пільнай увагі грамадства і дзяржавы. Да такой высновы прыйшлі прадстаўнікі грамадскасці — удзельнікі прэс-туру, што прайшоў па Стаўбцоўскім раёне Мінскай вобласці.

Арганізатарамі прэс-туру выступілі ініцыятары кампаніі #brukavanka — аргкамітэт грамадскага аб'яднання «Мінскае гарадское таварыства аматараў беларускай гісторыі імя Вацлава Ластоўскага», грамадская ініцыятыва «Еўраперспектыва» і Міжнароднае грамадскае аб'яднанне эколагаў.

Паміж горадам Стоўбцы і вёскай Новы Свержань пралягае гістарычная брукаванка з прыгожымі прысадамі са старых таполяў. Напрыканцы 2014 года на ўчастку брукаванкі працягласцю 1,4 кіламетра па загаду раённых уладаў дарожнікі пачалі выразаць прысады, што занепакоіла мясцовых жыхароў. Яны дазналіся ад чыноўніцтва пра намер пашырыць брукаванку, заасфальтаваць яе і зрабіць часткай аб'язной дарогі вакол Стоўбцаў. Аднак гараджане з такімі планамі не пагадзіліся, бо не бачаць у іх аніякага сацыяльна-эканамічнага сэнсу.



Валер Дранчук

Эколаг, публіцыст і краязнаўца Валер Дранчук, які нарадзіўся на Стаўбцоўшчыне, праз інтэрнэт заклікаў грамадскасць бараніць брукаванку, якая памятае народнага паэта Беларусі Якуба Коласа. На гэты заклік адгукнуліся структуры грамадзянскай супольнасці, якія дзеля захавання гістарычнай дарогі распачалі кампанію #brukavanka.

Падчас яе мясцовыя жыхары назбіралі 350 подпісаў супраць руйнавання дарогі, ініцыятарамі кампаніі была пададзеная заяўка на правядзенне ў цэнтры Стоўбцаў пікету ў абарону брукаванкі, накіравалі ў Стаўбцоўскі райвыканкам зварот больш чым 50 грамадзян з просьбай захаваць гістарычны шлях, стварыць камісію з удзелам мясцовых жыхароў і экспертаў для ўсебаковага разгляду сітуацыі і выпрацоўкі кампраміснага варыянту.

Аднак старшыня Стаўбцоўскага райвыканкама Юры Горлаў адмовіў заяўнікам ў пікеце і паведаміў, што на ўчастку брукаванкі выконваюцца работы «па добраўпарадкаванні прыдарожнай паласы, якія ўключаюць у сябе: прыборку старых дуплаватых дрэваў і тых, у якія трапіла маланка, высяканне кустоўя на прылеглых да дарогі сельскагаспадарчых угоддзях, прараджванне і навядзенне парадку ўздоўж чыгункі» (дарэчы, як сведчаць актывісты кампаніі, пад выглядам вырубкі аварыйна небяспечных дрэваў былі знішчожаныя магутныя таполі, якія перажылі, у тым ліку, моцныя ўраганы 1983 і 1996 гадоў, калі пяцідзесяцігадовы лес у ваколіцах горада стыхія ламала, як запалкі). Разам з тым, старшыня райвыканкаму зазначыў, што «на 2015 год іншых мерапрыемстваў па названым вышэй участку дарогі не прадугледжана», і не задаволіў просьбу заяўнікаў пра стварэнне адмысловай камісіі.

Як распавёў мясцовы краязнаўца Алесь Гутоўскі, брукаванка Стоўбцы — Новы Свержань была пабудаваная за палякамі яшчэ ў 1934 годзе на трасе былога шляху, які застаўся ў памяці старажылаў як Кацярынінскі гасцінец. Само будаўніцтва дарогі спрыяла больш эфектыўнаму землекарыстанню, бо кожны гаспадар абавязаны быў сабраць з палёў некалькі вазоў камення, а тыя, хто прыязджаў у горад, павінны былі прывезці з сабою і скласці ў крушні не менш за 20 камянёў. Прычым брукаванка мела адпаведны дугападобны профіль, які забяспечваў вадасцёк, цэнтр дарогі быў выкладзены меншым, а краі — большым каменнем.



Алесь Гутоўскі



Міхась Кутас

Мясцовы краязнаўца Міхась Кутас расказаў пра свае асабістыя высілкі ў абарону брукаванкі і адзначыў, што гістарычны шлях трэба не толькі захаваць, але і ўзнавіць яго аўтэнтычны профіль, а таксама аднавіць былыя прысады. Менавіта пра гэта спадар Міхась рыхтуе ліст у Адміністрацыю.

Дарэчы, у Беларусі ёсць прыклады беражлівага стаўлення мясцовых улададаў да гістарычных брукаванак — плёну ручной карпатлівай працы і вялікіх чалавечых намаганняў не аднаго пакалення беларусаў. Так, у цэнтры Баранавічаў на частцы вуліцы Савецкай старую брукаванку не толькі захавалі, але і адрэстаўравалі.

Паводле словаў Валера Дранчука, паколькі брукаванка Стоўбцы — Новы Свержань мае 80-гадовае мінулае, яна з'яўляецца не толькі ўзорам экалагічнага гаспадарання, бо ў адрозненне ад асфальту не забруджвае навакольнае асяроддзе, але і часткай нацыянальнай гістарычна-культурнай спадчыны — брук быў традыцыйным будаўнічым матэрыялам беларусаў. Нельга дапусціць, каб частка гэтай шыкоўнай брукаванкі, якая трымае цудоўны мясцовы краявід, была пахаваная пад асфальт, лічыць спадар Валер. Ён нагадаў, што гэта эстэтычная вышыванка каменнем на ландшафце, якая вядзе ў Нясвіж і Мір, прылягае да Нёмана, ягонай поймы і Стоўбцаў, з'яўляецца часткай зялёнай зоны вакол горада. Вось чаму грамадскасць будзе бліжэйшым часам ініцыяваць унясенне старадаўняга шляху, па якому хадзіў Якуб Колас, у Дзяржаўны спіс гісторыка-культурных каштоўнасцяў Рэспублікі Беларусь, падкрэсліў Валер Дранчук.

Гэтую ідэю падтрымаў і колішні старшыня райвыканкама Іван Ліхач, які прыехаў працаваць у Стоўбцах у 1960-я гады, калі ўвесь горад ляжаў у бруку. Дык няхай брукаванка Стоўбцы — Новы Свержань будзе помнікам быламу, цалкам брукаванаму гораду, заявіў Іван Ліхач.



Віктар Яўмененка

Старшыня аргкамітэту «Мінскага гарадскога таварыства аматараў беларускай гісторыі імя Вацлава Ластоўскага» Віктар Яўмененка выказаў падзяку ўсім актывістам кампаніі, у першую чаргу каардынатару «Еўраперспектывы» Дзянісу Кобрусеву. Ініцыятары кампаніі разам з краязнаўцамі будуць рупіцца айчыннымі брукаванкамі, каб захаваць іх для Бацькаўшчыны.

TV

## 29 КРАСАВІКА, СЕРАДА

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.00** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00** Навіны.
**07.05** Навіны эканомікі.
**07.10** Зона Х. Крымінальная хроніка.
**07.20** Добрай раніцы, Беларусь!
**08.00** Навіны.
**08.05** Навіны эканомікі.
**08.10** Зона Х. Крымінальная хроніка.
**08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**09.00** Навіны.
**09.15** Дэтэктыўная меладрама «Крэўныя повязі» (Расія). 1-я і 2-я серыі.
**12.00** Навіны.
**13.05** Дзень у вялікім горадзе.
**14.00** Камедыйны серыял «Маша ў законе!».
**15.00** Навіны.
**15.15** Навіны рэгіёну.
**15.30** Меладрама «20 гадоў без кахання» (Расія).
**16.35** Серыял «Сямейныя меладрамы - 2».
**17.35** Беларуская часіна.
**18.40** Навіны рэгіёну.
**19.00** Навіны.
**19.20** Сфера інтарэсаў.
**19.40** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**20.00** Ваенна-прыгодніцкі дэтэктыў «Ваенная разведка. Першы ўдар» (Расія).
**21.00** Панарама.
**21.45** Актуальнае інтэрв'ю.
**22.10** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**00.00** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**00.20** Сфера інтарэсаў.
**00.45** Навіны.
**01.00** Дзень спорту.
**01.15** Меладрама «20 гадоў без кахання» (Расія).

### Н

**06.00, 06.30, 07.00, 07.30, 08.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30, 23.10** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.05** «Жыць здарова!».
**10.25** «Кантрольная закупка».
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Фазэнда».
**11.50** «Модны прысуд».
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Мужчынскае / Жаночае».
**14.10** «Сам-насам з усімі».
**15.10** «Час пакажа».
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Час пакажа».
**16.50** «Давай пажэнімся!».
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** Серыял «Татавы дочкі».
**18.50** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Вайна машын. С-65».
**21.40** Серыял «У вас будзе дзіця..».
**23.40** «Анёл або дэман». Тэлесерыял.
**00.35** «Вячэрні Ургант».
**01.10** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**08.30** «Патрыманыя львы». Мастацкі фільм.
**10.40** «Званая вячэра».
**11.35** «Сямейныя драмы».
**12.30** «Не хлусі мне!».
**13.50** Добры сродак.
**14.45** «Смак забойства». Тэлесерыял.
**16.50** «Мінск і мінчане».
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Званая вячэра».
**18.30** Тэлесерыял «Мяжа часу».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Пароль» Рыба-меч «. Мастацкі фільм.
**22.05** «Глядзець усім!».
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Гарачы лёд».
**23.20** «Смак забойства». Тэлесерыял.
**01.00** «Сакрэтныя тэрыторыі».
**01.50** Тэлесерыял «Мяжа часу».

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.00** Тэлераніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Вострасюжэтны дэтэктыў «Асабістыя матывы» (Расія).
**10.05** Fitnews. Праграма пра прыгажосць і здароўе.
**10.35** Дэтэктыўны серыял «Косці» (ЗША).
**12.25** Зразумець і абясшкодзіць.
**13.00** Вышэй за дах.
**13.50** Меладрама «Мой восеньскі блюз».
**15.45** Рэпарцёр.
**16.40** Вострасюжэтны дэтэктыў «Асабістыя матывы» (Расія).
**17.45** Авантурна-камедыйны серыял «Віртуозы» (Вялікабрытанія).
**18.45** Камедыйны серыял «Інтэрны» (Расія).
**20.10** футзала. Чэмпіянат свету. Групавы этап. 1/4 фіналу. Прамая трансляцыя.
**21.25** Тэлебарометр.
**21.30** Спортлата 5 з 36, КЕНО.
**21.40** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА. 1/4 фіналу. «Манака» - «Ювентус». Прамая трансляцыя.
**23.45** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА. 1/4 фіналу. Агляд.
**00.15** Моладзевы серыял «Як я сустрэў вашу маму» (ЗША).
**00.40** Містычны серыял-фэнтэзі «Быць чалавекам» (Вялікабрытанія).

### 3 БЕЛАРУСЬ

**07.20** «Дабраранак».
**07.50** «Хачу ўсё ведаць!». Навукова-папулярны відэачасопіс для дзяцей.
**08.00** Калейдаскоп.
**08.10** «Жазэф Бальзамо». Гістарычная драма. 4-я серыя (Аўстрыя, Францыя, 1972 г.).
**09.05** «Дзяржаўная граніца». Фільм трэці «Усходні рубеж» 2-я серыя (СССР, 1982 г.).
**10.15** «Дыя@блог». «Пра прыгожае».
**10.40** «Паветраплавальнік». Біяграфічны фільм (СССР, 1975 г.).
**12.10, 23.05** «Святло далёкай зоркі». Памяці драматурга і тэатральнага крытыка Канстанціна Губарэвіча.
**12.40** Калейдаскоп.
**12.50** «Сустрэчы ў Букваедзе». Пісьменнікі Канстанцін Іўлеў і Юрый Ражкоў.
**13.30** «Навукаманія». Чарнобыль: праца над памылкамі.
**14.00** «Наперад у мінулае».
**14.25** «Лёс гігантаў». «Беларуськалій».
**14.55** «Кола». Кароткаметражны фільм (СССР, 1977 г.).
**15.20** «Персона». Вікторыя Тарасава.
**15.35** «Гваздзік». Біяграфічная драма (Японія, 2011-2012 гг.).
**16.25** «Персона». Аляксандр Збруеў.
**16.50** «Музычная гісторыя». Камедыя (СССР, 1940 г.).
**18.10** «Дыя@блог». «Пра прыгожае».
**18.35** «Жазэф Бальзамо». Гістарычная драма. 4-я серыя (Аўстрыя, Францыя, 1972 г.).
**19.30** Калейдаскоп.
**19.40** «Дзяржаўная граніца». Фільм чацвёрты «Чырвоны пясок» 1-я серыя (СССР, 1984 г.).
**20.45** Калыханка.
**21.00** «Дыя@блог». «Пра прыгожае».
**21.25** «Сібірыяда». Эпічны кінараман. Частка 1-я і 2-я (СССР, 1977 г.).
**23.30** «Персона». Іван Ахлабысцін.
**23.50** Калейдаскоп.

### 5 БЕЛАРУСЬ

**06.15** PRO спорт. Навіны.
**06.45** Футзала. Чэмпіянат свету. Групавы этап. Бельгія - Нарвегія.
**07.50** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА. Чвэрцьфінал.
**09.40** Футзала. Чэмпіянат свету. Групавы этап. Парагвай - Марока.
**10.45** Баскетбол. НБА. Плэй-оф. Таронта - Вашынгтон.
**12.45** Козел пра футбол.
**13.00** - 17.40 Тэніс. Турнір ВТА. Штутгарт. Прамая трансляцыя.
**17.40** Спорт-кадр.
**18.10** Футзала. Чэмпіянат свету. Чвэрцьфінал. Прамая трансляцыя.
**19.25** Валейбол. Чэмпіянат Беларусі. Фінал. Пяты матч. БАТЭ-БДЭУ (Барысаў) - Будаўнік (Мінск).
**21.35** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА. Чвэрцьфінал. Рэал - Атлетыка. Прамая трансляцыя.
**23.35** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА. Чвэрцьфінал. Манака - Ювентус.
**01.25** PRO спорт. Навіны.

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Студыя «Белсат».
**07.30** Рэпартэр (публіцыстычная праграма).
**08.00** Студыя «Белсат».
**10.20** Два на два (тэледыскусія).
**10.50** «Сваё месца», рэпартаж.
**11.10** «Размовы з конямі», дак. фільм.
**11.35** Беларусы ў Польшчы.
**11.50** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**12.20** Студыя «Белсат».
**12.50** Рэпартэр (публіцыстычная праграма).
**13.20** Студыя «Белсат».
**15.40** Два на два (тэледыскусія).
**16.10** «Сваё месца», рэпартаж.
**16.30** «Размовы з конямі», дак. фільм.
**16.55** «Чарнобыльская званы», дак. фільм.
**17.55** Зоры не спяць: Святлана Алексіевіч.
**18.30** Студыя «Белсат».
**18.55** Асабісты капітал.
**19.15** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнавальная праграма): Таргавіцкая канфедэрацыя.
**19.30** Студыя «Белсат»: Навіны.
**19.35** Студыя «Белсат»: Свет.
**19.50** Агляд падзеяў культуры.
**20.00** Студыя «Белсат»: Навіны.
**20.10** Студыя «Белсат»: Агляд медыяў.
**20.15** Студыя «Белсат»: Гарачы каментар.
**20.30** Студыя «Белсат»: Навіны.
**20.35** Студыя «Белсат»: Гарачы каментар.
**20.50** Сальда (эканамічная праграма).
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Студыя «Белсат»: Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова / С. Калінкінай.
**21.50** Маю правa (юрыдычная праграма).
**22.15** Чорным па белым (культурніцкая праграма): Урокі Украіны.
**22.40** Людскія справы.
**23.15** Эксперт (сатырычная праграма).
**23.40** «Добраахвотнікі», дак. фільм.
**00.25** Студыя «Белсат».

## 30 КРАСАВІКА, ЧАЦВЕР

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.00** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00** Навіны.
**07.05** Навіны эканомікі.
**07.10** Зона Х. Крымінальная хроніка.
**07.20** Добрай раніцы, Беларусь!
**08.00** Навіны.
**08.05** Навіны эканомікі.
**08.10** Зона Х. Крымінальная хроніка.
**08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**09.00** Навіны.
**09.15** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**10.55** Ваенна-прыгодніцкі дэтэктыў «Ваенная разведка. Першы ўдар».
**12.00** Навіны.
**12.10** Серыял «Сямейныя меладрамы - 2».
**13.05** Дзень у вялікім горадзе.
**14.00** Камедыйны серыял «Маша ў законе!» (Расія).
**15.00** Навіны.
**15.15** Навіны рэгіёну.
**15.30** Меладрама «20 гадоў без кахання».
**16.35** Серыял «Сямейныя меладрамы - 2».
**17.35** Беларуская часіна.
**18.40** Навіны рэгіёну.
**19.00** Навіны.
**19.20** Сфера інтарэсаў.
**19.40** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**20.00** Ваенна-прыгодніцкі дэтэктыў «Ваенная разведка. Першы ўдар» (Расія).
**21.00** Панарама.
**21.45** Спецыяльны рэпартаж.
**22.10** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**23.55** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**00.15** Сфера інтарэсаў.
**00.40** Навіны.
**00.55** Дзень спорту.
**01.10** Меладрама «20 гадоў без кахання» (Расія).

### Н

**06.00, 06.30, 07.00, 07.30, 08.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30, 23.10** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.05** «Жыць здарова!».
**10.25** «Кантрольная закупка».
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Фазэнда».
**11.50** «Модны прысуд».
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Мужчынскае / Жаночае».
**14.10** «Сам-насам з усімі».
**15.10** «Час пакажа».
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Час пакажа».
**16.50** «Давай пажэнімся!».
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** Серыял «Татавы дочкі».
**18.50** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Прэм'ера АНТ «Трэба разабрацца».
**21.30** Серыял «У вас будзе дзіця..».
**23.30** «Чайф. 25 гадоў вытрымкі». Канцэрт.
**01.20** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**08.30** «Пароль» Рыба-меч «. Мастацкі фільм.
**10.10** «Сардэчна паскардзіцца».
**10.40** «Званая вячэра».
**11.35** «Сямейныя драмы».
**12.30** «Не хлусі мне!».
**13.50** «Добры сродак».
**14.45** «Смак забойства». Тэлесерыял.
**16.50** «Прыгоды дылетанта».
**17.25** «Міншчына».
**17.35** «Званая вячэра».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Аналізуй то». Мастацкі фільм.
**22.00** «Глядзець усім!».
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Аўтапанарама».
**23.20** «Смак забойства». Тэлесерыял.
**01.00** «Таямніцы свету з Ганнай Чапман».
**01.50** «Легенды Рэтра ФМ».

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.00** Тэлераніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Вострасюжэтны дэтэктыў «Асабістыя матывы» (Расія).
**10.05** Беларуская кухня.
**10.40** Фільм-катастрофа «Тытанік» (ЗША).
**14.00** Кіпень.
**14.20** Ікра.
**14.55** Камедыйны серыял «Інтэрны» (Расія).
**16.00** Перазагрузка.
**16.45** Вострасюжэтны дэтэктыў «Асабістыя матывы» (Расія).
**17.50** Авантурна-камедыйны серыял «Віртуозы» (Вялікабрытанія).
**18.50** Камедыйны серыял «Інтэрны» (Расія).
**21.00** Цела чалавека.
**21.30** Тэлебарометр.
**21.35** Спортлата 6 з 49, КЕНО.
**22.00** Футбол. Ліга Еўропы УЕФА. 1/4 фіналу. Прамая трансляцыя.
**00.05** Футбол. Ліга Еўропы УЕФА. 1/4 фіналу.

### 3 БЕЛАРУСЬ

**07.15** «Дабраранак».
**07.50** «Хачу ўсё ведаць!». Навукова-папулярны відэачасопіс для дзяцей.
**08.00** Калейдаскоп.
**08.10** «Жазэф Бальзамо». Гістарычная драма. 5-я серыя (Аўстрыя, Францыя, 1972 г.).
**09.05** «Дзяржаўная граніца». Фільм чацвёрты «Чырвоны пясок» 1-я серыя (СССР, 1984 г.).
**10.05** Прэм'ера. «Грані Перамогі». Дак. серыял.
**10.35** «Сібірыяда». Эпічны кінараман. Частка 1-я і 2-я (СССР, 1977 г.).
**12.15** «Святло далёкай зоркі». Памяці мастацтвазнаўцы Гурыя Барышава.
**12.45** Калейдаскоп.
**12.55** «Джазавая панарама». Біг-бэнд Нацыянальнага аркестра пад кіраўніцтвам М.Фінберга.
**14.30** «Выпадковая сустрэча». Камедыя (СССР, 1936 г.).
**15.35** «Наперад у мінулае».
**16.00** «Персона». Віктар Мярэжка.
**16.30** «Гваздзік». Біяграфічная драма (Японія, 2011-2012 гг.).
**17.00** «Размаўляем па-беларуску». Тэлевіктарына.
**17.30** «Сіла веры».
**18.00** Прэм'ера. «Грані Перамогі». Дак. серыял.
**18.25** «Жазэф Бальзамо». Гістарычная драма. 5-я серыя (Аўстрыя, Францыя, 1972 г.).
**19.20** Калейдаскоп.
**19.30** «Дзяржаўная граніца». Фільм чацвёрты «Чырвоны пясок» 2-я серыя (СССР, 1984 г.).
**20.45** Калыханка.
**21.05** Прэм'ера. «Грані Перамогі». Дакументальны серыял.
**21.35** «Сібірыяда». Эпічны кінараман. Частка 3-я і 4-я (СССР, 1977 г.).
**23.10** «Святло далёкай зоркі». Памяці мастацтвазнаўцы Гурыя Барышава.
**23.40** «Персона». Алена Драпека.
**23.55** «Персона». Раман Вікцюк.
**00.20** Калейдаскоп.

### 5 БЕЛАРУСЬ

**05.35** Баскетбол. НБА. Плэй-оф. Кліпэрз - Сан-Антонія. Прамая трансляцыя.
**08.00** PRO спорт. Навіны.
**08.15** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА. Чвэрцьфінал. Агляд матчаў.
**08.45** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА. Чвэрцьфінал.
**10.35** Футзала. Чэмпіянат свету. Чвэрцьфінал.
**11.35** Баскетбол. НБА. Плэй-оф. Кліпэрз - Сан-Антонія.
**13.00-19.00** Тэніс. Турнір ВТА. Штутгарт. Прамая трансляцыя.
**19.00** Авертайм.
**19.25** Хакей. КХЛ. Фінал. Сёмы матч. Ак Барс - СКА. Прамая трансляцыя.
**22.00** Футбол. Ліга Еўропы УЕФА. Чвэрцьфінал. Зеніт - Севілья. Прамая трансляцыя.
**00.00** Футбол. Ліга Еўропы УЕФА. Чвэрцьфінал. Днепр - Бругге.
**01.50** PRO спорт. Навіны.

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Студыя «Белсат».
**07.25** Асабісты капітал.
**07.45** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнавальная праграма): Таргавіцкая канфедэрацыя.
**08.00** Студыя «Белсат».
**10.20** Маю правa (юрыдычная праграма).
**10.45** Чорным па белым (культурніцкая праграма): Урокі Украіны.
**11.10** Людскія справы.
**11.45** «Падарожжа на Далёкі Усход: з Берліну ў Токіа», дак. серыял: ч. 6: «З Бангкоку ў Паўднёвы В'етнам».
**12.40** Студыя «Белсат».
**13.10** Асабісты капітал.
**13.30** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнавальная праграма): Таргавіцкая канфедэрацыя.
**13.40** Студыя «Белсат».
**16.05** Маю правa (юрыдычная праграма).
**16.25** Людскія справы.
**16.55** Мова нанова: «Слэнг».
**17.15** «Падарожжа на Далёкі Усход: з Берліну ў Токіа», дак. серыял: ч. 6: «З Бангкоку ў Паўднёвы В'етнам».
**18.10** «Сваё месца», рэпартаж.
**18.30** Студыя «Белсат».
**18.55** Два на два (тэледыскусія).
**19.30** Студыя «Белсат»: Навіны.
**19.35** Студыя «Белсат»: Свет.
**19.50** Агляд падзеяў культуры.
**20.00** Студыя «Белсат»: Навіны.
**20.10** Студыя «Белсат»: Агляд медыяў.
**20.15** Студыя «Белсат»: Гарачы каментар.
**20.30** Студыя «Белсат»: Навіны.
**20.35** Студыя «Белсат»: Гарачы каментар.
**20.50** Сальда (эканамічная праграма).
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Студыя «Белсат»: Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова / С. Калінкінай.
**21.50** Рэпартэр.
**22.20** Відзьмо-невідзьмо (інфармацыйна-забаўляльны агляд).
**22.45** «Крэпасць», дак. фільм.
**00.00** Студыя «Белсат».

# Літаратурная Беларусь

Выпуск №4 (104)
(красавік)

КУЛЬТУРНА-АСВЕТНІЦКІ ПРАЕКТ
Грамадскага аб'яднання «Саюз беларускіх пісьменнікаў» і «Новага Часу»

lit-bel.org
novychas. info

## Змест



## Сяргей Законнікаў:

# «Вершы не пішуцца, а нараджаюцца»

***— Сяргей Іванавіч, у вершы «Лёгкі хлеб» Вы пішаце: «Лёгкім хлебам паэзію лічаць, стараюцца // «Ад сахі і станка» праўвацца да слова... // Ды метафары ўсё ж мазалём не ствараюцца, // Нельга рыфмы спарадкаваць, быццам дровы...». Як адрозніць сапраўдную паэзію ад штукарства?***

— Практычна ўсе людзі ў маленстве або ў юнацтве нешта рыфмуюць, рытмічна прамаўляюць нейкія радкі. Многія цішком запісваюць свае практыкаванні і лічаць іх паэзіяй. Сапраўдныя паэтычныя здольнасці, талент даюцца чалавеку Вышэйшай Воляю і не так часта, як гэта некаму здаецца. Апошнім часам агульны ўзровень якасці паэзіі катастрафічна знізіўся, бо ў літаратуру кінуліся ўсе, каму не лянота. Гэтым грашаць пенсіянеры, асабліва ў якіх няма лецішча.

Для мяне адрозніць сапраўдную паэзію ад штукарства не надта складана. Калі ў тэксце няма сардэчнага хвалявання, шчырасці і цяпла, натуральных перажыванняў, здзіўляючых назіранняў, свежых метафараў, калі ён не кранае, не чапляе душу, то гэта і ёсць штучнасць, зробленасць. Ад такіх вершаў заўжды зыходзяць холад і поўная абыякавасць да чытача. Ні мудрагелістыя канструкцыі формы, ні мадэрновыя рыфмы іх не ратуюць. Асабліва мне пярэчыць, калі ў аўтара няма адчування арганізаванасці, гармоніі, чуцця слова. Яно ніяк не хоча лезці ў радок, але вершаплёт бязлітасна б'е яго доўбняй і заганяе не ў сваё гняздо. Цяжка маральна і нават фізічна чытаць такія творы.

***— Народны паэт Беларусі Ніл Гілевіч выдаў свой збор твораў на ўласныя сродкі. Чаму, на Вашую думку, выдаць кнігу ў Беларусі так цяжка? Што трэба зрабіць, каб для творцы шлях ад рукапісу да кнігі быў не такім складаным і доўгім?***

— Бываючы ў розных краінах (Францыі, Германіі, Даніі, Швейцарыі), я цікавіўся тым, як таленавітыя аўтары выдаюць свае кнігі. Найбольш шанцуе тым, хто атрымлівае дзяржаўныя гранты на напісанне канкрэтных рукапісаў. Там ёсць такая выдатная практыка. Але прывілеі заслугоўваюць ужо больш-менш вядомыя творцы, прытым іх колькасць абмежавана. Астатнім дапамагаюць мясцовыя мэрыі, розныя фонды, вельмі шырока практыкуецца спонсарства заможных людзей, бо дабрачыннасць не абкладаецца падаткам. Наадварот, дзяржава за ўвагу да культуры, літаратуры змяншае падатак на іхні бізнес.



У СССР друкавацца было нашмат прасцей, таленавітаму чалавеку не трэба было плаціць за выданне. Ён атрымліваў яшчэ і неблагі ганарар. Затое існавала драконаўская цэнзура, у барацьбе з якой маю багаты вопыт, бо на працягу амаль дзевяці гадоў давялося ратаваць выдатныя кнігі В. Быкава, А. Адамовіча, У. Караткевіча, П. Панчанкі, А. Разанава, п'есы А. Макаёнка.

У пэўным выглядзе савецкія парадкі перайшлі ў Рэспубліку Беларусь. Але цяпер правіць баль аўтарытарная ідэалогія, якая дзеліць пісьменнікаў на «нашых» і «нянашых». Ніякай падтрымкі «нянашым», якія маюць свой погляд на рэчаіснасць, няма, з імі ідзе напружаная вайна.

З 2000 года дзяржава да маіх кніг не мае ніякіх адносінаў. У час, гнілы і хісткі для нацыі, надзвычай неспрыяльны асабіста для мяне, быць адразу аўтарам і фундатарам сваіх выданняў, што рабіў неаднаразова, няпроста. Але я аптымізму не гублю.

***— Вы вядзеце пастаянную рубрыку «Пункт гледжання» ў газеце «Свободные новости плюс». Як у Вас атрымліваецца так аператыўна і красамоўна адгукацца на самыя злабадзённыя падзеі?***

— Я на працягу ўсяго жыцця прывык да перапрацоўкі розумам і душою вялікай плыні інфармацыі, цяпер таксама ўважліва сачу за падзеямі ў краіне і свеце, па меры магчымасці вандрую. Гэта дапамагае быць у пэўнай інтэлектуальнай форме, мець свае меркаванні. Лічу жанр публіцыстычнага роздуму вельмі прыдатным для місіі ненавязлівага асветніцтва, якая патрэбна заўжды, і асабліва ў час жорсткіх інфармацыйных войнаў.

***— За сваё жыццё Вы нямала павандравалі па свеце. Як ставяцца да беларускай культуры і літаратуры ў свеце? Што трэба зрабіць, каб на сучасную беларускую літаратуру звярнулі ўвагу чытачы з іншых краінаў?***

— Я вітаю і люблю любыя вандроўкі, але сам ніколі не быў простым турыстам, які ходзіць услед за экскурсаводам і паварочвае галаву ўлева або ўправа, разглядаючы выдатныя мясціны нейкай краіны. Так склалася, што кожны мой выезд за мяжу меў пад сабою грунтам літаратурныя падзеі або клопаты, звязаныя з наступствамі Чарнобыльскай катастрофы, калі давялося, зноў жа паэзіяй, у час платных канцэртаў у Германіі, Польшчы зарабляць грошы на лекаванне хворых дзяцей, набыццё медыцынскага абсталявання, лекаў, вітамінаў для беларускіх бальніц. Мой шматгадовы вопыт дапамогі тым, хто пацярпеў ад аварыі, паказаў, што паэтычныя радкі маюць не толькі духоўную, але і матэрыяльную сілу, бо дапамагаюць ратаваць фізічнае здароўе людзей.

Што тычыцца стаўлення да беларускай культуры і літаратуры ў свеце, то адказваць на гэтае пытанне складана. Па-першае, у многіх месцах, дзе я быў, людзі слаба ведаюць або нават зусім не ведаюць самую краіну Беларусь, а мы часта хочам прымаць жаданае за сапраўднае. Па-другое, культура і літаратура — гэта не палітыка, тут сітуацыя больш прыхаваная. Нейкі плён, безумоўна, даюць дні культуры, абменныя выезды беларускіх тэатральных і канцэртных калектываў за мяжу. Але гэта разавыя акцыі, мерапрыемствы святочнага кшталту. Свята прайшло, а што засталося ў душы?

У другой палове XX стагоддзя кнігі некаторых беларускіх пісьменнікаў (І. Мележа, Я. Брыля, У. Караткевіча, І. Шамякіна і інш.) часта выдаваліся ў савецкіх рэспубліках і ў краінах т. зв. «народнай дэмакратыі». Рашучы прарыў у Еўропу, Азію і Лацінскую Амерыку зрабіў у той час выдатнымі аповесцямі Васіль Быкаў.

У сучасны момант чытачы суседніх краінаў (Украіна, Расія, Польшча, Літва, Чэхія) нешта ведаюць пра беларускае літаратурнае жыццё. З больш далёкім светам інфармацыйныя і ўзаемаперакладніцкія літаратурныя стасункі слабейшыя, за выключэннем, можа, Германіі і Швецыі. Канечне, беларуския кнігі ў перакладзе выходзяць і ў іншых краінах. Іх нямала, а аўтары — ад класікаў і да самых маладых.

Але трэба рэальна ацэньваць гэтыя прыемныя для аўтараў падзеі. Калі ў Варшаве двойчы выходзіла мая кніга паэмаў «Чорны конь Апакаліпсісу», а ў Сафіі кніга «Шлях душы», гэта ніколькі не азначае, што палякі ці балгары масава ведаюць такога паэта...

Найбольш у свеце выдаюцца і карыстаюцца попытам кнігі Святланы Алексіевіч, што сам неаднаразова бачыў і чуў на сустрэчах з чытачамі ў Германіі, Францыі, Польшчы.

Беларуская літаратура стане цікавай іншаземцам, калі будзе выходзіць на сапраўды агульначалавечыя тэмы, якія хвалююць кожнага зямляніна, напаўняцца нацыянальным каларытам, аўтарскай шчырасцю і праўдай, мець новыя прыцягальныя формы.

***— Распавядзіце, як ствараюцца Вашыя вершы, што натхняе на творчасць? Над чым цяпер працуеце, чым парадуеце ў бліжэйшай будучыні?***

— Вершы не пішуцца, а нараджаюцца. Звычайна гэта здараецца з аднаго радка або страфы, што выпырхваюць з душы. Далей, як кажуць, справа тэхнікі. Але гэта не азначае нейкі канвеер, з нарыхтовак выбіраецца самае лепшае. Бывае, што доўгі час на вершы не цягне. А натхнёнае мяне будзённае жыццё, у якім, як ні дзіўна, шмат паэзіі, жывых імпульсаў для творчасці.

Пакрысе пішу складаную для мяне ў прафесійным плане кнігу «Рабскі дзень, вольная ноч», дапаўняю рукапіс успамінаў «Згадкі Вогненнага Пса». Ёсць гатовыя тры рукапісы публіцыстыкі. Што тычыцца паэзіі, то новы зборнік вершаў можа быць падрыхтаваны і сёлета. Але наперад забягаць няварта, пажывем — пабачым.

**Гутарыў Алесь Сачанка**

# Грамадская акцыя «Аўтографы»

**Дарагія калегі, сябры, усе, хто неабыякавы да нашай культуры і гісторыі! У кожнага з вас на кніжных паліцах сярод мноства розных выданняў ёсць такія, дзе аўтар пакінуў свой аўтограф.**

Часам гэта проста подпіс, а часам — прысвячэнне, пажаданне, верш. Такія кнігі нам дарагія, паколькі яны адрасныя, ачалавечаныя. І разам з тым, гэта нашая агульная культурная спадчына.

Здавалася б, мы быццам бы ўсё ці амаль усё ведаем пра нашых пісьменнікаў. Ды і не толькі пра іх (дзеячаў навукі, мастацтва, падзвіжнікаў Беларусі). Быццам бы, многае надрукавана, штосьці хаваецца па архівах. Але на самай справе ёсць яшчэ агромністы, амаль археалагічны пласт, які знаходзіцца на нашых кніжных паліцах. Словы, асабістыя подпісы, малюнкі (як у В. У. Быкава) — нацыянальная культурная спадчына, замкнёная ў нашых кватэрах.

Давайце збярэм яе! Не згубім у букіністах, у макулатуры, у «няпэўных» пакаленнях. Давайце перагледзім тое, што маем на ўласных паліцах і кнігазборах. Бацькоўскіх, сяброўскіх...

Кожны аўтограф — хай сабе і «хвіліна стварэння», аднак — хвіліна жыцця нашага выбітнага пісьменніка ці, напрыклад, літаратуразнаўца, навукоўца, ці «кніжнага беларуса», ці проста Беларуса.

Усё, што мы знойдзем і захаваем — застанецца. Не толькі ў Саюзе беларускіх пісьменнікаў. Застанецца ў Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва. Самае цікавае з аўтографаў будзе выдадзена. І ў друку, і ў электронным выглядзе.

**ЯК РАБІЦЬ:**

Перагледзець сваю бібліятэку і знайсці аўтографы. Перастравіць, скласці асобна. Вылучыць «цікавосткі». Калі магчыма, то і па аўтарах.

Калі маеце магчымасць, то зняць на ксераксе ці адсканаваць, зрабіць фота (фарзац кнігі, аўтограф), дадаць каментар: калі аўтограф быў зроблены і каму, дзе, пры якіх абставінах).

Скан, ксеракопію або фота ў электронным варыянце дасылайце на паштовы адрас sbp@lit-bel.org, тэма ліста «Аўтографы».

У папяровым выглядзе копіі можна даслаць звычайнай поштай на офіс Саюза беларускіх пісьменнікаў (220012, Мінск, вул. Кузьмы Чорнага, д. 31, пам. 906; гарадскі тэл. 8-017-200-80-91). Або прыносьце саму кнігу – мы адсканеем яе на месцы.

Збярэм, захаваем і перададзім!

Акцыя праводзіцца Саюзам беларускіх пісьменнікаў. Куратары праекта — Наталля Гардзіенка і Сяргей Тарасаў.

**Прэс-служба СБП**



# Сустрэча пісьменніцкіх арганізацый балтыйскага рэгіёну

**27–28 сакавіка на шведскім востраве Готланд у горадзе Візбю адбылася генеральная асамблея Балтыйскай пісьменніцай і перакладчыцай рады (Baltic Writers and Translator's Council). У склад рады ўваходзяць амаль 20 арганізацый балтыйскага рэгіёну, у тым ліку і ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў».**

Падчас сёлетняй генеральнай асамблеі абмяркоўваўся цэлы шэраг пытанняў: былі прадстаўленыя даклады, прысвечаныя агляду дзейнасці пісьменніцкіх арганізацый за год, абмеркаваныя далейшыя перспектывы ўзаемасупрацоўніцтва пісьменніцкіх і перакладчыцкіх арганізацый Балтыкі.

Важным рашэннем, якое прыняла сёлетняя асамблея, была змена назвы арганізацыі. Новая назва цяпер будзе гучаць так: «Балтыйская пісьменніцкая і перакладчыцкая рада» (замест «Балтыйская пісьменніцкая рада»). Гэта зроблена з мэтай «увідавочніць» арганізацыі літаратурных перакладчыкаў, якія ўваходзяць у Раду нароўні з пісьменніцкімі.

І, натуральна, адной з самых значных падзеяў сёлетняй сустрэчы было абранне новай старшыні і новай рады арганізацыі. Цяпер кіраўнічы орган Балтыйскай пісьменніцкай і перакладчыцкай рады складаецца з Казімеры Астратавінэ (старшыня, Літоўская асацыяцыя літаратурных перакладчыкаў), Стэфана Інгварса (намеснік старшыні, Шведскі саюз пісьменнікаў), Мудзітэ Трэйманэ (скарбнік, Латышскі саюз пісьменнікаў), Хэйдзі фон Врыхт (сакратар, Фінская асацыяцыя шведскамоўных пісьменнікаў), Юлія Цімафеева (Саюз беларускіх пісьменнікаў).

Яшчэ адно нававядзенне: цяпер кожны другі год генеральная асамблея Балтыйскай пісьменніцкай і перакладчыцкай рады будзе пашыраная, гэта значыць, што яна будзе ўключаць у сябе публічныя выступы, літаратурныя чытанні і дыскусіі. Першую пашыраную асамблею плануецца правесці ў 2016 годзе.

**ЮЦ для lit-bel.org**

# Спачыў у вечнасці Уладзімір Содаль

**Пра сыход краязнаўцы, даследчыка літаратуры, сябра СБП Уладзіміра Содаля паведаміла ўдава пісьменніка Клара Барысаўна.**

Уладзімір Содаль нарадзіўся 13 верасня 1937 года ў вёсцы Мармаль Жлобінскага раёна Гомельскай вобласці. Скончыў Мінскі педагагічны інстытут, працаваў настаўнікам. Некалькі дзясяткаў гадоў адпрацаваў на беларускім тэлебачанні.

Як літаратуразнаўца Уладзімір Содаль даследаваў творчасць В. Дуніна-Марцінкевіча, Ф. Багушэвіча, Я. Купалы, М. Багдановіча, Зоські Верас і іншых.

Ва Уладзіміра Содаля засталіся сын, дачка, чацвёра ўнукаў і праўнук.

«Да апошняга ён ірваўся пайсці з людзьмі сустрэцца. Усё спрабаваў нешта пісаць, а літары ўжо не складаліся. Аказалася, ужо два тыдні, як у яго інфаркт, а ён не скардзіўся, нічога», — распавяла «Радыё Свабода» жонка пісьменніка Клара Барысаўна.

Памёр Уладзімір Содаль 15 красавіка ў Першым клінічным шпіталі Мінска. Пахавалі пісьменніка і літаратуразнаўцу на могілках у Астрашыцкім Гарадку, каля маці.

Смуткуем і выказваем спачуванні родным і блізкім Уладзіміра Ільліча.

**Саюз беларускіх пісьменнікаў**

## ТРАВЕНЬСКІ ЮБІЛЯР

**У наступным месяцы адзначае юбілей сябар Саюза беларускіх пісьменнікаў**

Сымон Вікенцьевіч Барыс (нар. 20.05.1935)

Жадаем яму радасці, натхнення і дабрабыту!

## ПАЛІЦА

### Ніл Гілевіч: «У віры быцця»

**У Бібліятэцы Саюза беларускіх пісьменнікаў у выдавецтве «Кнігазбор» пабачыў свет эсэістычны зборнік Народнага паэта Беларусі Ніла Гілевіча.**




У кнігу ўвайшлі запісы розных гадоў, кожны з якіх прасякнуты бязмежным болем за лёс роднай мовы, культуры, літаратуры. Асобныя творы друкаваліся ў часопісе «Дзеяслоў» і «новачаснай» «Літаратурнай Беларусі», многія прадстаўлены ўпершыню.

Ніл Сымонавіч Гілевіч — Заслужаны дзеяч навукі Беларусі, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі імя Янкі Купалы, прафесар, паэт, літаратурны перакладчык, драматург, фалькларыст, літаратуразнаўца.

У кнізе змешчаныя ўспаміны пра значныя падзеі грамадскага і культурнага жыцця, адлюстраваныя рэфлексіі пісьменніка, яго бачанне мінулага, цяперашняга і будучыні роднай краіны. Паэт чуйна рэагуе на палітычныя і сацыяльныя працэсы, якія адбываюцца ў Беларусі і за яе межамі, дае ім ацэнку, прагназуе развіццё нашай нацыянальнай свядомасці.

Значнае месца на старонках новага выдання адведзена апісанню і аналізу прачытанай літаратуры, айчыннай і замежнай, сучаснай і даўняй. Ніла Сымонавіча як чытача і даследчыка цікавяць тэндэнцыі і гісторыка-культурныя перадумовы стварэння тых або іншых кніг.

Па-ранейшаму важную ролю, па меркаванні паэта, у сучаснай нацыянальнай культуры адыгрываюць ідэалагічныя інерцыі мінулага, «рэха» камунізму. Пераадолець кансерватыўнасць савецкага часу, звярнуцца да нацыянальнай ідэнтычнасці, жыццёва неабходнай нам сёння, тут і цяпер, дзеля фарміравання будучых пакаленняў, — тое, што найбольш турбуе пісьменніка: «Усе нашы заклікі захоўваць, даражыць, цікавіцца нацыянальнай культурай будуць даваць мала плёну — датуль, пакуль не пачнем гэта ўнушаць дзецям ад калыскі, ад дзіцячых садкоў, з першых дзён у школе».

Але ж, нягледзячы на суплёт пакуль не вырашаных сацыяльных і культурных праблем, на якія ўказвае і з-за якіх перажывае Народны паэт, у кнізе «У віры быцця» адчуваецца подых вясны, надзеі, аптымізму на добрую будучыню беларусаў і Беларусі.

### Ігар Какановіч, «Астэроід»

**У дэбютным зборніку маладога паэта «Астэроід» – выбраныя творы, напісаныя аўтарам цягам апошніх сямі гадоў.**




Утрох раздзелах «Мір падобны да раю», «На арбіце тваёй!», «Бог ёсць зіма» змешчаныя вершы, створаныя ў класічнай манеры, якія напоўніцу раскрываюць унутраны свет шчырай душы паэта, што гартуецца ў пакутах, спасцігаючы вечныя ісціны: пакліканне, каханне і зямнога прызначэння чалавека.

Кніга выйшла ў Бібліятэцы Саюза беларускіх пісьменнікаў у серыі «Кнігарня пісьменніка».

«Астэроід» у небе беларускай паэзіі — шукайце яго ў кнігарнях Беларусі!

# Неаднойчы ўваскрэслы: Мікола Аўрамчык

**У кароткай аўтабіяграфічнай нататцы «Пра сябе» (1962, аўтару на той час 42 гады) Мікола Аўрамчык прызнаваўся: у дзяцінстве яго, ураджэнца Плёсаў на Бабруйшчыне, «больш вабілі не кнігі, а самаробныя самапалы ды буслянкі на стогадовых ясакарах і ліпах у былым панскім садзе».**

Ды шукальніка прыгод (часам і на сваю галаву: аднойчы ледзь не забіўся, падаючы з ветраковага крыла) спакваля адшукала літаратурнае натхненне і ўзбудзіла яго на іншыя пошукі, і так натхнёна, што ў старэйшых класах «запаўняў сваімі вершамі школьную насценгазету», а дзевяцікласнікам пачаў пісаць апавяданні. Адно з іх адаслаў у Мінск, у Дом пісьменніка, дзе яго прачытаў сам Кузьма Чорны, некаторыя творы якога ўжо вывучаліся ў школе. Зразумела, нават канверт з адказам знанага пісьменніка ўразіў і юнага, яшчэ недасведчанага для прозы аўтара, і ўсю школу. Прага ведаў і спасціжэння творчых таямніц прывядуць маладога паэта ў Мінск на літаратурны факультэт педагагічнага інстытута. Ухвалены Якубам Коласам і рэдагаваны Аркадзем Куляшовым верш «Адлёт жураўлёў» амаль услед за вершам «Парашутыстка» будзе змешчаны на старонках флагмана літаратурнага працэсу — часопіса «Полымя рэвалюцыі». Справа набліжалася да запаветнай мары кожнага пачаткоўца — да першай кнігі, але... Гэты жудасны адрэзак часу мяняў, ламаў лёс не аднаго магчымага аўтара паэтычнага зборніка...

Нават цяжка ўявіць, што было на душы ў палоннага з канца чэрвеня 1942 па канец красавіка 1945-га Аўрамчыка. Ён зведаў акрыленае летуценнасцю юнацтва, веру «ў светлыя камуністычныя ідэалы» і «сапраўдную народную ўладу»... А сапраўдны патрыятызм уначы 26 чэрвеня 1941 года яго і яшчэ аднаго Міколу, Сурначова, павёў з падпаленага Мінска. «Мы прайшлі пехатой на ўсход усю Еўрапейскую частку СССР, каб пасля многіх калізій апынуцца пры «Кацюшах» радавымі на Волхаўскім фронце». Яго камандуючы здаўся ворагу, здрадзіў падначаленым...

*Пад Чудавым я цудам не забіты.*
*Прапаў без вестак я*
*ў Мясным Бары,*
*І ў Руры, богам і людзьмі забыты,*
*Ледзь выбраўся з падземнае нары.*

**Мікола Аўрамчык, «Каб гэткага лёсу вы не мелі...»**

Вызваленне прыйшло ад англічан. Паколькі ні выкрыванне сакрэтаў «Кацюш», ні службы ворагу ў нямецкай форме смершаўцы за Аўрамчыкам не знайшлі, то яны пакінулі яму жыццё, але не ацанілі яго мужнасць, здольнасць выжыць у самых жудасных умовах і застацца пры гэтым сапраўдным чалавекам, грамадзянінам сваёй краіны. Родная ўлада «падзякавала» па-свойму, адправіўшы нямоглага ляўчыць лёгкія ў Данбас. З падзямелля — у падзямелле.

Выжыў, чарговы раз уваскрос. Увесну 1946 года са зразумелым душэўным уздымам, з адноўленай надзеяй вярнуўся ў Мінск, дзе прадоўжыў вучобу і займеў рэдактарскі хлеб. У 1949-м споўнілася былая мара яшчэ ў шмат чым наіўнага, яшчэ без сівізны ў валасах юнака: выдаў першы зборнік паэзіі з бадзёрай назвай «Пярэдні край». Выходзяць новыя паэтычныя зборнікі. Мо і не зусім з новымі назвамі: «Дружба», «Шляхамі дружбы».

У 1953-м пачаўся новы перыяд у жыцці Аўрамчыка. Гэты этап садружны з заснаваным тады новым часопісам «Маладосць», дзе паэт папрацуе 27 гадоў загадчыкам аддзела паэзіі, выявіўшы выключныя цярплівасць, уменне, высакароднасць у справе далучэння маладых да літаратуры, іх творчага росту. Як ён прызнаецца, і сам многае ад іх узяў. Ад іхніх энергіі, часамі дзёрзкасці, творчых пошукаў. Ад іхняй удзячнасці, любові як да чалавека і рэдактара. Трацячы нямала часу на маладых. На паездкі па Беларусі і СССР, на пераклады. Мо і ад гэтага сам пісаў мала. Безумоўна, пасля смерці Сталіна і асабліва адліжнага XX з'езда КПСС (жонка паэта Паліна Аляксандраўна неяк прызналася мне, што пасля вайны яны асцерагаліся яго арышту як былога байца неславутай 2-ой ударнай арміі ці англійскага шпіёна) разам з іншымі і Аўрамчык уздыхнуў вальней.

На маю думку, разам з больш спрыяльным часам, з духоўным разнявольваннем і аслабленнем вульгарызатарскай крытыкі Аўрамчык больш індывідуальна выразна пасля немалога перапынку паўстаў у кнізе «Ключы жураўліныя» (1960). Тут ужо не проста рознатэм'е, тут поўны цэласны падбор вершаў на духоўнай аснове і, бадай, упершыню не рэзка, але па-чалавечы горасна ўвасобленае чалавечае «я». Чалавека з цяжкім драматычным лёсам. Ён яшчэ хавае свой боль. І ад сям'і, і ад чытачоў.

У «Ключы жураўліныя» Мікола Аўрамчык змясціў верш «Анкета». Тады гэты «дакумант» меў велізарную сілу, па ім «чыталі» чалавека, вызначалі, якім яму быць. Ці не быць. У вершы, прысвечаным таксама былому ваеннапалоннаму Янку Брылю, паэт выдыхнуў ад усёй збалелай душы:

*Адразу ж стала зразумела мне,*
*З якой прычыны ты раптоўна*
*гэтак*
*Задумаўся і нават пахмурнеў,*
*Спакойна запаўняючы анкету.*

Гэты верш трэба цытаваць цалкам, ён — у ліку класікі нашай паэзіі. Выдзелім асабліва:

*Заўжды ў анкету лёгка зазірнуць,*
*Але ў душу так проста*
*не заглянеш.*



Наступная кніга «Сустрэчы былых канагонаў» (1963), без ніякага сумнення, — жыццёвы і творчы ўзлёт Аўрамчыка-паэта. І ў пасталенні, і ў смялейшым асваенні сваіх «нетраў». Заслужана за гэтую кнігу паэзіі Аўрамчык атрымаў вышэйшую літаратурную прэмію рэспублікі.

Наступныя кнігі паэзіі «Універсітэцкі гарадок» (1967), «Агледзіны» (1969), «Радовішча» (1976) і іншыя ўзмацнілі яго паэтычную рэпутацыю.

У 1980 годзе Мікола Якаўлевіч глыбока засмуціў Васіля Зуёнка і мяне — галоўнага рэдактара і намесніка часопіса «Маладосць»: падаў заяву на звальненне з працы. Як мы не ўгаворвалі яго перадумаць, ён настойваў толькі на адным: не, еду амаль на пастаяннае пражыванне ў Ялце. Цяжка было ўявіць рэдакцыю без такога жыццярадаснага прыязнага чалавека, які быў душой калектыву. Што ж, рашылі мы, чалавек хоча жыць, працаваць, для чаго трэба падлячыць на поўдні лёгкія, пашкоджаныя вугальнай пылотаю ў Руры і Данбасе. Сапраўды, ён удыхаў паўднёвае марское паветра месяц за месяцам, год за годам, з нагоды святаў дасылаў нам цёплыя паштоўкі, па прыездзе клікаў у госці, ацэплівалі нас уласцівай толькі яму прыязнасцю: «Як я засумаваў па «Маладосці», па вас, хлопцы!». У той час друкаваўся ён зрэдку.

І вось аднойчы, калі «Маладосць» узначальваў яго верны сябра Анатоль Грачанікаў, нечакана заходзіць да нас Мікола Якаўлевіч без папярэдняга званка, на твары няма ягонай прамяністай усмешкі, гарэзнасці, замест іх — напружанасць, а то і хваляванне. Кладзе на стол галоўнаму аб'ёмістую папку: «Вось, хлопчыкі, мой роман» (не блытайце з рускім «роман»). Мы ўсміхнуліся: розыгрыш. На гэта ён у добрым настроі — выдатны майстра. Не. Раман. Пасля А. Грачанікаў просіць мяне: «Пачытай ты, празаік, першы і скажы сваю думку. Я не вытрываю, калі проза паэта будзе слабая і мне прыйдзецца сказаць яму пра гэта». Такім чынам, вось з такой прадмовай я стаў першым чытачом «У падзямеллі».

Калі не чытачы, то даследчыкі творчасці М. Аўрамчыка, безумоўна, адчувалі, што ён ушчыльную наблізіўся да свайго «сезаму», не задаволены прыадкрытым у паэме «Волхаўская споведзь»: былая рэчаіснасць, ягоная асабістая трагедыя, пераржытае, але неадчэпнае вымагаюць большага, глыбейшага асэнсавання і выяўлення. Калі б уважліва пачытаць тое, што ён напісаў у аўтабіяграфічнай нататцы пра сябе ў 1962 годзе, то з'явілася б яскравае пацвярджанне гэтага. У прыватнасці, там ён зазначыў: «Кожны дзень на дасвецці з лагера да шахты канваіры прыганялі вялікую калону палонных, абвітую гірляндамі шахцёрскіх лямпаў. Нявольнікаў апускалі ў падзямелле. У лагеры лупцавалі канваіры, па́ліцамі, па дарозе да шахты штурхалі прыкладамі канваіры, а ў падзямеллі кайлом білі штайгеры і іх памочнікі».

**Цяжка ўявіць, што было на душы ў палоннага з канца чэрвеня 1942 па канец красавіка 1945-га Аўрамчыка. Ён зведаў акрыленае летуценнасцю юнацтва, веру «ў светлыя камуністычныя ідэалы»**

Ад стандартнага рацыёну — невялічкай пайкі хлеба-сурагату і двух літраў незапраўленай баланды са шпінату або сушанай бручкі ледзьве перастаўлялі ногі.

Кожны месяц з лагера вывозілі 30-40 хворых туберкулёзам. Калі б не малады юнацкі арганізм ды не падтрымка і дапамога аднаго нямецкага шахцёра, дык я, напэўна, не выжыў бы ў гэтым пекле».

Хіба не зрокавая карціна! Не, залацінкі прозы! Вось мне і пашанцавала першаму засведчыць Аўрамчыка-празаіка: ён нарэшце вызваліўся ад свайго душэўнага цяжару, але раманам «У падзямеллі», а за тым творам «Палон» перанёс яго, свой цяжар, на персанажа свайго твора. Тут цалкам супала тое, што раней пісаў пра Аўрамчыка адзін з крытыкаў: «Думы і пачуцці яго сугучныя з думкамі і пачуццямі яго героя».

На мой погляд, Аўрамчык «У падзямеллі» перасягнуў звычайную пабытовую праўдзівасць і на яе багатым матэрыяле па-мастацку наблізіўся да праўды вялікай прозы тым, што сваімі сродкамі паказаў свайго героя па ўзоры анявечаных вайной, але ўваскрэслых ад яе. Яго герой зведвае гаму пачуццяў: прыкрасць, ганьбу, страх, тугу па Бацькаўшчыне, пакуты, боль ад адчайнасці загубіць сябе (калі звар'яцела выдзёўбвае вялікі кавал пароды, каб тая абвалілася і задушыла яго); ён зведвае і радасць — так-так, і ўцеху (ад роднай сасны з Беларусі, якой падпіралі штольні), ён зведвае і помач, а то і паратунак ад таго, што словам і хлебам падтрымлівае не Сталін, не родны ўрад праз Чырвоны Крыж, а немец-майстра, нармальны, не атручаны фашысцкай ідэалогіяй чалавек. На раман вельмі зычлівую рэцэнзію напісаў Я. Лецка, а ў некаторых «былых» было абурэнне (наконт вобраза немца-выратавальніка), была спроба твор замаўчаць, не выдаць асобнай кнігаю, не дапусціць да перакладу на рускую мову. Кнігай той раман, як і новы, «Палон», выйшаў, але належнай гаворкі пра іх, на жаль, няма, хоць яны заслугоўваюць гэтага.

Як бы там не было, у нас ёсць і свой, беларускі погляд на даваенную і ваенную Германію. Гэта — «Птушкі і гнёзды» Янкі Брыля, «Змагарныя дарогі» Кастуся Акулы, «Жыццё пад агнём, або Партрэт беларускага ваеначальніка і палітычнага дзеяча Барыса Рагулі на фоне яго эпохі» Лявона Юрэвіча, успаміны былых «остарбайтараў» М. Грыба і В. Шабалтаса і г. д. Не хачу сказаць, што гэтыя і іншыя творы раўназначныя, што некаторыя з іх заслугоўваюць толькі ўхвальнай ацэнкі. Ды мастацкая з'ява: ёсць і раманы Аўрамчыка, што дадаюць да ўсяго згаданага карціны-адценні.

У 1984 годзе Мікола Аўрачык кнігаю «Знаёмыя постаці» асабліва ярка заявіў пра сябе як эсэіст і мемуарыст. Зноў жа: тут багатая дакументальная аснова, выдатна выкананыя малюнкі, дэталі, патрэбная сюжэтнасць, часамі і пэўная інтрыга і, мабыць, галоўнае: пры ўсёй павазе да вялікіх людзей у асобных выпадках даецца ім і страгаватая, у тактоўным тоне ацэнка за пэўную іхнюю дзейнасць, што не спрыяла беларускай справе. Хто цікавіцца новым, мала ці зусім невядомым пра Я. Купалу, Я. Коласа, К. Крапіву, Зм. Бядулю, А. Куляшова, М. Танка, П. Панчанку, І. Мележа, Я. Брыля, А. Пысіна ці пра ідэалагічнага ў двух асобах (спрыяльнага і ўтаймоўшчыка беларускасці) П. Машэрава, то тут яго чакае цікавае адкрыццё. З асаблівым хваляваннем чытаюцца старонкі пра сяброў юнацтва, таленавітых паэтаў А. Коршака, М. Сурначова, якія аддалі жыццё за Радзіму, назаўсёды засталіся маладымі, з няспраўджанымі творамі і задумамі.

Выданні Міколы Якаўлевіча Аўрамчыка выяўляюць таленавітую асобу аўтара і яго значны ўнёсак у нашую літаратуру.

**Генрых Далідовіч**

# Зазер'еўскі летапісец:

**У ягоным жыццёвым і творчым лёсе — безліч таямніцаў, загадак.**

Нарадзіўся ў першае лета XX стагоддзя — 25 ліпеня — у вёсцы Зазер'е Есмінскай воласці былога Барысаўскага павета Мінскай губерні. Невялікая беларуская вёска вызначалася ўжо тым, што патанала у пракаветных пушчах, ляжала на старадаўнім «Вітаўтавым шляху» (Вільня — Маладэчна — Барысаў — Магілёў) і мела непадалёк завод па вырабе зброі. На вясковым могільніку адшуквалі захаванні XII стагоддзя. На адным з помнікаў быў выбіты надпіс «Heranim Celesy» (XV стагоддзе). Геранім быў адным з першых вядомых продкаў зазер'еўскіх Цэлешаў.

Завод па вырабе зброі належаў яшчэ прадзеду Міколы Цэлеша па бацькавай лініі графу Базылю, жалеза для вытворчасці здабывалі з балотнай руды. Праз той завод, як згадваў М. Цэлеш, прадзед і страціў свой графскі тытул. Пасля падзелаў Рэчы Паспалітай зазер'еўская зброя патрапляла ў рукі паўстанцаў супраць расійскага самадзяржаўя. У 1861 годзе прадзед пазнаёміўся з капітанам Зыгмундам Серакоўскім, праз два гады яны і ўзначалілі паўстанне ў Барысаўскім і Ігуменскім паветах. На заводзе да таго часу паспелі нават адліць некалькі лёгкіх гарматаў.

Ноччу царскія войскі акружылі Зазер'е, ад стрэлаў загарэўся завод, графская рэзідэнцыя, хутары шляхты, сялянскія хаты. Як расказваў Міколу дзед Ян (апошняму ў 1863-м было 12 гадоў), прадзеду Базылю ўдалося выскачыць з палаючай спальні.

Ратуючыся ад царскай шыбеніцы, Базыль Цэлеш перабраўся ў Заходнюю Еўропу, а затым — «за ваду, у Новы свет», як называў Амерыку. Два ж ягоныя сыны — Ян і Несцер — ды дачка засталіся на Радзіме, займаліся гаспадаркай. Сялянскімі клопатамі жылі і бацькі Міколы: Барбара з Каралёнкаў і Ёхім Цэлеш (па расійскіх дакументах — «Ефим Телеш»).

Апошні і прывёў сына ў вясковую школу. Вось як аб тым успамінаў будучы пісьменнік у сваёй «Аўтабіяграфіі» (яе тэкст з ласкавай згоды жонкі і родзічаў М. Цэлеша аўтар гэтых радкоў апублікаваў у часопісе «Тэрмапілы»): «Спыніліся каля дзьвярэй на калідоры, з-за якіх чуўся павышаны голас настаўніка. «Высмаркайся перш!» — загадаў бацька. Я выцер рукавом сьвіткі нос, і ў гэты мамэнт адчыніліся дзьверы. Зь незадаволеным тварам стаяў перад намі настаўнік — малады, з прыгожымі рыжаватымі вусікамі; на аднэй ягонай назе быў бот з халявай, а на другой галёша поверх белага апатрунку; казалі, яго набілі хлопцы, злавіўшы каля сваіх дзевак. <…> Мяне пасадзілі на першую парту, бо, па-першае, малы, а па-другое, «дуроны хлопец». Кляса мне здавалася непамерна вялікай і пустой. У грубцы гудзеў агонь. Настаўнік паклікаў да дошкі хлапчука, крыху большага за мяне; загадаў яму ў намаляваных крэйдай клетачках выводзіць акуратна палачкі. Рука ў хлопчыка дрыжэла і палачкі выходзілі крывымі, як ягоныя рахітычныя ножкі. «Я табе казаў выводзіць палачкі роўныя й не крывыя, а ты што: рагулькі мне ставіш?» Хлопчык клыпаў сінімі, як лёд на сонцы, вачыма. Крэйда выпала з рук на падлогу, і ён яе растаптаў. Тады настаўнік хапіў яго за каўнер старэнькай сьвіткі й шпульнуў, як мяч, у кут, дзе была жарства. З ног хлопчыка зваліліся дзюравыя бацькавы валёнкі. «Стаць на калені й стаяць датуль, пакуль я не скажу!» Я ціхутка схіліўся над партай і глядзеў на голенькія й брудненькія ножкі хлопчыка, ледзьве стрымліваючы свае слёзы…

На шчасьце, на другі ці мо на трэйці тыдзень я захварэў на адзёр, а потым на шкарлятыну ці мо на дыфтэрыю — хто там намі цікавіўся ў тыя часы!? Пакуль я хварэў ды папраўляўся, таго настаўніка ў школе ўжо ня было — прыслалі настаўніцу: маладую, ветлівую, добрую. Была аднекуль з-пад Радашковіч, ці можа із саміх Радашковіч. Часамі да яе прыязджаў Янка Купала, зямляк, едучы аднекуль па сваіх літарарчых справах, у санках-развалках, на шэранькім, досыць ладным коніку; і сам у шэранькім саматканным кульку, але пашытым на шляхецкі хвасон. У клясу ён, праўда, ніколі не заходзіў, але настаўніца, потым, нам апавядала пра яго дужа шмат: «Гэта наш першы сялянскі паэта!» І чытала нам ягоныя вершы. Адзін выклікаў, проста, авацыю ў школе!».

У 1911 годзе пасля вясковай школы М. Цэлеш з парады настаўніцы падаўся вучыцца ў бліжэйшую (17 кіламетраў ад дома) бурсу. У 1914-м бацьку мабілізавалі на фронт, з маці засталося пяцёра дзяцей, і Мікола мусіў перапыніць вучобу, каб дапамагаць па гаспадарцы.

Праз год фронт ужо наблізіўся да Зазер'я — былі чутны стрэлы гарматаў. Сапёры пачалі паляпшаць дарогу паміж Магілёвам і Барысавам. Да працы змушалі і вяскоўцаў. «Пайшоў і я, — успамінаў М. Цэлеш. — Пры атрыманьні заробку спаткаўся з Аляксандрам Блокам, пра якога я ўжо ведаў. Яго таксама паклікалі ў войска, але, дзякуючы вялікай пратэкцыі, вызначылі скарбнікам у тую сапёрную адзінку, якая ладзіла ў нас шлях. За дзесяць кіламетраў ад Зазер'я быў маёнтак Кубліцкіх, ягоных сёстраў па другому бацьку. Блок зацікавіўся мной, пэўна, па намове людзей аб маім гераічным наведаньні школы за сямнаццаць кілямэтраў, што было вулучна адзіным выпадкам у Зазер'і, і спытаў: ці чытаў я што-небудзь з ягонае паэзіі. Пачуўшы, што дастаць тут кніжак нельга, даў мне невялікі зборнічак астатніх вершаў. Я праглынуў гэтыя вершы літаральна ў адзін прысест. Яны ўскружылі мне галаў, і некаторымі з іх я пачаў проста блузніць. Перада мной адчыніліся нейкія няведамыя мне небасхілы».

У 1916 годзе М. Цэлеш у Варонежы атрымаў службу на пошце.



Мікола Цэлеш. Мастак Пётра Мірановіч

**У 30-х гадах ён змог выдаць пяць (!) невялікіх зборнікаў апавяданняў, якімі, як пісаў пазней, быў вельмі незадаволены. У 1931-м выйшла кніга «Апавяданні паляўнічага», у 1932-м — «Са стрэльбай і сабакам», у 1935-м — аповесць «Курылка (Запіскі вучня царкоўна-прыходскай школы)»**

Лютаўскую рэвалюцыю сустрэў на Кацярынаслаўшчыне, у гарадку Кадзіеўка, дзе працаваў на шахце і наведваў агульнаадукацыйныя курсы.

«У гэты час на руінах Расейскае Імпэрыі пачалі ўзьнікаць незалежныя гаспадарствы падбітых народаў, — успамінаў ён пазней. — Дайшлі чуткі, што паўстае Літоўска-Беларускае Гаспадарства. Мне дужа хацелася ехаць дахаты, але кіпела хатняя вайна й мой год быў пад мабілізацыяй: я баяўся рушыцца зь мейсца, каб ня трапіць у самае пекла. У чэрвені гэтага-ж году, усё-ж мусіў стаць пад зброю. Даходзілі чуткі, што паўстала Беларусь і ствараецца наша нацыянальная войска. Выклапатаў перавод на Бацькаўшчыну, каб стаць у ягоныя шэрагі, але, раптам, захварэў на тыфус, а потым на другі. Праляжаў у шпіталях роўна паўгода. Калі ў лютым 1919 г. дабраўся да роднае хаты, бацька не пазнаў мяне — так я быў зьнясілены голадам і хваробамі. Стварэньне беларускага войска было неўзабаве адкінута, й я дэмабілізаваўся. Факультэт грамадзкіх навук Бел.у-та не захапіў мяне. Ды й страшэнна абрыдла бадзяцкае жыцьцё; абзавёўся сям'ёй і пачаў працаваць у розных установах Менску».

Працаваў ён у рэдакцыях выданняў «Паляўнічы Беларусі», «Беларуская вёска», «Піянер Беларусі», «Зьвязда». Па працы ў рэдакцыях беларускіх газет М. Цэлеша прыгадаў цёзка Мікола Аўрамчык, які на той час студэнтам таксама працаваў у «Піянеры Беларусі»: М. Цэлеш узначальваў у той газеце аддзел і пабраўся з сакратаркай рэдакцыі.

У 1929 годзе ў часопісе «Маладняк» М. Цэлеш апублікаваў сваё першае апавяданне і выдаў свой першы празаічны зборнік, рэдактарам якога быў Міхась Чарот.

Яшчэ з пятнаццацігадовага ўзросту былі ў М. Цэлеша подступы і да паэзіі — аднак подступамі і засталіся. «Вершы я <…> нікому <…> не паказваў, навет тым дзяўчатам, якім былі прысьвечаны», — згадваў пазней М. Цэлеш.

У 30-х гадах ён змог выдаць пяць (!) невялікіх зборнікаў апавяданняў, якімі, як пісаў пазней, быў вельмі незадаволены. У 1931-м выйшла кніга «Апавяданні паляўнічага», у 1932-м — «Са стрэльбай і сабакам», у 1935-м — аповесць «Курылка (Запіскі вучня царкоўна-прыходскай школы)», прысвечаная пляменнікам Людзіку і Толю. У зборніках апавяданняў 1931 і 1932 гадоў праяўляўся ўплыў «Запісак паляўнічага» І. Тургенева. Гэта былі пераважна расповеды пра запамінальныя эпізоды з жыцця паляўнічых (апавяданне «Воўчым следам»), каларытныя апісанні беларускіх пейзажаў у розныя поры года, якія падкупляюць замілаваннем да роднай прыроды, пафасам шчаслівага жыцця на роднай зямлі.

Аповесць «Курылка (Запіскі вучня царкоўна-прыходскай школы)», напісаная на аўтабіяграфічным матэрыяле (ахоплівае перыяд маленства і вучобы аўтара ў царкоўна-прыходскай школе, якая знаходзілася далёка ад бацькоўскай хаты), пакідае і сёння добрае ўражанне. Аўтар выявіў выключнае веданне дзіцячай псіхалогіі, выдатна выпісаў атмасферу 10-х гадоў, што панавала на ўскрайках тагачаснай расійскай імперыі, стварыў шэраг рэалістычна-запамінальных характараў: настаўнікаў і вучняў.

Пра сваё жыццё ў акупаваным Менску М. Цэлеш напісаў у адным са спавядальных лістоў на Радзіму (захоўваюцца ў архіве аўтара). «Я не лічу сябе ў чым-небудзь павінным перад нашым народам, а тым больш асабіста перад Вамі, — пісаў ён сваякам на Беларусь (у родную вёску Зазер'е).– У час нямецкага наступу я ня меў ніякой магчымасьці рушыцца з Менску. Ні я адзін! Увесь Менск застаўся на мейсцы, нават сын сакратара ЦК КП(б) Панамарэнкі. Некаторыя, праўда, пазьней прабіраліся пехатой праз фронт, але што да мяне, дык я і гэтага ня мог зрабіць, бо на маёй адказнасьці было трое малых дзяцей,– Слаўцы ўсяго адзін месяц, — і хворая жонка пасьля родаў. Хіба я меў права пакінуць іх на верную пагібель?»

У 1943 годзе ў Менску выйшаў зборнік апавяданняў М. Цэлеша «На крыжы» (падпісаны псеўданімам М. Лясун). «Беларускі народ на працягу свае доўгае гісторыі перажыў многа часоў добрых і цяжкіх. Але найбольш чорнымі будуць тыя балонкі гісторыі Беларусі, на якіх знойдуць сваё адбіцьцё часы бальшавіцкага панаваньня і бальшавіцкіх рэформаў у галіне сялянскае гаспадаркі, — так пачыналася выдавецкая прадмова да кнігі. — Гэтыя жудасныя часы безумоўна знойдуць шырокае адбіцьцё ў беларускай літаратуры. Калектывізацыя на Беларусі і адпор ёй з боку беларускага сялянства дасьць тэму не аднаму беларускаму пісьменьніку. Аб гэтых часох будуць напісаны цэлыя тамы. <…> У зборніку апавяданьняў беларускага пісьменьніка М. Лясуна Паважаны Чытач таксама знойдзе абразы з гэных жудасных часоў».

Апавяданні М. Цэлеша нагадвалі рэалістычныя замалёўкі з жыцця — зазвычай гаротнага, трагічнага, падараванага бесчалавечнасцю таталітарнай сістэмы. Найбольш удавалася празаіку ўжо ў першых абзацах стварыць неабходны «рытмічны фон» аповеду. Публіцыстычнасць, частая «дыялогавасць» і ашчаднасць, нават скупасць выяўленча-мастацкіх сродкаў — галоўныя адметнасці апавяданняў М. Цэлеша. Персанажы выпісваліся ім «эканомна», рэдкія і пейзажныя

# Мікола Цэлеш

замалёўкі, лірычныя адступленні-паўзы. Пры чытанні ўзнікае ўражанне, што празаік эканоміць аповедную «прастору», спяшае выкласці найперш змест, — нібы той летапісец-храніст (не выпадкова ж і адну з аповесцяў назваў «Загібельскі летапіс»), намагаецца падаваць найперш факты, учынкі, падзеі.

А затым — у 1944-м — з сотнямі іншых менчукоў М. Цэлеш пакінуў горад. Некалькі тыдняў жылі ў Баранавічах у цесным пакойчыку свайго сябра. Дарогу на эміграцыю ад самага пачатку пакрывалі церні (у Гдыні сям'я пісьменніка апынулася ў лагеры). Восенню 1944 года М. Цэлеша, яго жонку і двух сыноў аддалі на працу да багатага баўэра-нацыста В. Клята. Паўтарагадовую дачку мусілі браць у поле — пад дождж ці холад. Клят спрабаваў здзекавацца з сыноў, і аднаго разу М. Цэлеш мусіў заступіцца з віламі ў руках. Наспявала драма, ад якой уратаваў работнік Біржы працы, паляк.

Біржу працы («Arbeitsamt») М. Цэлеш шукаў ужо ў лютым 1945 года — на заснежанай верхавіне Дуная паміж Зігмарыгэнам і Заўльтау. Шукаў, дарэчы, разам з другім пісьменнікам-уцекачом Юркам Віцьбічам.

У 1950-м сям'я Цэлешаў (у Нямеччыне нарадзілася дачка Люцэя) падалася ў ЗША, у Нью-Ёрк. І зноў — не пісьменніцкія клопаты, а цяжкая праца, каб здабыць «хлеб надзённы», праца грузчыкам на лесапільні, дворнікам, санітарам у шпіталі, насільшчыкам у гатэлі, слесарам-машыністам на металічнай фабрыцы (круціў драцяныя канаты для «параплаваў»), плотнікам на будоўлі.

Сябраваў з Юркам Віцьбічам, Антонам Адамовічам. На пачатку 50-х знаходзіў час і для апавяданняў, і для гістарычных аповесцяў. Моцна і пакутна марыў пра вяртанне на Радзіму. Выдадзены ў акупаваным Менску зборнік 1943 года «На крыжы» быў ці не адзіным «грахом» М. Цэлеша перад савецкай уладай. Ці «рассакрэцілі» ў СССР яго аўтара? Думаецца, у 1965-м пра гэта можна было сказаць пэўна, бо ў сваю нью-ёркскую кнігу выбранага «Дзесяць апавяданьняў» (вышэй названага года выдання) М. Цэлеш уключыў тры (з чатырох) апавяданні зборніка «На крыжы», — праўда, са зменненымі назвамі і ў крыху дапрацаваных варыянтах.

У 1953 годзе ў зборніку «Пёстрые рассказы» («Выдавецтва Чэхава», Нью-Ёрк) было надрукавана ў аўтарскім перакладзе на расійскую мову адно з лепшых яго апавяданняў «Янка сеяў — людзі жалі». Апавяданне, назву якому далі радкі верша Я. Купалы, па сваёй ідэйна-мастацкай скіраванасці бачыцца праграмным для ўсёй эміграцкай прозы: М. Цэлеш дэталёва выпісвае жыццёвую трагедыю беларускай моладзі ў перыяд сталінска-бальшавіцкага генацыду. Менскага студэнта Кузьму Вальтэра беспадстаўна арыштоўваюць і высылаюць на катаргу (пазбаўляюць волі за чытанне забароненага верша Я. Купалы і «неасцярожнае» думанне). З Сібіры Кузьма праз пяць гадоў трапляе на Беларусь на перагляд справы, пачынаецца вайна... Названае апавяданне М. Цэлеша вызначаецца дынамічным сюжэтам і псіхалагічнай заглыбленасцю.

Адметнасць многіх твораў М. Цэлеша — гістарычная рэтраспекцыя. «Вы — партыйны, я — беспартыйны, але мы абодва беларусы, і думкі нашы цякуць у адным напрамку... Скажыце ж, калі ласка, як гэта здарылася, што мы згубілі ўладу над сваім дабром?! — пытае ў свайго знаёмцы галоўны герой апавядання «Партыйны таварыш» і чуе наступнае: — Думаецца мне, што тут адбыло галоўную ролю бытуючае ў нашым народзе перакананьне: «Мы — нізшыя і мусім выконваць нечую волю...» Вам, напэўна, ведама, напрыклад, што крывічы і дрыгавічы былі найлепшымі калёнізатарамі, умелі ладзіць з суседзямі і пашырылі сваю ўладу далёка за межы сучаснай Беларусі ва ўсіх напрамках... А літоўскім плямёнам накінулі, нават, сваю мову і культуру!.. Комплекс нізшасьці гэтай пачаў расьці ў нашай псыхіцы ад часоў, калі нас выраклася наша кіруючая эліта...».

У Нью-Ёрку М. Цэлеш патрапіў у аўтамабільную аварыю, пасля чаго пачала балець правая рука, пагаршаўся зрок. У 1958 годзе ён пісаў брату Піліпу ў Беларусь:

«Дарагі брацец Піліп!

Ліст твой з фота-карткай атрымаў. Зьмяніўся ты моцна! Каб спаткаліся дзе-небудзь, ня ведаючы адзін праз другога, не пазнаў бы цябе.



У мяне, пакуль што, здароўе не благое, толькі часам пабальвае левая рука, аб якой, як табе, можа, ведама, я пісаў тваійму Мікалаю: ударылі мне яе пры катастрофе з аўтамабілямі — перасеклі мускул. Але працаваць я так-сяк магу, толькі цяпер, пакуль што, пэўна да вясны, няма працы — сяджу дома. Слава [жонка] крыху працуе, але таксама з перабоямі — працы мала і ня дужа добрая. <…>

Я працую сэзонна на будаўніцтве, сем-восем месяцаў на год. Ды і гэтай працы знайсьці ня так лёгка, прыходзіцца шукаць часам за дзясяткі кіламетраў. Цяпер я працую за 43 мілі (каля 70 км.) ад Нью Ёрку. Рабіць кожны дзень такое падарожжа дужа цяжка. Прыйшлося навучыцца кіраваць аўтамабілем і купіць яго».

Брату Піліпу ў савецкай (калгаснай і беспашпартнай) Беларусі аб тым нават і не марылася...

Не зважаючы на свае летуценні пра вяртанне на Радзіму, М. Цэлеш не скараўся і не намагаўся прыстасоўвацца да савецкага ладу. У 1952 годзе ён скончыў аповесць «Загібельскі летапіс» (пакуль не апублікавана) — гнеўнае абвінавачванне бальшавіцкім злачынствам. У аповесці былі сатырычна выпісаны вобразы старшыні партыйнай ячэйкі Жукава, вясковых актывістаў з камбеда Сымона Жыгуна і Рыгора, якія дамагаліся знішчэння загібельскіх «кулакоў». Вёска Загібелькі стала сімвалам усёй Беларусі, сімвалам, на ўзоры якога высвечваўся ўвесь лёс «забранай» і пакутнай краіны. «— Нашы Загібелькі — гэта тое мейсца, дзе чорт утапіўся, як Бог выгнаў яго з раю, і езьдзіць туды і назад...» — падрахаваў аднойчы Тадэй Галавач, галоўны герой аповесці, пры сустрэчы з сакратаром наркамзема. Ды і ў самой назве вёскі ўжо нібыта перагуквалася пагібель.

Трагічным і тыповым вымаляваны ў аповесці вобраз Тадэя Галавача, беларуса-працаўніка, які, у 1922 годзе вярнуўшыся з пяцігадовага нямецкага палону і навучыўшыся там «нямецкаму парадку», апантана пачаў пашыраць і ўзбагачаць сваю гаспадарку. Ад самога наркома земляробства дамогшыся дазволу падзяліць Загібелькі на хутары, Тадэй зрабіў сваю хутаранскую гаспадарку ўзорнай па ўсёй рэспубліцы, атрымліваў узнагароды ад наркамзема БССР. Аднак шчасцю і ў працы, і ў сям'і (дачку Агатку выдаў замуж, чакаў унукаў) прыйшоў трагічны скон. У 1931 годзе пачалі гвалтам ствараць калгасы, ягоную маёмасць перапісалі і канфіскавалі, а самога з жонкай — разам з іншымі працаўнікамі, якіх абазвалі кулакамі, — вывезлі ў Сібір.

Фінал аповесці трагічны: Агатка, якую не падтрымаў малады муж (марыў пра пасаду калгаснага рахункавода і ў сваёй сувязі з дачкой «кулака» бачыў адно перашкоду), помсцячы за бацькоў і сябе, падпальвае вясковую «клуню», у якой спалі п'яныя «актывісты» Сымон і Рыгор. Агатку арыштоўвае ДПУ.

«Загібельскі летапіс» — аповесць кантрастаў: кантрастаў паміж «заходнім» і «ўсходнім» жыццёвымі ўкладамі, у псіхалогіі сялян-працаўнікоў, якія жывуць па хрысціянскіх законах, і ўзамбіраванай вясковай галотай-гультаямі, якія трызняць пра камуну, што «аб'яднае» ўсіх-ных жонак і забяспечыць усім неабходным (ежай, машынамі).

Ідэйна-праблемная накіраванасць усіх без выключэння твораў М. Цэлеша, якія не падпалі пад цэнзарскі ўціск, — выразна антыталітарная. Пазначыўшы ў аповесці «Загібельскі летапіс» і ў сваіх апавяданнях «непадсавецкага» перыяду быццёвыя і духоўныя асновы светабачання беларуса, празаік падаваў і карціну іх знішчэння антыхрысціянскай эпохай, і складаны працэс супрацьдзеяння ёй чалавечай і нацыянальнай самасці.

Скончыўшы сваю антыбальшавіцкую хроніку — адзін з першых падступаў беларускай прозы да Мележаўскай «Палескай хронікі» — і пераклаўшы яе на расійскую мову (варыянт «Загібельскага летапісу» мае назву «Повесть гиблых лет», — ці не па аналогіі з «Аповесцю мінулых часоў»?), М. Цэлеш не спяшаў яе публікаваць. Перадрукаваў два чыставікі і... адклаў у архіў. Чаму? Ці не ўсё з тых самых прычынаў — летуценняў-мар аб звароце на Радзіму? Апублікаваннем аповесці абсякаліся б апошнія магчымыя спадзеўкі на беспакаранае вяртанне, пра якое М. Цэлеш не пераставаў думаць. «Здаецца, пехатой праз ваду пайшоў-бы, каб убачыцца» (ліст да брата Піліпа ад 13 чэрвеня 1958 года); «Як дзеці пойдуць на свой хлеб, думаю прыехаць да Вас. Цяпер ажыцьцявіць мне гэта вельмі цяжка» (ліст ад 12 снежня 1958 года); «Зазер'е забыць не магу, і хочацца прыехаць, пабачыцца» (ліст да сястры Арыны ад 15 снежня 1958 года).

Няпэўнасць і чаканне стамлялі, і ў 1965 годзе (калі ў СССР змяніўся — не да лепшага — кіраўнік дзяржавы) М. Цэлеш за свой кошт выдае кнігу «Дзесяць апавяданьняў» — выбранае з лепшых, на яго меркаванне, і дапрацаваных твораў (а свае апавяданні М. Цэлеш не лічыў канчаткова завершанымі і дасканалымі, пра што сведчаць ягоныя шматлікія «бязлітасныя» праўкі нават і ў аўтарскім асобніку «Дзесяці апавяданьняў»). У большасці тэкстаў гэтай кнігі («Пад знакам Задыяка», «Помста», «Мера гвалту» і іншых) апісваліся гады бальшавіцкіх здзекаў з беларускіх сялянаў у часы сталінскай калектывізацыі.

Аўтарскія пераклады апавяданняў М. Цэлеша пачынаюць друкаваць расійскія эміграцкія выданні. Так, апавяданне «Пёрка й іншыя» пад назвай «Как жить?» змясціла «Новое русское слово» — побач з урыўкам з рамана У. Маканіна «Прямая линия». Па-расійску былі апублікаваны і апавяданні «Пракрустаў ложак» і «У імя догмы».

І — зноў расчараванні, апатыя, песімізм. 20 лістапада 1967 года М. Цэлеш у лісце прызнаваўся Ю. Віцьбічу: «Не пішу цяпер нічога, хаця задумана й навет пачата досыць шмат; не спадзяюся скончыць — пісаць няма ніякай ахвоты, калі падумаеш, што ўсё гэта да нічога й да нікога; ня толькі сярод нас, беларускіх эмігрантаў, пануе цяпер апатыя да творчасьці ва ўсіх галінах чалавечага духу, але і ўва ўсіх і ўсюды — сьвет імчыцца поўным тэмпам да катастрофы, бо «не адзіным хлебам жыве чалавек» і не адзінымі ракетамі можна змагацца із злом, напроціў — ракеты павялічваюць зло!..»

Падчас прыезду на сесію Генеральнай Асамблеі ААН з М. Цэлешам сустракаўся Максім Танк. Паэту і на той час галоўнаму рэдактару часопіса «Полымя» пісьменнік-эмігрант перадаў некалькі сваіх апавяданняў — для публікацыі ў Савецкай Беларусі.

Яшчэ праз некаторы час на імя М. Танка прыйшоў ліст, у якім М. Цэлеш выкладаў умовы, паводле якіх ён згадзіўся б вярнуцца на Бацькаўшчыну. У эміграцкім асяродку ЗША стасункі М. Цэлеша з М. Танкам і савецкімі ўладамі пачалі абрастаць чуткамі, ставіцца да пісьменніка пачалі насцярожана. Хоць, як потым згадваў Б. Сачанка, які тады працаваў у «Полымі» і чытаў той ліст да М. Танка, М. Цэлеш патрабаваў «змены таталітарнага рэжыму, надання Беларусі сапраўднага суверэнітэту і незалежнасці ад Масквы».

Але самае страшнае — яго пакідалі сілы. І ўпэўненасць. Напрыканцы 1975 года, хворы і стомлены, М. Цэлеш, думаецца, усё ж сабраўся ляцець на Бацькаўшчыну, ляцець паміраць... 10 снежня ён пісаў Вітаўту Тумашу: «Рыхтую Вам перасылку зборніка апавяданьняў — выбраных, папоўненых новымі, дапрацаваных. З маімі слабымі сіламі — гэта нялёгкая праца. У канцы гэтага месяца думаю Вам пераслаць. У далейшым, калі-б із мной што-кольвек здарылася дрэннае, трэба зьвяртацца да дачкі Карал...».

А на працоўным стале заставаліся матэрыялы і накіды аповесці пра Вялікае Княства Літоўскае «Карона і здрада», рукапісы біяграфічнай аповесці, пачатай яшчэ ў 1950-м, «Смага пустыні» (пра перажытае падчас паязджанства), першы варыянт аповесці «Без шацунку на шчасце», няскончаная аўтабіяграфічная аповесць «Нашчадкі» (пра сваё маленства і юнацтва), у нататніку з'яўляліся новыя спавядальныя запісы.

Мікола Цэлеш напрыканцы 1975 года выйшаў з нью-ёркскага дома і знік. І прыйшоў на Бацькаўшчыну толькі праз два дзесяцігоддзі — у сваіх творах, у памяці.

**А. П.**

**Пазначыўшы ў аповесці «Загібельскі летапіс» і ў сваіх апавяданнях «непадсавецкага» перыяду быццёвыя і духоўныя асновы светабачання беларуса, празаік падаваў і карціну іх знішчэння антыхрысціянскай эпохай, і складаны працэс супрацьдзеяння ёй чалавечай і нацыянальнай самасці**

# «Жывы!»



Васіль ЖУКОВІЧ

**Мне ўсяго толькі — сорак. Я дужы ды не такі ўжо й лянівы. Сем'янін як сем'янін. Прынамсі, дагэтуль на мяне не скардзіліся ні жонка, ні сын, ні дачка, ні нявестка.**

Сям'я ў мяне цікавая, у кожнага сямейніка — сваё дзівацтва, свая прыхамаць. Жонка, настаўніца вышэйшае катэгорыі, яшчэ нядаўна шчыра асуджала і сваіх, і чужых за тое, што, як яна казала, вісяць у кампутары, а тут і сама захварэла на гэтую ж хваробу, словам, «завісае» штодня і надоўга. І на пліце штосьці спаліць, бо гэты ідал як прыцягне, то і не адпускае, аж пакуль гарэлым не пацягне з кухні. Гэта ж трэба набыць бяду на сваю галаву! Зімой аж тры месяцы пахадзіў у дворніках да і пасля сваёй асноўнае працы настаўніка, падзарабіў грошай, і знаёмы ў «Пятым элеменце» памог выбраць самы круты кампутар. На табе, любая жоначка, дарагую цацку да жаночага свята. І закарцела кабеце як мага хутчэй прыручыць такую мудрагелістую і модную тэхніку. А тая возьме дый занатурыцца — зробіць недаступным сеціва і гэтым самым так ушчэміць самалюбства настаўніцы! Ёй адна халера — што неслух вучань, што наравісты кампутар: не ўзяць верх яна не можа. Сказаць дакладна, жыць яна ўжо не можа без сеціва, праз якое пад рукою цэлы свет, таму і даходзіць, як яна кажа, тыкам да размаітых кампутарных праграмаў.

Сын у мяне — студэнт-выдатнік. Ён такі цудоўны, задушэўны! Толькі мае звычку празмерна забаўляцца з малечаю, напрыклад, любіць гуляць з малымі ў настольны хакей. Цешу сябе думкаю, што будзе добры бацька. Такое ганаровае званне ў яго не за гарамі, бо жонка, яго аднакурсніца, ужо зацяжарыла.

Нявестка мая вясёлая, шчырая і дужа словаахвотлівая, асабліва калі возьме ў рукі тэлефон...

Самая безабаронная ў сям'і дачушка-школьніца. Яе душа такая ранімая і мітуслівая! Перайшла дзяўчынка ў восьмы клас. Марыць скончыць школу з медалём, хоць і ведае, як я скептычна гляджу на медалі. На яе моцна дзейнічае братаў поспех. Перажывае, што не вельмі ўдаюцца ў яе сачыненні. Не раз познім вечарам называе мне тэму сачынення, якое павінна раніцай здаць. На якія ахвяры не пойдзеш, каб толькі лішні раз не рваліся неакрэплыя нервы дзіцяці! Звычайна ўгаворваю хутчэй класціся спаць, а на золку ласкава падымаю і ціха кажу: «Бяры перапісвай сваім почыркам...», хай жонка й скажа: такі ўчынак — антыпедагагічны.

Ды гэта што! Змалку дачка займаецца ў дзіцячым танцавальным гурце. І здарылася аказія: летась харэограф, даволі гладкая дама, прабірала адну пухленькую дзяўчынку, ушчувала, што тая нібыта шмат умінае булак і каларыйнай ежы. Пасля яна папярэдзіла ўсіх: «Слухайце сюды: танцоры павінны быць худыя! Гэта — адназначна». З тае пары мая дачушка-прыгажуня фанатычна занялася пахудзеннем. Ні мяса, ні масла, ні сыру, ні малака, ні нават хлеба, гаротніца, не есць. Спажывае гародніну і садавіну, алей, арэшкі ды сокі. І што ў выніку? Нават манашкі такой не знойдзеш... Ужо страшна глядзець на яе: адно косці тырчаць пад скураю, вочы запалі глыбока, а пад вачыма — фіялетавыя сінякі. Ды слухаць не хоча, што нельга быць такою худзэнаю, падобнаю да шкілета, нават сорам.

— Што вы разумееце! — адбіваецца яна. — Цяпер мяне хваліць харэограф.

Скажаш ёй: «Каго ты слухаеш?!» — пачынае плакаць наўзрыд. Даводзіцца дагаджаць: каб хоць удосталь яна той гародніны ды садавіны спажывала, ды арэшкаў, ды грыбоў... Спадзяюся, паразумнее наша донька, выйдзе з бяды.

Пакуль яшчэ вольны ад школы, еду на радзіму, у пушчанскі край. Праведваю радню: адну сястру ў Берасці, другую ў Кобрыні, трэцюю ў маленькай вёсачцы Падграбы, брата — на радзіме, на Камянеччыне. На дварэ — жнівень, занадта цёплы, але камфортны: амаль тыдзень ішлі дажджы. Трава паўсюль зялёная, паветра свежае, у садах прыемна пахне грушамі і яблыкамі, у лясах — грыбамі. А мне, куды б ні паехаў, душа баліць за дачушку, хочацца ёй дагадзіць, памагчы. І ўсе сваякі ведаюць маю праблему — дораць мне: хто — яблыкі ды грушы, хто — слівы і абрыкосы, хто — моркву, буракі, кабачкі, кукурузу. Я ні ад чога не адмаўляюся, больш за тое — выязджаю ў добра знаёмы змалку лес па грыбы, набіраю два вядры баравікоў, падасінавікаў, рыжыкаў, бабак, вязу баравыя дары ў Берасце. Там яшчэ заскокваю на рынак, дзе ўсё нашмат таннейшае, чым у Менску. За ноч да ад'езду прыкідваю, як я ўсё дацягну ў свой вагон. Сястра кажа:

— Я памагу данесці да цягніка, галоўнае, каб сустрэлі там.

У мяне ў кішэні мабільнічак, цудоўны сродак сувязі. Набіраю нумар жончынага сотавіка.

— Я перагружаны, — кажу, — асёл столькі б не пацягнуў, як я. Ці сустрэнеш на пероне?

— Вядома, сустрэнем, — адказвае, — не сумнявайся, смела цягні ўсё. Толькі ж назаві цягнік.

Называю нумар цягніка і вагона, у якім буду ехаць.

— Занатавала? — пытаюся.

— А як жа, усё ў парадку. Прыязджай хутчэй. Сустрэнем.

— Чуеш? — кажу я сваёй старэйшай сястры. Яна лагодна ўсміхаецца.

— Ну што, родненькая, заправаймася...

Валачэм. У мяне за плячыма паўнюткі рэчмяшок, у руках амаль непад'ёмныя сумкі. У сястры рукі занятыя вялікімі цяжэннымі сеткамі-авоськамі. Умакрэлыя ад перагрузак, увальваемся ў вагон цягніка «Брэст–Санкт-Пецярбург».

— Паспелі, — кажа сястра і з палёгкаю пераводзіць дыханне.

...Хуткі цягнік нясе мяне і маю шматлікую прадукцыю. У плацкартным вагоне ў мяне бакавое месца, дзе праз ваконнае шкло лашчаць промні прыветнага сонца. Мне хочацца спяваць ад радасці, што пабываў на радзіме, дзе ў мяне добрая, спагадлівая радня, і што не спазніўся на вакзал, прытым дамовіўся з жонкаю, каб сустрэла. Узнікае натуральнае жаданне яшчэ раз пачуць яе мілагучны голас, сказаць, што ўжо вяртаюся дадому. Рукі мае, то адна, то другая, даюць нырца ў шматлікія кішэні нагавіцаў і пінжака, а пасля і ў сумкі, але дарэмна: мабільніка не знаходжу. Нарэшце ўспамінаю: ён застаўся ў Берасці, у кватэры сястры, дзе на хвіліну я паклаў яго на тумбачку, калі пераапранаўся, збіраючыся ў дарогу.

Пад бойкі перастук цягніковых колаў стараюся супакоіцца, ды зноў і зноў залятаю ў думках дамоў: "Як яны там? Чым занятыя?» Уяўляю радасную сустрэчу на вакзале і дома: я ж за некалькі дзён паспеў без іх засумаваць. Ці не таму дарога, асабліва да Баранавічаў, падалася такою доўгаю?!

Хвілінаў за трыццаць да Менску пакідаю сваё месца ў вагоне і перамяшчаюся ў тамбур. Рэчы пераношу ў тры заходы. Мне ж і не снілася, што гэтак жа — выключна сваімі сіламі, ізноў у тры заходы, буду іх і выносіць на перон, бо ніхто мяне не сустрэў.

Цягнік рушыў у горад на Няве, а я міжволі ў думках перанёсся ў горад над Бугам, дзе так недарэчна забыў мабільнічак.

Даводзіцца маўкліва чакаць, спадзеючыся на цуд: з трамвая ці з тралейбуса вось-вось да мяне рынецца хтосьці родны. Нервова хаджу туды-сюды, пазіраючы на цыферблат гадзінніка. Прамінае больш як паўгадзіны. Тым часам на суседні пуць падаюць электрычку «Мінск–Маладзечна», і да мяне імгненна, відаць, ад крыўды, прыходзіць нечаканае рашэнне — дунуць на лецішча. Здаю ўсё сваё багажнае багацце ў камеры, убіваюся ў перапоўнены і душны тамбур электрычкі. Сем прыпынкаў — і мяне ўжо ахінае лёгкая перадвечаровая прахалода. На лясной сцяжыне чамусьці ўспамінаецца мой родны бор ля пушчы Белавежскай і маё грыбное паляванне, паўстаюць у памяці баравікі. Як жа прыгожа выглядалі яны, светлыя і чорнагаловыя, з верасоў, з белых і зялёных імхоў, з-пад ігліцы і лісточкаў! А цяпер, замкнёныя, ці не парацца? А слівы, што так набрынялі сокамі ў сястрыным садзе ў Падграбах, ці не ператвараюцца ў той самай жалезнай камеры ў кампот? З такімі думкамі выйшаў я з ляснога масіву.

Лецішча сустрэла мяне цішынёю. Вечарэла. Здарожаны, я прысеў на ложку. Бліжэйшы тэлефон быў на хутары, дзе я часта купляў малако. «Трохі адпачну, — падумалася, — і схаджу патэлефаную дадому, скажу, дзе я знаходжуся». Але сон мяне, грэшнага, узяў моцны, як на зло.

Затое ў маёй гарадской кватэры ўсім было не да сну. Спачатку мае сямейнікі былі занадта спакойныя. Дачушка пасля школы танцавала ў сваім гурце. Нявестачка пасля заняткаў шмат разоў перад люстрам прымярала новую сукенку, прывычна доўга размаўляла па тэлефоне. Сын, якому маці даручыла сустрэць мяне, з універсітэта свайго, што знаходзіўся побач з вакзалам, не пайшоў на перон, а, забыўшыся на матчына даручэнне, паехаў дадому. Мая жоначка спакойна шчыравала на кухні ля пліты, сумяшчаючы гэты клопат з чытаннем свежае электроннае пошты і праглядам у сеціве патрэбных ёй парталаў. Але яе спакой панаваў, пакуль не з'явіўся сын. Калі ж ён з'явіўся, дамашняя пагода рэзка змянілася на непагадзь.

— Дзе ж бацька, сынок? Чаму ты прыехаў адзін?

— Мамачка, я забыў. Я паеду, я знайду яго, — захваляваўся ён.

Сын паехаў, а ёй было ўжо не да кампутара і не да пліты. Яе ахапіла трывога. Спачатку набрала яна нумар майго мабільнага тэлефона, пасля дазванілася ў Берасце да залоўкі. Божкаючы і ледзь не плачучы, пыталася, ці не спазніўся я на цягнік. Даведалася, што не спазніўся і паехаў у прызначаны час. А сын тэлефануе: «Бацькі на вакзале нідзе няма». Тут пачалася паніка. Ручаямі паліліся слёзы з вачэй жонкі і дачкі, якая акурат вярнулася з танцаў. У ход пайшлі валідол, валяр'янка, карвалол... Несупынным «бамбёжкам» падвергліся нумары тэлефонаў прыёмных пакояў сталічных бальніцаў. Маім засмучаным родзічам давялося праверыць і моргі... А ў выніку, вядома, ні жывога, ні мёртвага мяне не знайшлі. У адчаі жонка звярнулася да сябра нашае сям'і дашніка Васіля Кавальчука. Той кінуў усе свае справы і павёз яе ў транспартную міліцыю. Ягонае званне маёра там нешта значыла: пачалі абзвоньваць усе станцыі, на якіх супыняўся цягнік, каб даведацца, ці не сышоў з яго захварэлы пасажыр. Але ні на адной станцыі ніхто з пасажыраў не звяртаўся па медыцынскую дапамогу. Заставалася пытанне, ці не было па ходу следавання цягніка трагічнага здарэння. Ішлі пакутлівыя вечаровыя гадзіны. Раптам высветлілася, што пад Баранавічамі знайшлі мёртвага мужчыну. Як пачула пра гэта мая жонка, так і абмерла. Яна звалілася б на падлогу, калі б не падставіў рукі той самы сябра Кавальчук. Ратавалі нашатырам.

— Што вы, — стараўся супакоіць яе маёр Кавальчук, хіба ж гэта ён? Гэта не факт.

Тэлефанавалі да маёй сястры, высвятлялі, як я быў апрануты перад дарогаю. Яна сказала, што я быў у белай кашулі. Стала вядома: знойдзены нябожчык на чыгуначным палатне ля Баранавічаў — у чорным касцюме.

Тады Кавальчук у сеціве размясціў тэкст пра тое, што прапаў без вестак чалавек... Указваліся ўсе мае прыкметы, і ўзрост, і рост, і вопратка. Назаўтра павінны былі распачацца грунтоўныя пошукі.

Набліжалася поўнач.

— Божанька літасцівы, што рабіць?! — ціха заенчыла жонка.

— Дзе ваша лецішча? — раптам пытаецца сябра, шматвопытны маёр міліцыі.

— Пад Заслаўем, — дрыжачым голасам адказвае яна.

— Паехалі.

Дашнік супыняе машыну каля нашае фазэнды. Грукане ў дзверы нічога не дае. Жонка мая тут заенчыла і завыла ў поўным адчаі. Так галосяць хіба толькі над нябожчыкам. Аднак і гэты надрыўны плач не падняў мяне. Тады Кавальчук пытаецца, дзе акно спальні.

Стук у шыбіну і святло ліхтарыка перарываюць мой сон. Я, нібы спуджаны заяц, усхопліваюся, шыбую да акна і чую да болю знаёмы шчымліва-шчаслівы голас: «Жывы!»



***P.S.** Цяпер нідзе я не разлучаюся з мабільнікам. Кажуць, частае карыстанне такім сродкам сувязі шкоднае. Магчыма. Але без яго шкода можа стацца непапраўльна большая. Таму я кланяюся таленту светлага і ўсмешлівага доктара Купера, вынаходніка першай мадэлі такога тэлефона. А ўсіх вандроўнікаў засцерагаю: нідзе не забывайце свае сотавікі.*

**Ваш пакорлівы слуга.**

# Готландскі нататнік



Юрка ГОЛУБ



### Гусі над Візбу

*Дзе вятры прагрызлі мур*
*Крапасны — не з голаду,*
*Развязалі гусі шнур*
*Па-над дахам Готланда.*

*Ім даступны небасхіл,*
*Балтыка, тым болей.*
*Б'юцца крыламі ўнахіл*
*Вынаходцы волі.*

*На шляхі ім крапаў дождж.*
*Шанавалі Шалі.*
*Для палёту дужы — гож.*
*Слабкі — варты жалю.*

*Дзе пункціры значыў Воз*
*Над кудлатым морам,*
*Да парома поўз абоз*
*З выкладкаю мрояў.*

*...Гусі выраем ляцяць.*
*Лёс аблок гартаюць.*
*Адчуваеш дух зліцця*
*Сэрца і гартані.*

### Авечая араторыя

*Гараскопы нам ілгуць.*
*Гаснуць хутка свечкі.*
*Візбу моўчкі сцерагуць*
*Сто бараноў і сто авечак.*

*Ім быццё — не забыццё,*
*Непадлеглым зграі.*
*На пастаўленых жыўцом*
*Поўсць каменна грае.*

*Рог крутога барана*
*Край мілосці кратаць.*
*Кожух прагнуць апранаць*
*Піраты і караты.*

*Атару вуліцы пасуць,*
*Хоць траў нямаш на бруку,*
*Выносяць бараны прысуд*
*Зламыснікам у друку.*

*Нябось няма на свеце сёл,*
*Рэліктавых паселішч,*
*Каб там баран, а не асёл,*
*Авечцы сцежку сцеліў.*

### Шыпшына каля старажытнай сцяны

*Калі ішоў на самоце*
*уздоўж ахоўнай сцяны*
*у далечыні ад помных*
*сцежак,*
*насустрач*
*рушыла... шыпшына.*
*Сустрэліся. Абняліся аберуч.*
*І не ўкалоліся.*
*А мяне захліснула землячае:*
*«О Беларусь, мая шыпшына,*
*Зялёны ліст, чырвоны цвет!*
*У ветры дзікім не загінеш,*
*Чарнобылем не зарасцеш»**

**З Уладзіміра Дубоўкі*

### Паэма вокнаў

*Далёка за поўнач*
*іх святло падае ніцма*
*на блішчаста-узорыстыя*
*візбянскія брукі.*

*Раніцай,*
*калі зара*
*кранае іх падаконнікі,*
*там адбываецца*
*містэрыя-цуд.*

*Распачынае яе марак*
*у бялюткай матросцы*
*і хвацка аддае чэсць*
*дню-камандору.*

*Пыхнуў чырвоным вуголлем*
*чыгунны прас*
*рыхтык зняты з гарышча*
*роднага хутара.*
*Такім калісь карыстаўся*
*бацька-кравец.*

*Рыхтуецца да зорнага часу*
*паяльная лямпа,*
*падобнай смаляць вепрукоў*
*на зімовых падворках*
*паблізу Зэльвы.*

*Ляснымі сініцамі*
*заценькалі*
*гарлачыкі і сервізы,*
*графіны і келіхі,*
*нібы ў прадчуванні*
*будучых свят.*

*А за шыбамі на вуліцы*
*Knägränd*
*пращапцыравалі*
*белагрудыя пінгвіны,*
*ізноў пачалі барукацца*
*мядзведзі.*

*А на Uddens*
*засвяціліся марскія каменьчыкі,*
*як вочы,*
*удумлівага ката,*
*што прымастаколіўся побач.*
*І мінакам памахала ружаю*
*рабрыстая ваза.*

*І містэрыю-цуд*
*сталі далей раскручваць*
*кактусы*
*і*
*срэбны дзік,*
*мухаморы*
*і*
*слон-маруда,*
*ракавіны*
*і*
*нават воўк,*
*які нечакана падміргнуў табе*
*па сяброўску.*

*І перад усім абмываў вокны*
*спагадны звон*
*з Domkyrkana —*
*храма з імем Святой Марыі.*

### На возеры Улвсундахон

*На скалах — квартал Вікінген.*
*Унізе — як лебедзі, яхты.*
*А возера, быццам агмень,*
*І свеціць не з бухты-барахты.*

*Вунь вікінг сядзіць на скале*
*І сам сабе, мабыць, даводзіць;*
*Не можа азерца скалець:*
*З каменнага, бач, радаводу.*

*Ды вольнаму воля, аднак.*
*Не просіць плыўчыха*
*падтрымкі:*
*Не лічыць сябе аніяк*
*Ахвярай халодных абдымкаў.*

*А вобак — не здолеў араць —*
*Прыкуты да воблака продак.*
*Пад сонцам зямлячкі гараць*
*На ложах са скальнай пароды.*

*Дзе ветразь прастору набыў,*
*А вока за хваляй сягнула,*
*Зышоў ледавік у нябыт,*
*А мачту вякі не сагнулі.*

### Згадка пра шэсце геяў

*Геі раскатурхалі Стакгольм!*
*Шэсце лупіць у кяцісты бубен!*
*Твары ў фарбах —*
*ну і што з таго:*
*Сябар сябра непапраўна любіць.*

*Буфанада, паказкі і цырк —*
*Даспадобы прагнаму натоўпу.*
*Раздзіраецца жыццёвы цыкл*
*Тымі, што амаль у топлес.*

*Як заўжды, труба кудысь заве.*
*Воклічы гучней, чым пацалункі.*
*Свет калі на часткі разарве,*
*Дык не толькі дынамітным*
*трункам.*

*Хоць заходзіць кругам галава,*
*Ды асядзе ў памяці трывала —*
*Як пяшчотна лозунг танцаваў*
*На вуголлях жаркіх карнавала.*

*А яшчэ. Нібы (вякам?) дакор,*
*Пералазіць праз заслону крыкаў,*
*Праз істужкі, што спялі дэкор,*
*Вунь хлапчук на бацькавым за-*
*грыўку.*

### На Балтыцы

*Адступае Балтыка назад.*
*Выспы сустракаюць і праводзяць.*
*Мора б'ецца лбішчам наўздагад*
*У крутыя рэбры цеплахода.*

*Мкне яму насустрач небасхіл.*
*Лёсы іх завязаны на вузел.*
*Хвалі задыхаюцца без сіл,*
*Быццам іх нячысцікі валтузяць.*

*Хоць схаваў трывогу капітан,*
*Весялосць памножылі каюты.*
*Тут не кожны мора паспытаў,*
*Тут не кожны да яго прыкуты.*

*Але хвалі скачуць наўскасы,*
*Чайкі і гарлаюць, і трываюць.*
*Хочацца дахаты. Збеглы сын...*
*Што цябе на палубе трымае...*

### Сусвет

*Час прашыты свінцом.*
*Друз.*
*Анёл.*
*Запаветы.*
*Конік скок на сянцо*
*У гуменцы Сусвету.*
*Цуд адбыўся за ноч.*
*Адшукаліся згадкі.*
*Навальніца наўзбоч*
*Шкуматала палаткі.*

*Каранасты, трымаў*
*Дуб маланку за цуглі.*
*І грамы нездарма*
*Рэйды ладзілі цугам.*

*І зышлі, як арда,*
*З-за нябесных завесаў*
*Затаптаць на грудах*
*След каханых злавесна.*

*Стала раптам яснець.*
*Золак.*
*Воблакі.*
*Ціха.*
*Мы не ведалі ў сне,*
*Што загнулася ліха.*

### Пра жыццё

*Забывалася бяда,*
*Як трава ў рыштоку.*
*Спаць начлежная буда*
*Не хацела штосьці.*

*Ноч спрыяла салаўям,*
*Гаю вушы звесіла.*
*Нам — у космасе гасцям —*
*Стане ўдома весела.*

*Я табе дашлю ліста,*
*Ці найлепш — паштоўку.*
*Сэрца маецца лятаць:*
*Што ж ты, сэрца... Зноўку?..*

*Пакладу табе ў канверт*
*Запаветны промень.*
*Будзе гэты запавет*
*Наша пошта помніць.*

*А сляза, як страказа.*
*Пахне неба кошанкай.*
*Нам жыццё — не драбяза.*
*Не вадзіца ў кошыку.*

**Гродна — Візбу — Гродна**

# Я была такой шчаслівай,

## або Жанчыны не павінны ваяваць

Ала ПЕТРУШКЕВІЧ

**«Зноў зімы не было, снег ішоў-не ішоў, раставаў і знікаў, як надзеі святло...» Гэта і пра сёлетнюю, прамінулую ўжо зіму. І гэта асабліва самотна, бо нельга было лёгка з'ехаць на лыжах з маіх невысокіх гарадзенскіх гораў насустрач ветру або праімчацца на каньках у скверы Жылібера, адчуўшы радасць вяртання ў маленства. Адкінуўшы той недарэчны сюжэт, што разыграўся ў сцэнах роднае ВНУ, адкуль мусіла сысці. Праз увесь гэты самотны час, які расцягнуўся для мяне амаль на два месяцы, з'яўлялася ратавальная думка: «Я была такой шчаслівай...»**


Падчас вечарыны з Данутай Бічэль

### 15.12.1992 — 28.02.2015

Між гэтымі датамі — мая праца ва ўніверсітэце. Не так і многа. Бо ў 1981-ым годзе, калі закончыла беларускае аддзяленне філфака і мне прапанавалі застацца на кафедры, катэгарычна адмовілася: «Як гэта я буду выкладаць? Я ж нічога не ведаю». Суцяшальнае Аляксея Міхайлавіча Пяткевіча: «Літаратуру ведаць нельга. Яе можна толькі адчуваць. Вы адчуваеце», — не пераканала.

Вярнулася праз дзесяць гадоў, калі нацешылася працаю ў халоднай савецкай школе, дзе не ўсё было дрэнна, але мала добрага. Калі закончыла аспірантуру.

Я была такой шчаслівай! Якой толькі можа быць асоба, чые любоў і праца — гэта адно і тое ж. Акторка, мела вельмі прыхільных гледачоў, мела сцэну, дзе роля мая была не столькі галоўнай, колькі любімай, якую выконвала з натхненнем. Менавіта ў часе, калі чытала лекцыі, нарадзіліся многія ідэі, што пасля рэалізоўваліся ў артыкулах.

Праца лячыла мяне. Перад тым, як зайсці ў аўдыторыю, адкідала ўсё дрэннае, усміхалася, мне было так лёгка. На месцы стаяць не магла. Дзясяткі разоў за лекцыю абходзіла аўдыторыю. Не толькі таму, што мой крыж не трывае статычных вертыкальных нагрузак. Словы, думкі клікалі мяне рухацца ва ўнісон з імі. Цікава, колькі кіламетраў прайшла за свае лекцыі? Не ведаю, як студэнты рэагавалі на мае праменады. Ніколі ніхто нічога не сказаў. Спадзяюся, звыкаліся, і ім тое не перашкаджала.

Праца лячыла і ў прамым сэнсе. Студэнты не мусяць ведаць, што выкладчыку баліць. А мы ўсяго толькі людзі. І нам часам баліць. Бывалі моманты, што думала: не змагу лекцыю прачытаць. Апранала ўсмешку, заходзіла ў аўдыторыю. Пачынала гаварыць — і боль адыходзіў, каб доўга яшчэ не вярнуцца...

Што цяпер будзе лячыць? Будзе. У кожны мой выхад у горад заўсёды сустракаю сваіх студэнтаў. Даўніх і нядаўніх. Абавязкова нехта павітаецца, смялейшыя загавораць. А колькі тых, хто не асмеліцца падысці. І на розных імпрэзах яны — мае студэнты. І я гэтак жа лёгка іду па маёй Гародні, усміхаючыся, радуючыся, чытаючы вершы. І ў універсітэт заходжу, прайдуся да прафесарскай галерэі, пагавару з вартымі, праміну нявартых (і між прафесараў такія ёсць), зайду на трэці паверх, каб прыгожа сысці па галоўнай лесвіцы. Я іду па сваім універсітэце!

### Мае студэнты

Я была такой шчаслівай! Мела такіх студэнтаў, якіх жадаю мець кожнаму выкладчыку, хто любіць сваю працу. Магу гаварыць пра іх бясконца. Апошнім часам, калі беларуская прастора страшэнна звузілася, іх, сапраўдных студэнтаў, стала вельмі мала. Сапраўдных — гэта тых, што прыходзілі на беларускае аддзяленне невыпадкова, не толькі дзеля таго, каб атрымаць хоць які дыплом. Гэта тыя, што прыходзілі свядома, абраўшы шлях у філалогію беларускую, бо беларусамі ўзгадаваныя. Іх сёння меншасць. Адкуль яны прыходзілі? Большасць з тае незвычайнае меншасці — са школы. Бо ёсць яшчэ і Настаўнікі беларускія. Гэта тыя, каго называю сваімі студэнтамі. Імкнулася дайсці і да іншых. Часцей марна.

Імкнулася не толькі навязаць сваё, але даць ім магчымасць выбіраць. Прасіла, прачытаўшы артыкул, вылучыць, з чым нязгодны. Вершы вучыць толькі тыя, што спадабаліся, каб засталіся, каб не толькі дзеля адзнакі...

Два Паэты між маіх студэнтаў: Анатоль Брусевіч і Аня Аўчыннікава. І многія, хто творыць. Апошняй на маім шляху з'явілася Вікторыя Смолка — светлы промень у цёмным царстве. Колькі святла ў яе лістах да мяне! А вершы якія! Ёй хацелася падтрымаць сваю выкладчыцу, дапамагчы Словам. Дзякую, мілая, за Вашы вершы...

А хлопчыкі між дзяўчынак якія былі: Дзіма Томчык, Павел Ушкевіч, Дзяніс Вашкевіч, Артур Камароўскі, Кірыл Бялятка... І апошні — Дзіма Даўгаполік, які з сястрою Альжбетай падарыў мне на развітанне ікону Маці Божае Жыровіцкае.

Хто Ваш любімы пісьменнік? — задавала гэтае пытанне не проста. Гэта як лакмусавая паперка: хто яны, мае студэнты? Пагадзіцеся, калі любімы Кандрат Крапіва, а калі Максім Багдановіч — гэта вялікая розніца. А калі Павел Севярынец? Такі адказ быў адзіным, быў выключэннем. Але — быў! Радаснаму здзіўленню майму не было межаў. Да таго ж: «Я з ім знаёма». Уяўляеце, якая студэнтка!?

Мне было вельмі важна данесці да іх імкненне быць вольнымі, матыў, які вылучала ў творчасці кожнага класіка. Як і матыў здрады, даносу. Чаму Паўлінка падае? Яна — не нейкая далікатная паненка. Моцная дзяўчына. Што яе аж так узрушыла? Данос, здрада. Бойцеся стаць на гэты шлях! Хочацца верыць, што мае студэнты на мяне не даносілі...

Спадзяюся, нешта ў некага ў душы засталося. Доказам таму верш Аліны Паўлоўскай з апошніх маіх студэнтаў, які яна перастварыла з майго і які прыслала мне наўздагон...

Ганаруся, што была ў мяне студэнткай Віка Воўкава, якая сёння працуе настаўніцай. Прыехала на вечарыну з Дзятлаўскага раёна. Дазволю цытату з яе артыкула з сайту «Твой стыль». Мо крыху пафасна, але, па сутнасці, так. Ёй непатрэбна было дапытвацца, як неразумным журналістам, чаму сыходжу. Усё і так зразумела: «На нашых вачах здзяйснялася нешта недарэчнае, жахліва несправядлівае, тое, што мы не здолелі прадухіліць: выдатны выкладчык, улюбёны ў сваю працу, незвычайны чалавек, адданы Беларусі і беларускай справе, развітваўся з універсітэтам, развітваўся з тым, што яму так блізка і дорага, развітваўся яшчэ ў росквіце сіл і магчымасцяў. І мы нічым не маглі дапамагчы. Годны чалавек мужна крочыў па абраным шляху, які падказала яго сумленне.

Сысці прыгожа...
Сысці з добрай усмешкай на вуснах...
Сысці, перамагаючы боль...
Сысці, каб захаваць сябе і сваё сумленне...
Колькі трэба мець мужнасці, каб сыходзіць вось гэтак...
І гэта таксама урок выдатнай выкладчыцы. Урок жыццёвы».

Праўда, мужнай сябе не лічу.

### Паэтычныя хвіліны

Не памятаю, адкуль прыйшла гэтая ідэя: у часе лекцый рабіць паэтычную паўзу. Памятаю, калі: з першае лекцыі. І дзеля таго, каб адпачылі іх ручкі, бо пішуць-пішуць... І дзеля таго, каб згадалі імёны, якія са школы памяталі адзінкі: Яўгенія Янішчыц, Ніна Мацяш, Раіса Баравікова, Эдуард Акулін..., або ніколі ў школьным жыцці не чутыя: Святлана Басуматрава, Таццяна Сапач, Анжаліна Дабравольская, а то і «небяспечныя»: Уладзімір Някляеў, Славамір Адамовіч... І тыя, хто ў 90-ыя быў вярнуўся, і каго з сённяшніх маіх (апошніх!) першакурснікаў не назваў ніхто: Наталля Арсеннева, Ларыса Геніюш. І, зразумела ж, нашы гарадзенцы: Данута Бічэль, Юрка Голуб, Едрусь Мазько, Юры Гумянюк, Анатоль Брусевіч...

Звычайна чытала вершы, якія адпавядалі таму, што за вакном (снег, дождж, завея, восень, вясна), каб пашырыць прастору, каб вывесці з аўдыторыі на волю. Каб пашырыць далягляд паэтычны. Ці звязаныя з нейкімі датамі (да прыкладу, верасень — Арсеннева, Мацяш, Танк) ці — «Зноў Дваццаць Пяты Сакавік...» — ніхто ніколі з маіх былых калегаў не прачытае студэнтам гэты верш.

Зрэдку чытала свае вершы. Не называючы, чые. Была нават прыдумала такую загадку: калі ў Гародню прыходзіць вясна? Апошнім часам адказ быў правільны: калі на вуліцы Ажэшкі цвітуць каштаны. Мае студэнты памятаюць гэты верш.

А развіталася з курсам вершам Яўгеніі Янішчыц «Да сустрэчы..»

Толькі аднойчы атрымала заўвагу. Ад былое каляжанкі на паседжанні кафедры, што прысутнічала на маёй адкрытай лекцыі: «Не разумею, пры чым тут вершы?» Ігар Васільевіч Жук імкнуўся абараніць. Мяркую, дарэмна. Калі філолаг не разумее, пры чым вершы, то ці філолаг ён?

### Песні

А яшчэ ў часе лекцый прапаноўвала паслухаць нашы прыгожыя песні. Не думайце, што нейкія канцэрты наладжвала. Усё да тэмы. Чытаю паэзію Купалы — спявае Данчык («Шумныя бярозы», «Я ад Вас далёка», «Спадчына»), Максіма Багдановіча — гучыць голас Эдуарда Акуліна, чытаю лірыку Гаруна — спявае Вальжына Цярэшчанка, згадаю Уладзіміра Някляева (не мой паэт, але згадвала) — заспявае Зміцер Вайцюшкевіч...

Чытала лірыку Ларысы Геніюш (хто і як гэта будзе чытаць?), а Вальжына Цярэшчанка абавязкова спявала «Запяі мне песню...». Заўсёды прасіла дзяўчынак, што мелі голас, вывучыць гэтую песню (яны тут жа перакідалі яе ў свае далькажыкі). А пасля, на практычных занятках, замест каб чытаць верш, спявалі. Як прыгожа спявала гэтую песню Юля Базіна, Жанна Сяргей, Віка Янчарская, якая пасаромелася праспяваць яе на развітальнай вечарыне.

Вось жа, прасіла, каб гэтыя песні спявалі яны там, дзе будуць працаваць. На нейкі конкурс мая студэнтка, ужо настаўніца, прапанавала «Запяі мне песню...» Да наступнага этапу не дапусцілі: гэта ж на верш Геніюш!..

### Літаратурныя вечарыны

Колькі іх правяла! Колькі іх правяла? Паспрабавала палічыць. Налічыла больш за дваццаць. Гэта не ўлічваючы розных прэзентацый, сустрэчаў у розных установах. Гэта тыя вялікія вечарыны, што часцей адбываліся ў актавай зале, часам у вялікіх аўдыторыях. Да знакавых датаў. І рабіла гэта, ніколі не маючы ніякіх абавязкаў: ніколі не была куратарам, ніколі не мела ніякіх пасадаў, што абавязвалі б.

Самая першая — у лютым 1993 года. Да стагоддзя з дня нараджэння Максіма Гарэцкага. Толькі з'явілася ва ўніверсітэце...

Вечарына, прысвечаная паэзіі Дануты Бічэль, адбылася вясною 1993 года. Пасля было яшчэ некалькі. Ажно сем песняў на вершы паэткі стварылі да тае вечарыны студэнты. Казала ім: чытайце яе паэзію, слухайце, вершы павінны загучаць як песні. Так і спявайце. Спявалі. Самі і акампанавалі. Аксана Кніга, Аляксандр Суvotraў...

Санаторый «Радон». Канцэрт. Самадзейнасць. Толькі расейскія шлягеры. І раптам выходзіць дзяўчынка: «Праспяваю песню, музыку напісала сама. На верш Уладзіміра Караткевіча «У векавечнай Бацькаўшчыне клёны...» Гэта быў такі цуд, такая неспадзяванка! А пасля канцэрта падбягае да мяне тая дзяўчынка: «Вы мяне не пазналі? Убачыла Вас у зале і для Вас праспявала песню. Я Аксана Кніга...» Ці ж не цуд? Каля дваццаці гадоў мінула.

Пра вечарыну да 120-годдзя з дня нараджэння Алаізы Пашкевіч нагадала неяк мая каляжанка Наталля Мікалаеўна Гардзей, якая цяпер працуе ў Гомелі. «Думала, што за ўсе гэтыя гады было самае цікавае ва ўніверсітэце, і згадала Вашу вечарыну, прысвечаную Цётцы». Амаль дваццаць гадоў мінула...

Вечарына Наталлі Арсенневай да 100-годдзя. 2003 год. Ужо не ва ўніверсітэце. У вялікай зале ГДК на Дзяржынскага. Тыя, хто быў, памятаюць. Як цікава расказваў Аляксей Міхайлавіч Пяткевіч пра сваё знаёмства з вершамі паэткі ў беларускай школцы ў першай палове 40-ых гадоў. Як выключна прачытала верш «Годзе!..» Надзея Чукічова. Як цудоўна напрыканцы прагучала малітва «Магутны Божа», бо на сцэну выйшаў хор «Бацькаўшчына» пад кіраўніцтвам

Веры Кунцэвіч. Бо спявалі амаль усе, хто быў у зале.

Наогул, многія вечарыны заканчвала гэтай малітвай. Падводзіла так, што гэта было цалкам лагічна. Усе мае студэнты ведалі гэты твор на памяць. У лепшыя часы запрашала спадарыню Веру, і яна развучвала са студэнтамі «Малітву». Спявалі ўсе. Да экзамена абавязкова трэба было ведаць гэты верш. Лепшыя часы — гэта калі курс «Літаратура беларускага замежжа» быў сапраўдным: каля 40 лекцыйных, каля 20 практычных і экзамен. Для параўнання сёння — спецкурс «Літаратура бліжняга замежжа», дзе была «схавана» творчасць эмігрантаў, — 16 лекцыйных, 8 практычных і ніякае (!) формы кантролю. Як сёння працаваць?

Сваю апошнюю развітальную вечарыну завершыць «Малітвай» не думала. Напярэдадні тэлефанае Дзіма Даўгаполік: «А ці прагучыць у канцы «Магутны Божа»?» — «Не». Але вечарына закончана. Усе ўсталі і не сыходзяць. І спадарыня Вера ў зале. І тады прашу яе выйсці і пакіраваць хорам. І малітва «Магутны Божа» прагучала. Мяркую, у сценах універсітэта апошні раз. Як і апошні раз сюды была запрошана Данута Бічэль, чыё імя сёння забаронена называць між самых знакамітых выпускнікоў філалагічнага факультэта. Яна пра тое не ведае. І не трэба, каб ведала. Мне не месца на такім факультэце...

Вечарына да 100-годдзя «Нашай Нівы» выклікала нейкую незразумелую валтузню: выклікаліся на разборкі загадчык кафедры, намеснік дэкана. Прарэктар, з тых, хто ўсё беларускае на дух не пераносіць (колькі іх — і прарэктараў, і тых, хто на дух!..) крычаў на загадчыка кафедры: «Як пасмелі? «Наша Ніва» — апазіцыйная газета!» На што бедны загадчык тлумачыў: гэта ж тая, якая была сто гадоў таму. Пра гэта прарэктар-гісторык (!) не ведаў. Загадчыка адпусцілі. Але крамолу ўсё ж шукалі. Старанна. Двойчы (!) глядзелі запіс: усё было знята на камеру дырэктарам музея, які па сумяшчальніцтву выконвае і іншыя функцыі. Вось бы мне гэты запіс! Арганізатарка вечарыны нічога пра тыя разборкі не ведала. Даведалася пасля. Калі асмялелыя калегі ўжо жартавалі, расказваючы, як маленькі прарэктарчык трос кулаком перад носам высокага загадчыка кафедры Уладзіміра Іванавіча Каялы. Даведалася і праз некалькі гадоў ад галоўнае тагачаснае прарэктаркі-ідэалагіні, да якое сама ўжо была выклікана на разборкі за нейкі подпіс (шчыра — не помню супраць чаго). Сустрэла ветліва: «Нарэшце ўбачыла Вас жывую. Бо аж два разы глядзелі мы Вашую «прекрасную вечеріну». Ушчуваць таксама старалася не надта. «Надта» я не трывала б. Нічога крамольнага не рабіла. Да таго ж, побач была тая з маіх былых каляжанак, якая і папрасіла пра той подпіс. Якая міла ўсміхалася прарэктарцы, што ўжо не надта шчыравала. Відаць, прадчувала свой канец (для такіх канец — гэта развітанне з пасадай).

Што было з вечарынай памяці Юры Гуменюка, якую забаранілі ва ўсіх музеях, ва ўсіх бібліятэках і, зразумела, ва ўніверсітэце, які ён, студэнт-выдатнік, закончыў і дзе нейкі час працаваў, згадваць няма сілаў. Самае жахлівае: выклікалі выкладчыкаў, гразіліся выключыць студэнтаў, калі пойдуць. Выдатнікам пагражалі выключэннем! Ніхто з маіх калегаў з філалагічнага факультэта не прыйшоў. Ніхто. Калі застаешся адна, зусім адна, мусіш сысці. Гэта чужое поле. Гэта іх вайна. Не мая. Я — не воін. Жанчыны не павінны ваяваць. Тыя, хто не можа і не жадае.

Апошняя мая развітальная вечарына. Цяжка і пра яе пісаць. Балюча. Але я не заплакала. Ні разу. Фотасправаздачы на маіх сайтах. Напішу толькі пра незвычайны момант. Наша гаспадыня кафедры (Хто сапраўдная гаспадыні? Зразумела, лабаранткі. Выкладчыкі прыходзяць, сыходзяць, а яны на працоўным месцы заўсёды) вырашыла прачытаць для мяне вядомую паэтычную мініяцюру Ларысы Геніюш. Незвычайнае тут тое, што Галіна Вацлаваўна рускамоўная, ніколі да працы на кафедры па-беларуску не размаўляла. А тут вырашыла верш прачытаць. Чытала натхнёна, выразна. Чаму менавіта гэты верш, які яны выбіралі з Надзеяй Чукічовай без майго ўдзелу? Гэта якраз і было самым незвычайным. І згадала я тое ўжо ў часе вечарыны. У 1992 годзе, калі ішла на самую першую лекцыю, менавіта ў гэтай 3-яй аўдыторыі на сцяне ўгледзела плакат з вершам Ларысы Геніюш:

*Адзінай мэты не зракуся,*
*і сэрца мне не задрыжыць:*
*як жыць — дык жыць для Беларусі.*
*А безь яе — зусім ня жыць.*

І тых, хто прыйшоў развітацца са мною, было прыблізна як тады студэнтаў — каля сотні. Ці ж не містыка? Ганаруся: сустрэла і праводзіла мяне сама Ларыса Геніюш, адна з гераіняў мае апошняе літаратуразнаўчае кнігі «Старонкі Гарадзеншчыны літаратурнай». Якую напісала найперш дзеля маіх студэнтаў.

### Кветкі

Я была такой шчаслівай! У маім выкладчыцкім жыцці было мноства кветак. Асабліва ў мінулым стагоддзі. Вярталася з экзаменаў з шыкоўнымі букетамі. На вуліцы чула: «Якія прыгожыя кветкі! Ад каго букет?»

Гэта быў самы высокі з усіх маіх хлопцаў-філолагаў. Адзін з самых першых выпускаў. Філолагам хіба не застаўся. Ды і быў, пэўна, філолаг ніякі. Бо нічога пра яго не памятаю. І ніколі ў жыцці пазней не сустрэла. Экзамен. Заходзіць у аўдыторыю з вялізным букетам белых півоняў. «Не вазьму Вашы кветкі!» — «Не возьмеце — выкіну праз акно!» Ураз уявіла, як з чацвёртага паверха падаюць гэтыя шыкоўныя (а ў чым вінаватыя?) кветкі... «Пакіньце...» — «Не думайце толькі, што дзеля адзнакі...»

Менавіта гэтыя кветкі сталі «героямі» майго вядомага (кажу без какетлівае сціпласці) трыялета. Яны стаялі ў маім пакоі ў інтэрнаце на Пралетарскай, на часопісным століку, які быў і працоўным месцам. А пасля пачалі паволі асыпаць свае пяшчотныя пялёсткі. Няўжо хтосьці з маіх студэнтаў не памятае гэты трыялет?

*Асыпаюць півоні пялёсткі.*
*Колькі часу ў тае прыгажосці?*
*Напамінам, што ўсе мы тут госці,*
*асыпаюць півоні пялёсткі.*
*Я яшчэ ўсё чакаю кагосьці,*
*хто быў добрым, а стаў такім жорсткім...*
*Асыпаюць півоні пялёсткі.*
*Колькі часу ў тае прыгажосці?*



Нашай ніве — 100 гадоў

А яшчэ памятаецца, як Дзіма Томчык (сёння мой калега-выкладчык) прынёс белую ружу «з пяшчотнай жаўцізной расстання» і верш, у якім той жа вобраз.

І як я пакінула ў аўдыторыі ружы, якія мне павінна была падараваць Інга Навіцкая. Паставіла ёй «добра». Вучаніца Алеся Мікалаевіча Белакоза, была адной з самых лепшых студэнтак, пазней стала выкладчыцай. «Добра» для яе было вельмі дрэнна. Не ведаю, што здарылася, але на простыя пытанні яна не магла на экзамене адказаць. І я вымушана была паставіць ёй не «5», пра што заўсёды шкадавала. Гэта быў урок мне. Дакладней, экзамен. З таго часу (быў яшчэ падобны выпадак, але без кветкаў) выдатнікі атрымоўвалі ў мяне на экзаменах толькі «5», што зрабіла мяне ў вачох большасці выкладчыцай несправядлівай.

Інга, прыгажуня, разумніца, патрыётка, не пражыла і 30-ці. Спачывае на могілках у родных Гудзевічах.

Калі тых кветак было мора і раптам не стала зусім, бо — карупцыя! — мне, кветкавай жанчыне, стала вельмі некамфортна. На дзяржаўныя экзамены ездзіла з лецішча — майго кветкавага Раю. Ранкам зразала кветкі і прывозіла ў аўдыторыю. Ставіла букеты. Пакуль мой мілы, мой бедны загадчык кафедры не атрымаў чарговую вымову (А ў якім стылі! А якой лексікай! А з якой інтанацыяй!) з-за гэтай невыноснай Петрушкевіч, што дазваляе сабе — кветкі, і слёзна прасіў: «Не прыносьце!»

Але маю прагу прыгожага ўсё ж не перамаглі. Ранкам зразала адну кветку, прывозіла ў аўдыторыю і ставіла яе перад сабою ў маленькі пудэлак ад вітамінаў. А яшчэ ўпрыгожвала кветкамі валасы. Студэнты памятаюць...

Кветкавай кабеце не месца там, дзе забараняюць кветкі.

### Пальчаткі? — Зняць!

Шаноўная Данута Янаўна сурочыла. Глядзіць на мае строі: карункавая сукенка, мехавы каптанік, карункавыя пальчаткі, у валасах кветка з вуалькаю над вачыма — і кажа: «Ты і на працу так ходзіш?» — «Так.» — «І ніхто нічога не кажа?» — «А хто што можа сказаць?»

Сказалі. «Вы і на лекцыю ў пальчатках пойдзеце?» — «Так. А што?» — «Сказалі зняць.» — «Хто?» Якое цяжкае пытанне! Уголас на яго адказваць нельга. Можна толькі кіўнуць у накірунку, адкуль той нехта кіруе. Мне стала так смешна! На кафедру прыйшла смеючыся. І там дружна пасмяяліся. Вечарам мужа рассмяшыла. Ён адрэагаваў адпаведна: «А тваю карункавую бялізну зняць не загадалі?..»

Гэта жахліва: бальшасць гарадзенак ад дваццаці да васьмідзесяці апрануліся ў чорныя сподні і не вылазяць з іх ні зімой, ні летам. Толькі кашулі мяняюць. Нейкая жудасная ўніформа. Пра гэта і сваім студэнткам гаварыла, вучыла: будзьце прыгожымі! Але ніколі жанчынам у чорных споднях не сказала зняць іх. Што ж яны да маіх карункавых пальчаткаў мелі?

Кабеце не месца там, дзе забараняюць пальчаткі.

### Што ўсё ж баліць...

Студэнтка-завочніца здае залік па маім (не таму, што чытала, а таму, што распрацавала і таму што да мяне яго на беларускай філалогіі ніколі не было) курсе «Літаратурная Гарадзеншчына ў постацях і лёсах». Здае са спазненнем, адна. Здае экстэрнам, сесію прапусціла. Нярэдкая з'ява для завочнікаў: дзесьці працуюць, дзетак раджаюць... Вось жа, пытаю: «Назавіце імя самай знакамітай сучаснай гарадзенскай паэткі». Падказваю: апошнім часам выдала тры празаічныя кнігі. Адказ упэўнены: «Людміла Кебіч». (Для тых, што не ведае, — яна з «афіцыйна-правільнага» Саюза пісьменнікаў.) — «Адкуль Вы гэта ўзялі?» — «Яна прыходзіла да нас у школу, і нам казалі, што яна самая знакамітая. І прозу яна таксама піша». «А імя Данута Бічэль Вам нічога не кажа?» — «?..»

Але тыя студэнты, якія «прайшлі праз мае рукі», ведаюць, хто ў Гародні — Паэты. Зараз будуць ведаць іншых, «правільных». Бо яны ўсюды: у школах, у музеях, у бібліятэках. І ў нашай ВНУ. А нас няма нідзе. За рэдкім выключэннем.

### «Я была такой шчаслівай!»

Мае студэнты ведаюць, чые гэта словы. Так, Марыі Апанасаўны Багдановіч. Яна, па сведчанні Адама Ягоравіча, сказала іх перад самай смерцю. Я разважала над імі многа разоў. Штораз прыдумвала новыя тлумачэнні. Бо незразумеласць, а то і абсурднасць іхняя відавочная. Чаму, паміраючы, маладая жанчына, якая так кахала свайго мужа, пакідае яго і так кажа? Чаму маці, якая так любіла сваіх дзяцей (памятаеце: мела адзіны грэх: лічыла, што яе дзеці самыя лепшыя ў свеце), пакідае іх, такіх маленькіх, у гэтым страшным свеце і так кажа? Прыходзіла да высновы: столькі шчасця ёй было адмерана, што мо' ліміт ягоны быў скончаны? І яна гэта адчула? Можа яна адчувала, што ўжо выканала вялікае наканаванне: нарадзіла Вялікага сына, выканала сваю місію мацярынства, дзякуючы чаму застанецца на гэтай зямлі назаўсёды? Пакуль будуць тут беларусы. А можа, каб перагукнуліся гэтыя словы з развітальным Максімавым: «Я не самотны...», у якіх, на першы погляд, таксама незразумелае...

У маім жыцці шмат містычнага. Жыву пад зоркай Багдановіча. З дзяцінства. Мая мама, якая прывіла мне любоў да Багдановіча і да Марыі Апанасаўны таксама, пайшла з жыцця ў той жа дзень, што і маці паэта. Апошняе, што яна паспытала ў жыцці — трускаўкі (кампот, бо была восень: «Пахнуць мне трускаўкі, прывязі кампот з іх»). Як і Максім. Не палічыце, спадзяюся, што параўнанні некарэктныя ці нясціплыя. Можа, бясконца разважаючы над словамі Марыі Апанасаўны, рыхтавала сябе да гэтага, паверце, нечаканага і для мяне самой, сыходу. Мо ліміт майго выкладчыцкага шчасця закончыўся? Бо ўсяму бывае канец.

Напісала пра гэта зусім не дзеля таго, каб хтосьці мяне шкадаваў. Шкадаваць трэба няшчасных. Тых, што маюць толькі ўладу. Бо без яе нічога не ўяўляюць. Таму і трымаюцца за яе, бедныя, аберуч, мёртвай хваткай, адзінае і апошняе жыццё на дарэмнае трацячы.

І тых, хто сысці не можа.
А я — была такой шчаслівай.
І гэта застанецца са мной назаўсёды.
Бо назаўсёды мае студэнты застануцца маімі.
І мой універсітэт — маім.

# Экзотыка з рамантыкай



Васіль МАКАРЭВІЧ

## Віскулі

*Хто папракнуў*
*Ці мацюкнуў калі?!*
*А вымавяць найменне —*
*сэрца ёкне!*
*У Белавежскай пушчы Віскулі*
*Былі здаўна урадавым*
*Маёнткам.*

*Адсюль турылі*
*Крапіву з быллём,*
*Каб пахла пушча краскамі*
*і мёдам.*
*Ды з часам сталі Віскулі бяльмом*
*На воку у партыйнага*
*Бамонда.*

*Ці ж іх віна,*
*Што у глухі бярлог*
*Славянскаму супольніцтву*
*і брацтву*
*Путч, як ніколі і нідзе, памог*
*Здалёк дапасці і сям'ёй*
*Сабрацца.*

*Хлусня*
*І нагаворы, як відаць, —*
*Калі наперакос што-небудзь*
*пойдзе,*
*Усім адсюль у Польшчу драла даць,*
*А там ужо — на Захад*
*Ці на поўдзень!*

*Тут, дзе грыбамі*
*Пахла скрозь зямля,*
*Не мелася пазаддзя, ні адсеўкаў,*
*Умомант клан партыйны ад*
*Крамля*
*Пяра рашучым росчыркам*
*Адсеклі.*

*Адкінуўшы*
*Убок імперскі тон,*
*Адсунуўшы далей пірог з ванілем,*
*Не Віскулі ў Маскву і Вашынгтон,*
*А з пушчы госць з гаспадаром*
*Званілі.*

*Чаму ж тады*
*Ўзнімаюць каламуць*
*Лбы медныя з былымі мацакамі,*
*І Віскулі да гэтых дзён клянуць*
*Ды мацюком апошнім*
*Мацюкаюць?*

*Распад Саюза —*
*Горай за грабеж!*
*Хіба яго зубры у пушчу звалі?*
*Пры чым жа Віскулі і Белавеж*
*Да хіжага дзяржаўнага*
*Развалу?*

*На дубе ссох*
*Нарост, нібы хатуль.*
*Распалася імперыя з імперый.*
*І ад яе з паднеб'я аж дасюль*
*Ляціць на дол, нібы абрыўкі,*
*Пер'е.*

## На медыцынскай камісіі

*Прасвечвалі,*
*То рыліся пад пахвамі,*
*Выпарвалі ў мякіне ды ў тырсе.*
*Чым я хварэю? Ды сваёй эпохаю*
*І ліхаманкай, што наш край*
*Трасе.*

*Не надта рады*
*Вы адметнай вытачцы*
*Майго сурдута на прасцецкі лад.*
*Падскочыць сэрца і на тонкай*
*нітачцы*
*Вісіць, як Ніягарскі*
*Вадаспад.*
*Мо дзеля вас —*
*Экзотыка з рамантыкай,*
*Калі пад небам ссохлы, што сухар,*
*Касцей аглоблі вечнага рэўматыка*
*Вывараю у прыску ста*
*Сахар?*

*Гарыць душа,*
*Прайшоўшы трубы медныя,*
*Агнём шугае, нібы ўлетку лог.*
*Сузор'і Задыяка з Андрамедаю*
*Алмазамі абклалі мой*
*Бярлог.*

*А соль жарствой*
*На рэбрах і пад рэбрамі,*
*Грызе іх, пакідае рваны след.*
*А можа, трэба пачынаць пярэбары?*
*Куды? Туды, дзе родны*
*Сельсавет!*

*Я не прасіў*
*І ў Запаляр'і літасці,*
*Хоць лёду наламаў і там,*
*як дроў!..*
*Навошта вы пра групу*
*інваліднасці?*
*Скажыце лепш, — як мамант,*
*Я здароў!*

***

*Яны, бамонд з багемаю,*
*Маглі без дай прычын*
*Зрабіць нікчэмнасць геніем,*
*А генія — нічым.*

*Стараліся на споведзі*
*Прайдохам дагадзіць.*
*І на кароткім повадзе*
*Іх за сабой вадзіць.*

***

*Здаецца, адбіўся ад статку,*
*Збіў ногі аб лбы скавышоў.*
*Знячэўку для ўсіх у адстаўку*
*Былы каптэнармус пайшоў.*

*Давайце мы разам прыкінем,*
*Мо палку крыху перагнём, —*
*Што ён для нашчадкаў*
*пакінуў?*
*Багацце адно — перагной!*

***

*Пад шэрай шапкай-аплывухай*
*Ён бандурыст, то брандыхлыст.*
*А вецер лясне апляувуху,*
*І ўжо тады ён — мадэрніст.*

*Радкі накрэмзае таропка*
*І лічыць — ім няма цаны!*
*Яны ж, без коскі і без кропкі,*
*Як і без гузікаў штаны.*



# Вандроўныя вершы



Аксана СПРЫНЧАН

## Вандроўкі з багоўкамі і без

*Хай спяць усе багоўкі,*
*Мы едзем у вандроўку.*
*Прыгожа ў Беларусі,*
*Хоць і зляцелі гусі.*
*Хай спяць у глеі жабкі,*
*Мы едзем не да бабкі.*
*Вандроўка ў Лунінец,*
*І гэта не канец.*

*Кастрычнік залаціцца —*
*І наш Парыж нам сніцца.*
*У лістападзе добрым*
*Мы дабярэмся ў Добруш.*
*У снежна-снежным снежні*
*Чакае Новы Свержань.*
*У студзені сцюдзёным*
*Наведаем Расоны.*
*Хоць і кароткі люты,*
*Пабачым Міра цуды.*
*У сакавік празрысты*
*У Шклоў паедзем чысты.*
*А красавік красуе —*
*Да Горадні кіруем.*

*Прачнуліся багоўкі —*
*Мы разам у вандроўкі.*
*Прыгожа ў Беларусі —*
*Зноў прыляцелі гусі.*
*Хай скачуць цяпер жабкі,*
*Мы едзем не да бабкі.*
*Вандроўка ў Камянец,*
*І гэта не канец…*

## Парыж

*Узімку ў нашым Парыжы*
*Можна катацца на лыжах,*
*Каровы хрумстаюць сена,*
*Яны не пілі б нават з Сены.*
*А ўлетку ля роднай рэчкі*
*Ляжаць, як аблокі, авечкі,*
*Дзяўчынка лётае птушкаю,*
*Радасць светлую гушкае.*
*А побач рыцар маленькі*
*Пабіў — і не плача — каленкі.*
*Сабор беларускі парыжскі*
*Узносіцца ў неба так блізка:*
*Не трэба ехаць за межы,*
*Чакаюць уласныя вежы.*

## Шчасце на хвасце

*Сарока паляцела ў Віцебск,*
*Бо мела ліст яна да Віці.*
*А потым ажно ў Маларыту —*
*Лістом усцешыць цётку Рыту.*
*Ляцець хацела і ў Пружаны,*
*Ды апынулася ў Ружанах.*
*Хай іншая жыла там Жанна,*
*Сароцы і не вельмі важна:*
*Лісты яе былі блізнятамі:*
*«Хай будзе шчасця ў вас багата».*

## Салёныя зоркі

*Над Салігорскам,*
*над Салігорскам*
*Свецяць заўсёды салёныя зоркі.*
*Пад Салігорскам, пад Салігорскам*
*Рыюць шахцёры салёныя норкі.*

*Там здабываюць калійныя солі,*
*І ўсе адкіды выходзяць на волю.*
*Так вырастаюць сучасныя горы,*
*І робяць загадкавым новы горад.*
*На тэрыконах ніхто не гуляе,*
*На тэрыконах ніхто не спявае,*
*Імі любуюцца і натхняюцца,*
*І паглядзець яшчэ раз*
*вяртаюцца.*

*Над Салігорскам,*
*над Салігорскам*
*Свецяць заўсёды салёныя зоркі.*
*Пад Салігорскам,*
*пад Салігорскам*
*Рыюць шахцёры салёныя норкі.*

## Жабінка

*Жабінка — такое места,*
*Дзе найлепшыя нявесты.*
*Кожная жабінкаўчанка —*
*Крыху жабка, больш —*
*шляхцянка.*
*Глянь направа, глянь налева —*
*Каралеўны й каралевы…*

*Тут квітнее кветка жабнік,*
*І жыве чароўны скарбнік.*
*Ён ахоўвае каханых,*
*Мілай Жабінцы адданых,*
*Тых адорвае ён раем,*
*Што вандруюць родным краем.*

## Рагачы — не рагачы

*Каля вёскі Пугачы*
*Пугу ўзяў пугач стары.*
*Рагачы — не рагачы,*
*Не пачуць цябе ў бары.*

*Думаў — з пугаю мышэй*
*Будзе страшыць уначы.*
*Сябе ж выцяў між вачэй,*
*Рагачы — не рагачы.*

*Што ж паробіш — хай крычыць*
*Ён «у-ху» сваім мышам.*
*Рагачы — не рагачы,*
*А спужаешся і сам.*

## Кажан-Гарадок

*У мядзведзя свайго гарадка няма,*
*І калі надыходзіць злая зіма,*
*Ён кладзецца ў ложак-бярлогу*
*Праспаць халадоў аблогу.*

*А ў кажана ёсць свой гарадок.*
*У ім расце прыгожы садок.*
*У тым садку ў Кажан-Гарадку*
*Кожны кажан пяе па-радку.*

*Так паўстае кажан-паэма,*
*Магчыма любая начная тэма.*
*Ёсць нават доўгі твор*
*пра мядзведзя,*
*Якіназбіраў бярлогу медзі.*

*Каб горад-сад будаваць вялікі,*
*Ды толькі сарок на бляск*
*наклікаў —*
*Парасяйгалі ўначы манеткі,*
*Бо любяць усё, што зіхціць,*
*іх дзеткі.*

## Сяброўка Ліда

*У мяне сяброўка Ліда,*
*Моцная, нібыта дзіда.*
*З ёй і ў замку жыць магчыма,*
*І гуляць па ім начыма.*
*Усміхаецца ўсім ветла*
*І імкне ў нябёсы светла*
*Незвычайная сяброўка —*
*Любіць латы і абноўкі.*
*Не раўнуе да сяброў*
*З вёсачак і гарадоў.*
*Найпрыгожая нявеста —*
*Ліда — горад, Ліда — места.*

## Жалудок з Жалудка

*Вазьмі ў далоні жалудок,*
*Што рос у Жалудку.*
*Яго расцію дубравы бог*
*У сонечным кутку.*

*Сваё жаданне загадай*
*І пасадзі ў зямлю.*
*Хай жалудоцкі ўзнікне рай,*
*Шапоча дуб: «Люблю!»*

*Няхай магутным стане ён*
*І будзе як узор.*
*У жалудку жыве наш кон,*
*Імкне заўжды да зор.*

## Беларускае неба

*А над Высокім — высокае неба.*
*А над Глыбокім — глыбокае неба.*
*Я вышыні й глыбіні не баюся.*
*Неба такое ва ўсёй Беларусі!*
*Добра там марам*
*высокім-высокім!*
*Добра тут думкам*
*глыбокім-глыбокім.*

# Незвычайная Ларыса

Васіль ДРАНЬКО-МАЙСЮК

## Пралог

Яе жыццё, учынкі, пачуцці і думкі цалкам адпавядалі Яе творам, і ў гэтай адпаведнасці Яе ўнікальнасць.

Ні польскія, ні чэхаславацкія, ні нямецкія, ні савецкія ўлады не здолелі накінуць на Яе абруч падатлівасці, не змаглі раструшчыць у Ёй такога натуральнага (і такога рэдкага для нас) жадання праз увесь час заставацца САБОЙ.

7 красавіка 1983 года Яе не стала.

## 1

Яна вельмі любіла прыгожыя капелюшы, любіла стылёва апранацца, бо цвёрда разумела: сапраўдная паэтка павінна падабацца!

Яе кахалі.

Засцянковыя шляхціцы з-за Яе страляліся, маладыя папы спявалі серэнады, студэнты-артысты ладзілі для Яе спектаклі, сам маэстра Міхась Забэйда-Суміцкі прапаноўваў руку і сэрца (Яна спусціла яго са сходаў).

Вядомая гісторыя пра тое, што ў Празе кватэрная гаспадыня папрасіла Яе з'ехаць, бо адзін кватарант ад нешчаслівага кахання не мог ні піць, ні есці.

Ужо ў падлеткавым узросце дакладна ведала, якім павінен быць Яе адзіны каханы мужчына: яркім, высокім, прыгожым, інтэлігентным і, што самае важнае, нацыянальна-свядомым, і ў сваёй любові да Беларусі ў яго не павінен быць разлік.

Дарэчы, да канца жыцця Ёй падабаліся менавіта высокія (і чарнявыя) мужчыны, таму, напрыклад, з асаблівай любоўю ў 1960-ыя гады выказвалася пра Ніла Гілевіча.

Не дзіва, што і апалячаныя дуэлянты-шляхцічы, і абмскаленыя галасістыя папы, і шмат хто яшчэ атрымалі гарбуза.

Яе мужчынам стаў Янка Геніюш — худы і высокі, сціплы студэнт-лекар. Ён адкрыў Ёй хараство беларускай паэзіі, чытаючы па памяці Янку Купалу (да сустрэчы з ім Яна ведала толькі простыя вершы Міхася Васілька і народныя песні).

## 2

Жыць з каханай жанчынай, якая складае вершы, — цяжка.

Жыць з паэткай, якая, акрамя таго, яшчэ і заўсёды гаворыць праўду, — цяжэй удвая.

Яна ж заўсёды казала тое, што думала.

Пакуль Янка Геніюш быў для Яе духоўным настаўнікам — усё было добра. Але хутка з жонкі, якая слухала кожнае слова мужа, Яна ператварылася ў самастойную асобу, якая сама мае на ўсё свой незалежны погляд

А гэта, як вядома, раздражняе.

Ён любіў Янку Купалу, Яна — называла аўтара «Магілы льва» плаксівым паэтам. Ён захапляўся прозай Янкі Брыля, Яна — лічыла «Птушкі і гнёзды» небеларускім па духу раманам і зачытвалася



Васілём Быкавым. Ён цаніў «Хрыста, які прызямліўся ў Гародні», Яна — вялікая прыхільніца таленту Уладзіміра Караткевіча — казала, што менавіта гэтая рэч адна з самых слабых у пісьменніка ды непраўдзівая з гістарычнага боку.

Як і любы мужчына, ён марыў, каб Яна стварала для яго спакой. Яна ж крыўдзілася, што, абыякавы да Яе вершаў, ён цаніў толькі Яе кулінарны талент.

Стомлены ад Яе суровага характару, ён хаваўся ў чытанне: кнігі апантана купляў да апошняга свайго дня.

Яна ж аддавала свой час сыну Юрку.

## 3

Расчараванні і крыўды... Яе два самыя вялікія расчараванні звязаныя з мужчынамі: мужам і сынам.

Яна так і не змагла даравацць Янку тое, што іх арыштавалі і амаль восем гадоў трымалі ў лагерах.

Была магчымасць адразу пасля другой сусветнай вайны эміграваць. Яна хацела гэтага, але муж-сацыяліст быў супраць: «...сына не дам, а калі жонка хоча, няхай едзе сама без дзіцяці», — казаў ультыматыўна.

Не магла Яна знайсці з ім паразумення і на высылцы. У сваіх лістах ён раўнаваў Яе да вязняў-беларусаў, хацеў пасля вызвалення застацца працаваць у тамтэйшай бальніцы. А Яна прапаноўвала развод і жыла толькі адным: будучай сустрэчай з сынам. Яна верыла, што Юрка стане Яе сапраўдным абаронцам, апекуном, што з ім Яна спакойна дажыве свой век.

## 4

Калі ў вас моцная, праўдзівая, сурова-патрабавальная маці (якая акрамя таго яшчэ і пісьменніца) — гэта не менш цяжка (а мо і яшчэ цяжэй), чым жыць разам з жонкай-паэткай.

Яна марыла ўбачыць у Юрку рыцара. А перад Ёй быў — нервовы, надламаны чалавек, якому самому была патрэбна дапамога, пяшчота і спрыянне. Як і бацька, ён так і застаўся вялікім дзіцёнкам: быў капрызлівы, слабы і, безумоўна, крыўдлівы.

А як жа?

Маленькім хлопчыкам, пасля арышту бацькоў, ён застаўся зусім адзін! У прылівах эмацыйных бур, падмацаваных напоямі Бахуса, ён абвінавачваў маці ў тым, што Яна скалечыла яму жыццё!

Яна не ўмела маніць (дзеці так любяць, калі ім маняць!), а таму і сыну выказвала тое, што думала і што ён хацеў пачуць найменей. Яна была незадаволена сваёй нявесткай, не верыла ў сына як у геніяльнага паэта, і, часам, у глыбіні душы дапускала думку, што Юрку добра апрацавала КДБ.

Што яму заставалася рабіць? Безумоўна, яшчэ болей піць. Чыніць скандалы і выбіваць шыбы падчас рэдкіх прыездаў у Зэльву; з яшчэ большай зацятасцю пісаць свае экспрэсіяністычна-балючыя вершы, а затым плакаць на плячы ў мамы...

Яе мара — жыць разам з фізічна і духоўна моцным мужчынам — так марай і засталася. Але ж былі і сябры-мужчыны.

Сапраўдныя сябры!

## 5

Максім Танк і Аляксей Карпюк.

Гэтыя два вялікія пісьменнікі выявілі да Яе лёсу і творчасці рэдкае для беларусаў пачуццё ўвагі.

Дзякуючы ім Яна зноў пачала друкавацца! Яна зноў адчула, што патрэбная. Яе захапляў грубы ў сваёй праўдзівай шчырасці Карпюк, які мог проста заявіць у вочы, што Яна кепска апранута, а таму — вось грошы, і набудзь якое-небудзь прыгожае футра.

Яна адчувала сябе сапраўднай прынцэсай пасля сустрэчаў з «казачным прынцам» Максімам Танкам.

З усіх жанчын Яна па-сапраўднаму сябравала з маці Уладзіміра Караткевіча — Надзеяй, асобай шляхетнай, вытрыманай, сапраўднай арыстакраткай.

Як жа Ёй не хапала ў іншых сябрах-беларусах такога арыстакратызму!

Яе і Надзею аб'ядноўвала і агульнае гора: сыны, якія п'юць.

Яна лічыла алкаголь галоўнай бядой для свайго народа; не магла даравацць гэтай слабасці і Караткевічу; калі стала сведкам таго, як ён, выпіўшы, выказаўся пра маці, увогуле нейкі час з ім не размаўляла.

## 6

Мы звыклі думаць пра Яе як пра зацятую антысаветчыцу, але самае шчырае сяброўства ў яе было з камуністамі Максімам Танкам і Аляксеем Карпюком. Яна вельмі бедавала, калі загінуў Пятро Машэраў, любіла савецкі кінематограф і раіла ўсім сваім сябрам паглядзець выдатны фільм Івана Пыр'ева «Браты Карамазавы».

Так, Яна ставілася да савецкай улады як да з'явы злачыннай і небяспечнай, але агулам увесь рускі народ у акупанты не запісвала. Для Яе шавінізм не меў нацыянальнасці, і таму з аднолькавай трывогай казала і пра антыбеларускія настроі сярод немцаў, палякаў, літоўцаў альбо ўкраінцаў.

Было, з ноткамі катэгарычнасці гаварыла пра сыноў Давідавых: «...Ёсць, безумоўна, многа разумных і талковых яўрэяў, як Бярозкін, Курган і інш., але рэшта нас ня любіць. Яны жывуць не для нас, а з нас...»

Падобныя выказванні мелі свае жыццёвыя тлумачэнні: «Яны былі маімі следавацелямі... Уся амаль адміністрацыя... лагеру... была з яўрэяў...»

Антысеміткай жа Яна была не большай, чым той жа Янка Купала, які стварыў знакаміты верш «Жыды».

Але найбольш суровай і патрабавальнай была, безумоўна, да беларусаў.

Яе рамантычныя мары аб прыгожым і нацыянальна-моцным народзе разбіваліся аб спрадвечную, паводле словаў паэта, філасофію: «...хто мне вушка пашкрабе, чэсны, ці нячэсны. Я аддам яму сябе і бярлог свой цесны...»

З якой зайздрасцю Яна згадвала пра тое, як дружна трымаліся ў лагеры ўкраінкі, у той час, як беларусак «...запалохалі й купілі... і ніводнай з іх нельга было верыць...»

З недаверлівасцю ставілася ў тым жа лагеры і да нацыянальна-свядомых суайчынніkаў: «...Здаецца мне, што гэтыя людзі крыху хворыя... Усе яны нейкія няшчырыя, нацягнутыя, рысуюцца і гуляюць у дзеячоў...»

Яе любоў, балючую любоў да свайго народа, можна параўнаць з любоўю да сына. Так хочацца, каб ён быў не горшым, напрыклад, за героя ў «Каласоў пад сярпом тваім», але рэальнасць табе дае зусім іншы варыянт. І нічога не зробіш! Мусіш любіць яго такім, якім ён ёсць, і лекаваць яго хворую душу адзіным сродкам, які Яна ведала: Паэзіяй.

## 7

Яе эмацыйна-шчырая, пазбаўленая тонкіх падтэкстаў і нечаканых метафар паэзія валодала іншай вельмі важнай якасцю.

Яна была па-сапраўднаму народнай.

Вязням-беларусам (як і тым, хто сядзелі ў нямецкіх лагерах падчас другой сусветнай, так і сталінскім зэкам) не патрэбны былі незвычайныя метафары і выкрунтасістыя вобразы. Самае простае і самае роднае (хата, зямля, дзяўчына, якая чакае каханага, вяртанне дамоў, харасто свайго краю) — вось што іх натхняла і за што яны любілі Яе творчасць.

Сама ж Яна ставілася да сваёй творчасці вельмі крытычна і часта пісала, што Яе вершы «...маглі б быць лепшымі, болей мадэрнымі...» А сама Яна не любіць сваіх твораў, бо не можа пісаць так, як хацелася б: «У мяне мала мастацтва, узнёсласці, таленту... Мучуся...»

Цікава, хто б з сённяшніх літаратараў змог бы так бязлітасна выказацца пра сваю творчасць?

## 8

Усе — і сябры, і ворагі заўсёды з павагай гаварылі пра Яе моцны, нязломны характар. Але ў хвіліны адчаю, калі жыць сярод родных беларусаў станавілася проста невыносна, — Яна прасіла Машэрава выслаць Яе куды заўгодна, «хоць да папуасаў».

Яна адкідвала любыя прапановы прыняць савецкае грамадзянства, але прычынай гэтаму была не толькі Яе выразная пазіцыя, але і чыста чалавечы страх: «...Грамадзянства? А што, калі я скажу Вам, што я баюся? Баюся так звычайна па-людзку, па-бабску! Вы ведаеце, што страх мой не галаслоўны. Калі мне кажуць у Менску, што пры першым капрызе ўлады, якая ізноў збіраецца нішчыць беларускасць, іду ў радзе першых ахвяр, мне робіцца гідка...»

## Эпілог

Яна валодала мастацтвам заставацца сабой у любых, нават самых цяжкіх варунках, мастацтвам, якім усё аніяк мы не можам (ды і не хочам) авалодаць.

Яе жыццё, Яе лёс — напамін, што гордыя, патрабавальныя, самаахвярныя, духоўна моцныя, унутрана свабодныя і незалежныя беларусы, — гэта не прыгожая фантазія Яе вершаў альбо раманаў Уладзіміра Караткевіча.

Гэта — рэальнасць.

**24 сакавіка 2015 г.**

«ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» | № 4 (104) | 24 красавіка 2015 | № 16 (433) Новы час

# Псіхаскапія дзявятага неба



Уладас БРАЗЮНАС

***

*светла ў ночы, пяшчотнай і цёплай,*
*бы ўнутраны бок тваіх*
*сцёгнаў, ты ранак праспіш,*
*днём прачнешся, а ночы пало-*
*ву санлівай са мной застанешся,*
*і ў сне будзе ўсё, як было,*
*будзе снег, і віхура за вокнамі*
*яблыні белую скуру дало-*
*ній кране там, дзе сад паўпусты,*
*колькі хопіць нам зроку,*
*у змроку расце і ў квяцістых сукенках*
*памерлыя маці рассце-*
*люць павольны цяжар шапаткіх*
*недаснёных палотнаў,*
*мне — слабога і чыстага —*
*ты мяне дорыш пяшчотна, пяшчотна*

### вялікія ёсць ночы
### trois pensées musicales

*1*
*уночы расцвітаюць твае грудзі*
*і жнівень у аліўкавай атруце*
*прароцтвам накрывае з галавой*
*мы будзем пунктуальнымі да ўздыху*
*у одах нашым зменлівым губам*
*садовым яблыням і туманам*
*калі, сцяжэлая, ты крочыш ціха*
*за салаўём і ўдзеш па горла ў песні*
*яшчэ не ранак, ды ажыў агонь*
*лістоты жылы, белыя камлі*
*Пяшчотная! калені нахілі*
*маленькі шэры талісман кахання*
*не чутны ў цішыні, сядзі і плач*
*спадзеючыся, што мой voix d'enfant*
*пральецца праз вялізарную ноч*
*апошняй нашай, Госпадзе, ахвяры*

*2*
*дурман сыходзіць, дрэмлюць маяраны*
*у цемры галаву разбіў нарог*
*мы дзве струны напятыя й старанна*
*я ў ноч тваю ўціскаюся, і змрок*
*вандроўнымі агеньчыкамі ззяе*
*і — бы з пакоя тайнага шкілет —*
*усіх, што адплылі і адплываюць*
*вачніцамі зіхціць дрыготкі след*
*ды свеціцца, ты бачыш, ратаўніча*
*задумлівыя вочы кажаноў*
*часовых крыўдаў сцёртыя аблічы*
*стары пажар, распалены наноў...*
*падводжу вынікі: нас толькі двое*
*ахвярнік — на расколатым рабры*
*прароцтва накрывае з галавою*
*Пяшчотная! ў абдымкі забяры*
*хай дотык апячэ руку слабога*
*цякучым полымем суцішыць боль*
*да сэрца прытулі сляпога Бога*
*святую песню chantant dans la coupole*

*3*
*маленькі шэры талісман кахання*
*мятліцамі верленіцца змярканне*
*і тоне ў ложку губакветны флот*
*мяжа кладзецца залатым праборам*
*палаюць верасы над ціхім борам*
*і хмары галава гарыць бы ў печы*
*не забываючы ніводнай рэчы*
*груднога панцыра, крывавай клеткі*
*што дзеліць нам свабоды й несвабоды*
*і ластаўка, халодная заўсёды*
*ужо сарвала твой брунатны плод*
*мы ў гарадскім мурашніку не дома*
*хто за каго, хто супраць, невядома*
*і толькі ўночы іншая рука*
*твае пялёсткі горне ў бок маўчання*
*і заўважаю са здзіўленнем тайным*
*сусвет, які маю ратуе ліру*
*Пяшчотная! спагадная рука*
*нам раны перавязвае няспынна*
*здымае жар і абдымае шчыра*
*і поіць нас гарбатаю палыннай*
*Пяшчотная! мне не пачуць паэм*
*дразда, што ў гласалаліі шаманнай*
*нябёсы залівае зорнай маннай*
*ды кропляю апошняй je vous aime*
*гарыць на вершаліне надламанай*

### псіхаскапія дзявятага неба

*святое трымценне зірнуць не давала назад*
*на вусны, дзе ў вусцішным часе*
*танула дарога*
*на словы, якія блукалі й вялі наўздагад*
*няясных у свеце дзяцей, нежывога старога*

*на дне таямніцы, дзе з даўніх часоў ні душы*
*ляжала вялікая ноч, але хто і калі яе зведаў?*
*ты чуеш, бярвёны ў капліцы спяваюць на мышы*
*бабуля жагнаецца ў кухні,*
*працуе атрад карэедаў*

*дагэтуль у тоўшчы зямлі, але гэты алей*
*але гэты сыр і плады, гэты хлеб*
*наш надзённы*
*злачыннае тое віно, пахаванае як найдалей*
*тады яшчэ дыхала ліпкай крывёю чырвонай*

*сыходзіла ў пушчы здабыць у крыніцах агню*
*што кроў ачышчае багам,*
*дыстылюючы ў чыстае крэда*
*ён нас паяднае бядою, якой не спыню*
*і белаю стане душа, як у страўніках крэйда*

*павук-папрадуха, пляцеш павуту сваіх кос*
*з нявіннага цела, сатлелага цела багіні*
*сем тыдняў дажджу праліліся*
*з дзявятых нябёс*
*і кожны прыкуты да студні ад смагі загіне*

*туманіцца неба й сціхае жыццё на зямлі*
*сціскаецца горла і ногі нам путае страхам*
*я бачыў, асела магіла — і ўсе, што сышлі*
*праз сцятыя вусны,*
*праз века труны,*
*праз засохлую гліну,*
*праз студню, набітую прахам*

*карэннем растуць і ў вянкі*
*заплятаюць, што ёсць*
*грызуць камяні і заходзяць у брамы без стуку*
*так веды, старыя як ветах,*
*нам ціснуць на грудзі,*
*ламаючы косць*
*і цераз лазейку граху выпаўзае сястра*
*іх гадзюка*

*так хіліць уніз, да зямлі, ад празмернасці сіл*
*і не дакрануцца да слова,*
*што зробіцца справай*
*сем раз па сем тыдняў дажджу*
*зарадзіў небасхіл*
*дзявятае неба, дзе сохнуць нічыйныя травы*

# Уплыў



Айдас МАРЧЭНАС

### Я над кнігай сядзеў

*Я над кнігай сядзеў і драмаў, як раптоўна*
*ў акно,*
*нібы ў Эдгара По, заляцела*
*вядомая птушка,*
*за акном галасы, але мне ўжо было ўсё адно,*
*я ўжо ведаў, што гаспадаром можа быць*
*толькі служка.*

*Тут зліваецца ўсё і віруе, кружляе, нясе*
*на той бок геаграфіі, словаў*
*ды іншых асноваў,*
*усё робіцца ветрам і полымя ніштыць усе*
*каралеўствы, што д'ябал калісьці*
*Хрысту прапаноўваў...*

*Я не йшоў, я лунаў... Гарады праплывалі ўначы,*
*за сталом засталося бяздушнае соннае*
*цела,*
*я ляцеў над зямлёю, са мною*
*браты-крумкачы,*
*а сястры не было, што б мяне*
*ўратаваць захацела*

*з той краіны, якой і на свеце, здаецца, няма...*
*Бо й вар'яту такое не ўдасца ўявіць,*
*уявіце:*
*ні руіны, ні замак, ні змрок, ні святло —*
*ўсё дарма.*
*Хто стварыў бы ўсю вусціш,*
*што ў гэтым была краявідзе?*

*Дзе я ўбачыў паэзію? Там, дзе ні «да»,*
*ні «пасля»,*
*дзе братаюцца думка і смерць*
*у адной настальгіі,*
*найглыбейшая з меляў расце ўвышыню,*
*а зямля*
*і вада, і паветра гараць*
*у чацвёртай стыхіі...*
*Пагля дзіце глыбей: я разгледзеў між*
*лісцямі дрэў*
*белы сад з немагчымымі птушкамі*
*і аднарога...*
*Каб хапіла адвагі ўвайсці,*
*то і дзеву б сустрэў,*
*што ўсміхнецца таму,*
*хто ў апошнюю пойдзе дарогу.*

*Паміж ружаў самотна і велічна крочыць,*
*бы ў сне,*
*лёгкі вецер і спеў салаўіны сплятаюцца*
*гімнам,*
*аднарог, галаву апусціўшы, ёй сумна кіўне.*
*...Яна ўсё даравала. Яшчэ да народзін.*
*Усім нам.*

*Ды радкі пацяжэлі і ўсё, як туман, паплыло,*
*і, нібыта шыпом, укалола раптоўнаю*
*думкай.*

*Зноў руіны ці замак...*
*Над імі ні змрок, ні святло...*
*І не зменіш наўкол краявіду,*
*як птушкай ні крумкай.*

*Жыць у замку, далей ад зямлі,*
*чуйнаваць уначы*
*там, дзе цела старэе і кнігі —*
*слабой абаронай.*
*Толькі так ты навучышся словам,*
*а зараз маўчы.*
*Дзе ты ўбачыў паэзію? Між каўпаком*
*і каронай.*

### Заслона дажджу

*Сыходзіць чэрвень, покуль я кажу,*
*і нават не істотна, што кажу я.*
*Не любячы нікога, ў ноч чужую*
*гляджу, а там няма канца дажджу.*
*«Ты чуеш...» Я не чую. Я сыйшоў.*
*У чорнае нішто не ўпішаш нешта.*
*Усё, што трэба, зроблена, а рэшта —*
*нікчэмны карнавал, дурное шоў.*
*За той заслонай сто гадоў зімы*
*панізяць градус нашае самоты,*
*самотныя па самыя сумёты*
*пляц, брукаванка, і дамы, і мы.*
*У п'яным бары танныя сябры,*
*пазыкі на таксоўкі й катафалкі.*
*То патрыёты ўспыхнуць, як запалкі,*
*то «вер у Бога й збавішся, стары!»*

*Жахліва й чорна, толькі дождж і змрок,*
*і на падтрымку марныя спадзевы,*
*але за шыбай сад, шапочуць дрэвы*
*пад кропель стук... І раптам, як знарок,*
*я чую: «На шкляных нагах бяжыць*
*па садзе дождж» — нібы адной цытатай*
*нябёсы шлюць ратунак мне. За хатай*
*шчаня скуголіць. І не страшна жыць.*

*Віднее. Хутка пройдуць дождж і ноч,*
*а там, глядзіш, і нервавацца кінеш.*
*Смерць — плоская развязка, кепскі фініш,*
*ніякіх таямніцаў, лепей збоч.*
*Ноч — пастка, дождж —*
*звычайны стан вады,*
*дажджы і голас — акіян і бухта,*
*а ў смерці мала дзіўнага — таму, хто*
*пражыў на свеце трыццаць тры гады.*

### Госпадзе, я знайшоў грыб

*Бога і я не сустрэў, ані разу ў жыцці,*
*але вось баравік, нібы волат, глядзіць на*
*мяне,*
*архетып архетыпам! Чаму ж я баюся сысці,*
*калі ўсё, што люблю на зямлі,*
*гэтак хутка міне?*

*Я даўно здагадаўся, я з лісця не зводзіў вачэй,*
*так на грошы з надзеяй і страхам*
*глядзіць ліхадзей.*
*Касманаўт з маіх мараў,*
*мы там апынемся хутчэй,*
*чым палезуць на лоб тэлескопы*
*ў няшчасных людзей.*

*Асы з лятучых талерак! Куды несяце*
*вы мяне?*
*Ад рэальнасці ў тонкія высі, на злом галавы?*
*Я ўсё ведаю, мой баравік расказаў*
*мне ўва сне —*
*я бясконцы, як вы, а таму й бескарысны,*
*як вы.*
*Сесці ў човен і плысці ў нікуды, ніхто,*
*ніадкуль,*
*аж завершыцца эра і памяць растане на дне.*
*Час абраў нас. Абраў да апошніх лушпінаў.*
*Пакуль*
*мы падымемся ў абсерваторыю,*
*восень міне.*

### Класічны санет сёння

*Там куфар і клетка ў пасаг салаўям,*
*сталовае срэбра і скарбы піратаў,*
*чароўная лямпа на шэсцьдзесят ватаў,*
*засохлая ружа і ўзор вінных плям;*

*прыбой, што міжземныя ветразі шые,*
*Пятрарквы цень між магіл вядзе рэй,*
*жывая вада з іншай казкі й чужыя*
*дзве даты, і дзверы да іншых дзвярэй;*

*звычайная форма, праклён і замова —*
*так з семені лес вырастае нанова;*
*мастацтва журбы й выжывання ў журбе,*

*і рэшткі любові пад гэтай журботай,*
*як шапкі зладзеяў, згараюць употай —*
*кастрычніцкай зоркай, лістом ад цябе.*

### Уплыў

*хто на мяне ўплывае? туман,*
*дажджы і бунінскія вёскі,*
*з евангелістаў двойчы ян,*
*і тры разы сусвет наш боскі*

*разоў пяць-шэсць зрабіў уплыў*
*таркоўскі, можна ганарыцца*
*і трыццаць год язмін мне цвіў,*
*таму і ўплываў роўна трыццаць*

*уплывы, так бы мовіць, музаў:*
*п'яных амбіцый поўны кузаў,*
*бяссонніца, гамэр, крыло*

*пегаса, гузакі, самота*
*й салодкага жыцця гаркота,*
*што паўплывала — і сплыло*

**Пераклаў з літоўскай мовы**
**Андрэй Хадановіч**

# Усё, што ёсць



Сяргей УКРАІНКА



### Хвароба

Сын-студэнт прыехаў на канікулы дадому ў невялікую вёсачку. Маці паставіла на стол святочны пачастунак. Калі пачала наліваць у шклянкі самагонку, сын перакуліў сваю, пакуль пустую, і прабурчаў:

— Мне не налівай.

Старая ад нечаканасці аж сцепанулася:

— А Толічак, а дзіцятачка, а што ж з табой сталася?! То пэўне ж захварэў. А я й гляджу, што з твару збляжэў зусім, высах удудку.

Потым, як бы ўжо сама сабе, дадала:

— Нічога, дома адхлыне, падправіцца.

### Капялюш

Малады, але даўно ўжо сямейны, загадчык вясковага клуба купіў сабе «для саліднасці» ёмкі брыль. Як зазвычай, гукнуў «на замочку» сяброў.

Паселі бяседнікі за стол і пакрысе прамаўляюць сабе тосты, каб рэчы зносу не было.

Праз нейкі час зарыпелі весніцы — з садка вярнулілся жонка з трохгадо-вым сынам. Як толькі ўвайшлі ў хату, хлопчык угледзеў на табурэце капялюш. Уражаны, спыніўся, а потым абедзвюма ручкамі схапіў яго і радасна закрычаў:

— Ура! Папка мне мяленькі гаршчочак купіў!

Пакуль бацька з дзецюкамі, гыгыкаючы, выпівалі за «новы гаршчо-чак», яго трэба ўжо было несці да пліты — падсушваць.

### Агарод

На Дняпры — паводка. Хвалі плюскочуць на вясковых агародах, вада падбіраецца да хлявоў небаракаў-прыбарцаў. Нерастуе рыба. Лавіць яе — не дай Бог, але, як і заўсёды, — ловяць. Браканьераў вывіжоўваюць цэлыя атрады міліцыянтаў. Ну і няхай сабе. Вопытныя прыбарцы ставяць сеці на сваіх агародах, за платамі. Да аднаго такога прычапіліся два сяржанты:

— Ты што, тваю мець, не ведаеш, што цяпер нельга рыбу лавіць?

А той, таксама з мацюком, адказвае:

— Знаю. А дык няхай яна, падла, мой гарод не топча...

### Памочнікі

Дырэктар свінакомплекса частуе дарагіх гасцей. Паўз столік, за якім яны сядзяць, раз-пораз шмыгаюць дырэктаравы памагатыя.

Таму ўрэшце надакучыла іх мітусня:

— Ну што вы ўсё бегаеце, быццам вас панос прахапіў?!.

Адзін з памочнікаў хуценька адказвае:

— Ага, не будзеш бегаць, дык скажаце, што ў нас запор.

### Пытанне

Загадчык раённага аддзела кампартыі Беларусі заходзіць у кабінет да падначаленых. Убачыўшы, што таго, хто яму патрэбен, не відно, незадаволена кідае:

— А дзе Петрасеня?

— У туалет пайшоў, — адказваюць.

— А чаго?..

### «Закладка»

«Галава» райвыканкама выклікаў «галоў» калгасаў на справаздачу па закладцы сенажу. Двое старшынь-суседзяў змаглі патрапіць да начальства толькі напрыканцы дня: тэлефанаграмы іх позна адшукалі.

Калі першы панура выйшаў з кабінета шэфа, другі спалохана запытаў:

— Ну, пра што ён, Гена, цябе выпытваў? Дужа злосны?

Той нічога не адказаў і толькі скрушліва матнуў рукой...

...Шэф невялічкай горкай узвышаўся над шырачэзным сталом. Калма-тыя бровы надавалі яго нахмаранаму твару яшчэ большую строгасць.

— Ну, Галаўко, а ты колькі залажыў?

Старшыня залыпаў вачыма.

— Дык я, Іван Трафімавіч, яшчэ меней, чым Гена Галабродаў, усяго грамаў 150. Чэснае слова. Ён можа пацвердзіць.

— Што-о? — твар шэфа ўмомант стаў падобны да рэпы. — Воо-он!!! — шалёна зароў ён, схапіў са стала попельніцу і з усяе сілы запусціў услед небараку.

### Сырадой

«Галава сям'і» нашчыцца сырадоем. Глыток за глытком. Раптам ставіць слоік на стол і падазрона глядзіць на жонку:

— Вольга, чаму малако кіслае?

— Як яно кіслае? — устрапянулася тая. — Толечкі ж працадзіла.

— А што карове нанач давала?

— Ды пáданкі, антонаўку.

— Ну во. Колькі гаворана было, каб не сыпала скаціне гэтае кіслоцце. Пі от цяпер сама...

### Хамут

Гэта адбылося ў часы, калі бохан хлеба каштаваў 16 капеек. У Галі Шмаргуновай з клеці ўкралі хамут. Яна, вядома, здагадалася, чые ногі па двары пахадзілі, таму адразу пакіравала да Мішы Глычка. Той і не вхіляў:

— Ты ведаеш, Галя, я й не хацеў яго браць, толькі думаю: а нахрана табе хамут, калі каня і ў праекце не значыцца? Загнаў я яго Мясаеду за паўсотні. Дзве «гінды» шчэ асталіся. Хочаш — кáпну.

— Ды не буду я піць тваю чарвіўку. Хамут аддай.

— Галечка, ну як жа я адбяру яго ў чалавека? Грошы ж прапіты...

— А ты не адбірай, а адкупі. На вось, — яна падала небараку-злодзею стосік «пяцёрак».

Той паглядзеў на Галю круглымі вачыма, узяў грошы і, спатыкаючыся, выкаціўся на вуліцу. Вярнуўся праз чвэрць гадзіны з хамутом.

Жанчына прыдзірліва агледзела рэч і задаволена ўсміхнулася:

— Ну во. Слава Богу. Давай, стаўляй цяпер сваю «гінду».

Калі выпілі па дзве шклянкі віна і ў галовах крыху зашумела, Міша насмеліўся запытацца:

— Галя, ты ўсё-такі скажы: нахрана табе здаўся гэны хамут? На шыю сабе адзяваць будзеш? Ішчэ й капейку аддала...

— Дурны, я ж у ім «машыну» зашыла. Усе гады, як пад Мурманскам жыла, грошы адкладала. На «Жыгулі» вот і назбіралася. Сыну завязу ў Магілёў.

### Урок

Школа ў часы «перабудовы». 2 клас. Маладая настаўніца праводзіць урок-гульню.

— Ну, дзеткі, давайце пагуляем у магазін. Ты, Волечка, будзеш прадаў-цом, а вы, дзеці, пакупнікамі.

Умомант утвараецца чарга. Прычым, як у сапраўдным магазіне, хлоп-чыкі імкнуцца пралезці ўперад. То адзін, то другі, працягваючы руку з «грашыма», прамаўляе:

— Бутэльку «чарніла» і пачак цыгарэт.

Настаўніца ў разгубе. Каб неяк паправіць становішча, яна прапаноў-вае:

— Давайце лепей, дзеці, пагуляем у аптэку. Ты, Светка, будзеш прада-ваць лекі.

Чарга зноў вырастае, але цяпер ужо не такая шумная. Дзеці купляюць «таблеткі». Раптам адзін бойкі «пакупнік» падыходзіць да дзяўчынкі і голасна кажа:

— На табе, Таня, грошы. Вазьмі мне таблетак, а то я хачу яшчэ ў мага-зін паспець. Трэба «чарніла» і цыгарэт купіць.

### «Садыстка»

Чарга па цукар у гастраноме. У тым жа аддзеле прадаюць і слоікі з дзіцячым харчаваннем. Падыходзіць інтэлігентнага выгляду жанчына.

— Скажите, — звяртаецца да прадаўца, — у вас детского мяса еще много осталось?

Чарга маўчыць. Прадавец з усмешкай:

— Вам хватит...

### Сон

Студэнтка — экзаменатару:

— Ой, Мікола Пятровіч, я так вучыла, так вучыла. А сёння дык амаль не спала: легла каля трох, прачнулася каля чатырох.

Выкладчык (меланхалічна):

— То хіба дзіва, што вы так пагана падрыхтаваліся. Трэба ўжо нешта адно: ці вучоба, ці хлопцы...

### Каштан

— Касілі мы ў Андрэя Адамовіча. Леглі ў цянёк на перакур, і Іван, брат яго, кажа: «Глядзіце-ка, наш каштанчык лісце ўгору задраў. Мусіць, будзе дождж». Андрэй толькі махнуў рукой: «Ат, які там дождж. У яго ўвесьчасна лісты дубака стаяць. Малады».

### Метафара

Студэнты атрымалі заданне прывесці прыклады метафар і ахарактарызаваць іх. Волечка Васількова пакарысталася радком з твора Ніла Гілевіча. Чытаем: «Прапусцім сціпла па адной?» Характарыстыка: «Прывычная метафара».

### Парсюк

З самай раніцы Іван ды Талюк пахмяліліся самагонкай, узялі стрэльбу і падыбалі ў хлеў да свіней. Іван кажа: «Глядзі, братан, як ён рыла падставіў ёмка. Шчас гакну». Бах у лоб парсюку — той нават не завішчаў. Штых-нажом нямецкім — па горле, каб кроў сышла. «Няхай свяжуецца», — хмыкнуў. Памылі рукі пад калонкай, зайшлі ў сенцы, лыкнулі па «сотцы». Яшчэ па «сотцы»... Выйшлі на двор, каб вяроўкай выцягнуць парсюка з хлява, а той... той, як ні ў чым не бывала, капошыцца, парохкваючы, каля каровінай пуні, храбусціць кавалачкамі цэглы. А з бакоў і галавы яго чорнымі лахманамі адкідаецца загусцелая крывішча. Пастаялі хлопцы стаўбурамі якую хвілінку, а тады Іван з крыкам «т-тваю мець!» кінуўся ў сенцы, схапіў стрэльбу, падскочыў да парсюка і пеканўў у небараку чарговым жаканам...

Усё, можа, і абышлося б, як было тое заўсёды. Ну, пагаварылі б за чаркай пра дзівосы розныя, пакруцілі галовамі, паўспаміналі падобную чартаўшчыну — дзякуй Богу, прыкладаў хапала. Але ж калі Іван з Талюком дасмольвалі парсюковы бок, маці заманулася аднесці мяшанку свінні. Аднесла. Выйшла з хлява. Спакойна вывернула свіную ежу на зямлю, павольна падышла да сыноў... і толькі тут жанчыну «прарвала»: з лямантам яна пачала ахаджваць вядром сваіх недалугаў — па спінах, па галовах, па нагах.

Чорт аказаўся ні пры чым. Гэта, пакуль сыны ставілі ў сенцах стрэльбу, ачмурэлая ад стрэлу свіння зламала гнілую перагародку, пералезла да суседа, вымурзалася ў яго кроў і, крыху супакоіўшыся, вывалілася на двор...

### Песня

У шапік, дзе прадаюць CD/ DVD, заходзіць дзяўчына. Пытаецца ў прадаўца:

— У вас есть такая песня: На-на-на-на // на-на-на?

### Каб

Сварацца двое:

— Каб ты шнуркі на базары прадаваў!

— Каб я табе іх прадаваў, каб ты на іх засіліўся.

### Характар

Вясковая мянушка яго была Шкраб, і ён страшэнна не любіў, калі яго так дражнілі. У дзяцінстве адразу кідаўся ў бойку, а калі пасталеў, проста пераставаў размаўляць з «крыўдзіцелем».

З наравістаю жонкай ён жыў пагана. Былі частыя сваркі, іншы раз нават бойкі. Так сталася і на гэты раз. Слова за слова, і калі жонка з нянавісцю працадзіла: «Шкраб ты дурны! Калі ты ўгамонішся, паскуднік?» — накінуўся на яе з кулакамі. Пасля трэцяга ўдару жанчына абрынулася на падлогу. Ды толькі што значыць характар! Ужо трацячы прытомнасць, яна заскарадзіла па фарбаванай масніцы пазногцямі: «Шкраб! Шкраб! Шкраб!»

### Прызванне

У маці аднаго нядошлага студэнта запыталіся:

— А чаму Ваш сын для паступлення абраў менавіта біялагічны факультэт?

У адказ пачулі катэгарычнае:

— Па прызванні. Мой жа Лёшка дужа любіць рыбу лавіць.

### Усё, што ёсць

Дзве суседкі балáкаюць пра сваё здароўе:

— Ты ведаеш, Волечка, у мяне ж усё, што ёсць, усё баліць — ногі, рукі, спіна...

— І галава?

— Не, галава, дзякуй Богу, не баліць...

### Вяселле

— Здароў, браценнік! Даруй, што на Вольчына вяселле не патрапіў. Ну, як згулялі?

— Здароў, Міколка. Добра справілі, перад людзьмі не гадко. Пітва-ежы ўдосталь было, шчэ й жывіне асталося, ансамбаль з раёну граў, — павесяліліся слаўна. Я толькі адных зубоў дзве жмені каля ганка назбіраў.

— О-о, сапраўды харошае вяселле.

— Ну, дык...

### Мухі

Хаця бабулі Праскоўі і 95 гадоў, але жанчына яшчэ пры сваім розуме. Усе сонечныя дні ад ранку і да вячэрняга сутоння яна бавіць на завалінe ў двары. Неяк яе ўнучка — сама ўжо бабуля — глянула на абшалпаную хатнюю сцяну і запыталася:

— Чаму гэта твая сцяна такая падрапаная, толькі ж нядаўна падхварбілі?

— Ай, дзетачка, гэта ж я драчыкам мух б'ю. Сяджу і б'ю, сяджу і б'ю.

— На дварэ?!

— Ды ўсё ж у хату меней заляціць. І ў мяне рукі не гуляюць.

Чым бы дзіця ні цешылася...



# Маміна замова



Сяргей ПАНІЗЬНІК

### Бутэрбродаўская вежа

*На абед мой брат — хадок.*
*За талеркай ён — ядок.*

*А ў мяне зусім не ежа —*
*Бутэрбродаўская вежа.*

*Гляньце: у руках бігмаг —*
*Як мак-до-наль-даў-скі гмах!*

*Ну а гамбургер, хатдог*
*Намалюем вам удвох.*

*Абмакнуў у кетчуп палец:*
*— Я малюю хлеб-закалец!*

*Кажа мой сябрук-хітрун:*
*— Я малюю той лапун,*

*Што пякла бабуля ў печы.*
*Побач — сырадою глечык.*

*Не ўмяшчаецца ў мой рот*
*Мак-до-наль-даў-скі бутэрброд.*

### Маміна замова

*Светлым кветкам, добрым дзеткам,*
*Шчабятушачкам-падлеткам*
*На задавальненне*
*Дам з прыдзвінскага палетка*
*Роднай мамачкі маленне.*
*Каб уквецiць нашу мову,*
*Я збяро́г яе замову:*

*— Маладзік малады,*
*Твой ражок залаты.*
*Дай жа Божа адхлання*
*На тваё пастаянне,*
*А мне — на дарогу.*
*Табе — злоту карону,*
*А мне шчасця й здароўя.*

### Стрыжы на крыжы

*— Ляці, не дрыжы! —*
*Шчабяталі стрыжы, —*
*Паветра стрыжы,*
*Зямлю калышы, —*

*І будуць глыжы —*
*Дзятва камянёў,*
*Расці, што й крыжы**
*Паміж княжых агнёў*
*Ля тураўскіх пнёў.*

*...А я не дрыжу,*
*Бо з небам дружу.*
*І Богу кажу:*
*— Я маю душу, —*
*Таму не хлушу.*

*А праўду трымаць, —*
*Гэта ўвысь узлятаць*
*І стражу Крыжа*
*З лёгкім сэрцам вітаць.*

*Каля Турава на намоленых мясцінах і сёння вырастаюць з зямлі крыжы.

### Боцікі і чаравічкі

*Бліснулі з парога боцікі:*
*— Мы таксама патрыёцікі.*
*Родную зямлю не топча,*
*Асцярожна ходзіць хлопча:*

*Ён шкадуе кветку, пчолку*
*І абцасікам без толку*
*Не збівае з дрэва сук.*
*Беражэ зямлі красу!*

*Зыркі борцік боціка*
*У чысцюлі Косціка!*

*Не паспелі пахваліцца, —*
*Наляцела Навальніца:*
*— Вось у нашай Веранічкі*
*Самі ходзяць чаравічкі.*

*Зачынаецца патоп, —*
*Безпрыгляднья — топ-топ...*
*А сплывуць на край зямлі, —*
*Я вяртаю, дзе й былі.*

*Як падсохне, Вераніцы*
*Будзе ў чым збіраць суніцы.*

# Маляваныя дываны



Уладзімір СІЎЧЫКАЎ

### У дзядзькі Алеся

*— Між аблокаў і хмараў*
*Па-над крамаю «Золата»*
*Кампануе і марыць,*
*Хоць паставаю —*
*Волат ён.*
*«Як за печкай у Бога!» —*
*Жывапісца праведвалі:*
*Бы ў Вінцэнта Ван Гога,*
*Дзень анёла,*
*Мы ведалі.*
*Ледзь ступіць —*
*Не прабіцца*
*Між палотнаў і графікі,*
*А на кніжнай паліцы —*
*«Аўтаманаграфія»*
*І партрэт Радзівіла.*
*Яго ўнучку адзіную,*
*Што прыемна здзівіла,*
*Як мяне,*
*Зваць Хрысцінаю.*
*Творы новыя ўдала,*
*Гожа*
*Ў рамы прыбраныя.*
*Больш за ўсе ўпадабала*
*Дываны маляваныя.*
*Прыазёрных палеткаў*
*Чаравала вiдовішча.*
*Замкі,*
*Дзіўныя кветкі,*
*Бы ў Язэпа Драздовіча!*
*«Страцім-лебедзь»,*
*«Пагоня»,*
*Беларушчыны рыцары,*
*Нашы слава і гонар —*
*У найлепшых традыцыях.*

*Ён сказаў,*
*Што ў Заслаўе*
*На пленэр летуценнікаў*
*Будзе выехаць слаўна*
*Макаткі і насценнікі*
*Маляваць каля храма,*
*Па-над рэчкай Чарніцаю...*

*Калі возьмуць,*
*Стараннай*
*Буду я вучаніцаю!*

### Памочнік

*— Баба Гэля кніжкі дзецям*
*Выдае ў бібліятэцы,*
*Ўпісвае ў абанементы*
*Почыркам сваім адметным.*

*Прапаноўвае чытанкі,*
*Коміксы і маляванкі,*
*Вершы і апавяданні*
*Дый на кемлівасць заданні.*

*Хуткамоўкі і лічылкі,*
*Байкі,*
*жарты*
*і цвялілкі,*
*Лапатушкі і пацешкі —*
*Ўсё —*
*з лагоднаю усмешкай.*

*З ёй шчырую я ад ранку —*
*Раскладаю абаранкі,*
*Падсалоджваю гарбату.*
*Я ў бабулі — памагаты.*

*Засыпаю ў кіпень зёлкі.*
*Дбайна аздабляю ёлку —*
*На духмяныя галінкі*
*Скрозь падважваю сняжынкі.*

*Я ужо зусім дарослы!*
*Дык з начыннем самым розным*
*Ранец мне*
*святы Мікола*
*Прынясе —*
*налета ў школу!*

### Калядны ліст

*Святы Мікола,*
*Шлю Табе вітанні!*
*Падобны на Цябе быў мой дзядуля,*
*Чакаюць нецярпліва віншаванняў,*
*Дарункаў*
*Дзеці,*
*Іх матулі і татулі.*

*Усе,*
*Хто паслухмяны і старанны,*
*Хто волю меў на добрыя учынкі,*
*Хто да старэйшых ставіўся з пашанай —*
*На святы Ты не маеш*
*адпачынку.*

*Як вырасту,*
*Дык добрай чараўніцай*
*Зрабіцца, як і Ты,*
*Я буду рада,*
*Стаць весялосці, радасці крыніцай,*
*Прыносіць шчасце дзеткам*
*на Каляды.*

*Я ведаю,*
*Што часта просяць дзеці*
*Пакласці ім пад ёлку тэлефоны*
*Мабільныя, найноўшыя у свеце,*
*Кампутары,*
*Планшэты*
*І смартфоны.*

*Я маю ўсё —*
*Мне не нясі нічога!*
*Хай возьме падарунак мой дзяўчынка*
*Ў дзіцячым доме*
*І падзякуе Богу.*

*Зрабі, як я прашу.*
*Твая Хрысцінка.*

### Доктарка

*Завіхаюцца ля Златы*
*Генрых-дзед і баба Маша —*
*Захварэла й лялька Даша.*
*Злата у сваім халаце,*
*Кажа: «Зёлак тут багата —*
*Здымем дрыжыкі і кашаль.*
*Нас праступа не застрашыць,*
*Не хвалюйся дужа, тата,*
*З мамай прыязджай на свята!*
*Ачуняю разам з Дашай,*
*Расквітнее дача наша!»*
*Будзе поўнай шчасця хата!*

### А ці ўзаемна?

*— Я люблю бязмерна котку,*
*Неўгамонную варкотку.*
*Ў Тайгі беленькія лапкі,*
*Рыжая на носе крапка.*
*Вочкі зыркія,*
*бы знічкі,*
*Язычок,*
*як з запальнічкі.*
*Вусы ж у любімай кісы*
*Называюцца вібрысы.*
*Свежай ёй лію вадзічкі,*
*Корм сухі даю з палічкі*
*І паштэту не шкадую.*
*Калі драпне —*
*не крыўдую.*
*Абнаўляю ў туалеце*
*Напаўняльнік у кювеце.*
*Як з сяброўкай разважаю,*
*Ды,*
*бывае,*
*заўважаю —*
*Ў татаў кабінет скрабецца,*
*Поўсць вычэсваць не даецца,*
*Ні за што не йдзе купацца,*
*Любіць падрамаць,*
*схавацца.*
*Знаць бы —*
*ёй гуляць са мною*
*Лепш*
*ці быць ўвесь дзень адною?*
*І ці любіць мяне коця*
*Ў сне салодкім*
*і ў дрымоце?*

### Муза

*— Котка Тайга ў кабінеце,*
*Ўлёгшыся на падваконні,*
*Любіць больш за ўсё на свеце*
*За гардзінай спаць спакойна.*

*Як асенняя вяргіня,*
*Сонцу цешыцца дзівачка.*
*Мо яна кату Варгіну,*
*Што з-пад Лепеля, сваячка?*

*Мілагучна так варкоча*
*Зразумелай татку мовай,*
*Нібы зычыць плёну хоча*
*За сталом яму пісьмовым.*

*Можа, тое муркаценне*
*(Зрэдку вушы нашаторыць)*
*Татку дадае натхнення*
*Пры пляскатым маніторы.*

*Артыстычная натура,*
*Мусібыць, спрыяе татку*
*Клацаць па клавіятуры —*
*Друкаваць яго нататкі.*

*Вось і думаю я часам —*
*Ёсць патрэба ў тым саюзе.*
*Як сядзяць яны сам-насам,*
*Значыць,*
*котка*
*ў таткі —*
*Муза!*

### Руплівіца

*— Хоць сягоння і нядзеля,*
*Любыя бацькі,*
*З пасцелі*
*Час прыходзіць падымацца*
*І са снамі расставацца!*
*Клопату ў мяне нямала,*
*Ды без вас засумавала,*
*Хоць без справы не сядзела —*
*Свой пакой прыбраць паспела,*
*Чарапаху накарміла*
*І памыла Тайгу з мылам...*

*Вылецела мама з ложка:*
*— Як гэта — памыла кошку?!*

*І каб тая не прастыла,*
*У ручнік яе ўкруціла*
*І,*
*нібы цырульнік,*
*тата*
*Фенам Тайгу грэў заўзята.*

*Некалі бацькам ляжаць —*
*Трэба кошку ратаваць!*

# Сяройжа Пастушок на старонках «Заранкі»

**Пад псеўданімам Сяройжа Пастушок у канцы 1920-х–пачатку 1940-х гадоў у друку выступаў беларускі паэт Сяргей Крывец (1909–1945). Той самы Сяргей Крывец, які ў 1933 годзе з Мастоўшчыны пераехаў у Беласток, дзе і пражыў свае апошнія 12 гадоў.**






Язэп Палубятка ў беларускім беластоцкім тыднёвіку «Ніва» (12.02.2012) распавёў пра Сяргея Крыўца і пра яго беластоцкі творчы ўзлёт, а таксама апублікаваў нізку вершаў паэта, якія ён напісаў у Беластоку. Вершы гэтыя былі апублікаваны ў адзіным зборніку паэта «Дубок», які пабачыў свет у мінскім выдавецтве «Беларусь» у 1972 годзе. Зборнік рыхтаваў і напісаў прадмову да яго Рыгор Шырма пад рэдакцыяй Максіма Танка.

Праўда, Язэп Палубятка памыліўся, калі напісаў, што Сяргей Крывец у 1944 годзе, пасля вызвалення Беластока, быў мабілізаваны ў савецкае войска, а ў красавіку 1944 года, падчас штурму Гдыні, быў цяжка паранены і 29 красавіка 1944 года памёр. Паэт, сапраўды, быў паранены, але ў красавіку 1945 года. Каля Гдыні яму адарвала нагу нямецкім снарадам, а 28 красавіка 1945 года ён у шпіталі памёр. Яму тады было толькі 36 гадоў.

Сяргей Крывец нарадзіўся ў вёсцы Дубна Гродзенскага павета (цяпер Мастоўскі раён). У 1915 годзе маці з дзецьмі выгналі ў бежанства ў Саратаўскую вобласць Расіі. У бежанстве хлопчык вучыўся ў школе, маляваў, сам пачаў вывучаць мовы. На Бацькаўшчыну Крыўцы вярнуліся ў 1921 годзе. Вяртанне было цяжкім. Сяргей наймаўся і ў пастухі, і ў парабкі, і ў цесляры.

У 1925 годзе юнака выбіраюць сакратаром гуртка Таварыства беларускай школы. Ён пачаў праводзіць шырокую культурна-асветную работу на вёсцы, шмат чытаў, пазнаёміўся з Рыгорам Шырмам, Максімам Танкам, іншымі літаратарамі Заходняй Беларусі. Самастойна вывучыў і добра ведаў беларускую, рускую, польскую і нямецкую мовы. А калі брат у яго спытаўся неяк, навошта яму нямецкая мова, Сяргей адказаў, што хоча ў арыгінале прачытаць Гётэ і Шылера.

У 1927 годзе ў Вільні пачаў выдавацца ілюстраваны дзіцячы часопіс «Заранка». Рэдактарам-выдаўцом яго была Зоська Верас. У часопісе друкаваліся творы заходнебеларускіх пісьменнікаў, казкі, дасланыя чытачамі, вершы дзяцей, пераклады, малюнкі, розныя конкурсы і краязнаўча-пазнавальныя матэрыялы. Напісаў туды першы ліст у 1927 годзе і Сяргей Крывец, але падпісаўся псеўданімам Сяройжа Пастушок. Ён даслаў у рэдакцыю свой першы верш. У рубрыцы «Наша пошта» ў № 7 з'явілася паведамленне: «Верш змяшчаем. Пішы, што будзеш рабіць зімой». Верш «Што за шчасце, што за доля…» – гэта першы апублікаваны твор Сяргея Крыўца. Паэт у першым вершы марыў мець кавалак уласнай зямлі, карову, шмат збожжа, а таксама хацеў вучыцца ў беларускай школе…

Па першых вершах паэтка і выдавец «Заранкі» Зоська Верас заўважыла, што на Мастоўшчыне жыве вельмі таленавіты самародак. Яе хвалявала, каб ён не знік, каб атрымаў пэўную адукацыю і меў працу. У «Нашай пошце» Зоська Верас пыталася: «Напішы нам, ці маеш магчымасць хоць крыху вучыцца і ці ёсць дзе дастаць беларускія кніжкі для чытання? Прысылай нам сваіх вершаў болей. Ахвотна будзем іх пераглядаць і што добрае змяшчаць. Шчыра жадаем табе, каб ты меў магчымасць вучыцца і развівацца» (1928, № 4).

У №4 за 1928 год на старонках часопіса быў апублікаваны яшчэ адзін верш Сяройжы Пастушка пра моладзь (яго няма ў зборніку «Дубок»). Верш гучыць так:

*Моладзь, моладзь, ўся надзея*
*Маткі Беларусі!*
*Наша першая ідэя:*
*Смелымі быць мусім.*
*Мусім стаць нагамі цвёрда*
*На родную зямельку,*
*З болем трэ' бароцца горда*
*Змагчы труднасць вельку.*
*Мусім выставіці грудзі*
*Нявыгодзе смела,*
*Каб з нас потым выйшлі людзі,*
*Каб з нас выйшла дзела.*
*Будзем слабых бараніці,*
*Праўды дамагацца,*
*І ў згодзі брацкай жыці,*
*За волю змагацца.*
*Дружна возьмемся за дзела*
*З ранняю зарою,*
*І наперад пойдзем смела*
*Моцнаю сцяною.*
*Гэй, да працы, люд свабодны!*
*Браты і сястронкі,*
*Хай ляціць наш гімн народны*
*Ува ўсе старонкі.*
*Няхай зыкам сваім вольным*
*Ўскалыхне паветра,*
*Каб пачуў яго цвет польны,*
*Родны пушчы нетра.*

У 1929 годзе Сяройжа Пастушок па-ранейшаму шчыра сябруе з «Заранкай». А Зоська Верас у «Нашай пошце» ўсё пыталася: «…Ці ўжо вучышся ў сталяра? Пішы ў «Заранку»». І вясковы юнак пісаў. У першым нумары за 1929 год часопіс друкуе пераклад Сяройжы Пастушка з польскай мовы абразка «Удзячнасць дзікага» на беларускую мову. Сюжэт абразка вельмі надуманы, але ён цікава чытаецца. Некалі бедная індыянка адна жанчына ахвяравала залатую манетку. Прайшло шмат гадоў, і сын некалі беднай індыянкі стаў багатым чалавекам. Ён знайшоў тую жанчыну і прынёс ёй у знак падзякі за залатую манетку 25 тысяч франкаў. На добра – адказаў дабром…

У 1931 годзе вясковы паэт даслаў у «Заранку» свае загадкі і круцігалоўкі, некаторыя з іх былі апублікаваныя.

Але хутка «Заранка» спыніла сваё існаванне. А Сяройжа Пастушок (Сяргей Крывец) пераехаў з роднай вёскі Дубна ў Гародню, а потым у Беласток. А ў 1940 годзе паступіў у Беластоцкі педінстытут…

**Сяргей ЧЫГРЫН**

# Незламаныя дзеці Валадаркі

**Пэўна, у кожнай краіне ёсць свая турма-сімвал. У Амерыцы — Алькатрас, у Францыі — Бастылія, у Брытаніі — Таўэр. У Беларусі таксама ёсць такая — сталічны Пішчалаўскі замак, больш вядомы пад народнай назвай Валадарка.**

Сёлета Пішчалаўскі замак святкуе свой сур'ёзны юбілей — 190 гадоў з моманту ўвядзення ў эксплуатацыю.

Згодна з гарадской легендай, памешчык Пішчала пабудаваў замак для ўласных патрэбаў, аднакненавабуд быў забраны імперскімі ўладамі, якія арганізавалі там астрог. У рэальнасці ж усё было менш рамантычна: дваранін Рудольф Пішчала выступаў у ролі «падрадчыка», выйграўшы своеасаблівы тэндар на пабудову новай гарадской турмы.

Замак быў пабудаваны ў 1824 годзе на гарадскім ускрайку і адчыніў дзверы для першых «пастаяльцаў» вясной 1825-га. Як і ў любой іншай краіне, у гарадскую турму траплялі не толькі злачынцы ці асобы з развітым крымінальным мысленнем, але і нязгодныя з палітыкай існага рэжыму. Для некаторых астрог быў апошнім зямным прытулкам, для іншых — месцам, дзе гартаваўся дух, бо, як вядома, турма не толькі ламае, але і развівае волю да супраціву.

Першымі «палітычнымі» вязнямі турмы хутчэй за ўсё былі паўстанцы 1830–1831 гадоў, да якіх царскія ўлады паставіліся надзвычай ліберальна: кожнаму з інсургентаў далі па камеры, а таксама гарачы паёк. Іх паслядоўнікам, паўстанцам 1863–1864 гадоў, пашанцавала менш, бо такога лагоднага стаўлення з боку расійскай імперскай адміністрацыі ўжо не было. Праз недахоп месцаў у камерах паўстанцаў трымалі ў двары, многія з іх цярпелі не толькі голад ды холад, але знявагі і катаванні.

Па абвінавачванні ў распаўсюдзе «шкодных» ідэй у гэтай турме сядзеў Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч разам з дачкой Каміляй. З прычыны адсутнасці доказаў яго пасля выпусцілі, але паліцыя «прыглядала» за драматургам да канца яго жыцця.

У «нашаніўскі» перыяд адзін за адным у турму траплялі будучыя светачы нацыянальнай культуры. Так, вядомы беларускі пісьменнік Карусь Каганец паспеў двойчы пабываць у астрогу — у 1905–1906 і 1910–1911 гадах. Аўтар зборніка вершаў «Матчын дар», беларускі паэт Алесь Гарун, быў арыштаваны за выступленні супраць царскага самадзяржаўя і прыгавораны да дзесяцігадовай высылкі ў Іркуцкую губерню, а пачынаў свой шлях у Сібір акурат з Пішчалаўскага замка.

Якуб Колас да таго, як стаць класікам беларускай літаратуры, актыўна займаўся палітыкай. Са школьнай лавы ведаем, што ён браў актыўны ўдзел у арганізацыі нелегальнага сходу настаўнікаў, за што быў арыштаваны і асуджаны на тры гады зняволення. Шкада, на школьных занятках рэдка кажуць пра тое, што малады настаўнік Канстанцін Міцкевіч мог пазбегнуць вязніцы, наўпрост уцёкшы з судовай залы, але не зрабіў гэтага, бо за кратамі заставаліся яго сябры і паплечнікі…

Знаходзіўся Якуб Колас у менскай турме ў 1908–1911 гадах. За час свайго зняволення ён напісаў шмат вершаў, частка з якіх была прысвечана турэмнаму жыццю і склала асобны раздзел «З турмы» у яго дэбютным зборніку «Песні жальбы», які пабачыў свет у 1910 годзе. Кажуць, менавіта ў Пішчалаўскім замку ён задумаў сваю «Новую зямлю».

Будучы «начальнік» Польскай дзяржавы Юзаф Пілсудскі, які ў маладыя гады актыўна цікавіўся сацыялістычнымі ідэямі, за ўдзел у змове з мэтай забойства Аляксандра III быў прыгавораны да пяці гадоў высылкі. Этапавання ў Сібір ён чакаў у Пішчалаўскім замку. Фелікс Дзяржынскі, іншы вядомы паляк беларускага паходжання і аматар сацыялізму, з якім Пілсудскі вучыўся ў гімназіі, згодна з легендай, быў адзіным чалавекам, якому ўдалося ўцячы з астрогу падчас аднаго з чатырох этапаў, якія праходзілі праз менскую турму.

У Пішчалаўскім замку давялося пабываць яшчэ аднаму вядомаму сацыялісту, тэрарысту, перакананаму антысаветчыку і неблагому літаратару — Барысу Савінкаву, якога змясцілі ў турму пасля арышту ў Менску ў 1924 годзе. За краты ён трапіў пасля аперацыі «Сіндыкат-2», распрацаванай ГПУ для выкрыцця і знішчэння антысавецкага падполля на тэрыторыі СССР. Каб заманіць Савінкава на савецкую тэрыторыю, была створаная фіктыўная антысавецкая арганізацыя, якую ён павінен быў узначаліць. Яўкі, паролі, зброя — усё было па-сапраўднаму, таму ён і «павёўся».

У 1932 годзе пасля нелегальнага пераходу савецка-польскай мяжы ў Пішчалаўскім замку сядзеў паэт Максім Танк. Яго таксама спрабавалі справакаваць і выкрыць у ім шпіёна, падсадзіўшы ў камеру стукача. Неаднаразова той казаў Максіму Танку, што збіраецца перабрацца ў Заходнюю Беларусь, набыць там хату і працаваць на пана. Падбіваў на гэта, відаць, і Максіма Танка. Але замест словаў згоды, што за мяжой сапраўды лепш, правакатар быў збіты будучым паэтам. Пасля свайго вызвалення Максім Танк вернецца ў Заходнюю Беларусь і будзе арыштаваны і пасаджаны ў Лукіскую турму ўжо польскімі ўладамі.

На дадзены момант Пішчалаўскі замак, як і 190 гадоў таму, з'яўляецца пенітэнцыярнай установай. Увесь час у сеціве з'яўляецца інфармацыя пра тое, што яго хочуць перарабіць пад гасцінічна-музейны комплекс. Можа быць, у будучыні мы зможам пабачыць камеры, дзе знаходзіліся героі і пакутнікі, нашы незламаныя «дзеці» Валадаркі, для якіх знаходжанне ў турме адыграла надзвычай важную ролю ў жыцці…

**Канстанцін Касяк**

# Мемуары ўнучкі Хэмінгуэя

**Унучка вядомага амерыканскага пісьменніка Эрнэста Хэмінгуэя актрыса Марыэль Хэмінгуэй выдала ўласныя мемуары.**

У сваёй кнізе Марыэль гучна абвінавачіла вядомага рэжысёра Вудзі Алена ў сэксуальных дамаганнях. Актрыса распавяла, што ў 1979 годзе на здымках фільма «Манхэтэн» яна не раз адчувала на сабе «не здаровы» інтарэс з боку Алена. На шчасце, усё скончылася, так і не пачаўшыся.

Марыэль, аднак, нічога не памятае пра свайго дзядулю. Аўтар аповесці «Стары і мора» скончыў жыццё самагубствам за некалькі месяцаў да нараджэння ўнучкі. Аднак Марыэль правяла дзяцінства ў яго доме, чула ад родных і блізкіх распаведы пра яго характар, думкі і ўчынкі.

Марыэль часта перапаўняе гонар за тое, што яна належыць да сям'і легендарнага пісьменніка, аднак яна ніколі не выкарыстоўвала яго імя ў асабістых інтарэсах. У мемуарах таксама можна ўбачыць старыя сямейныя фотаздымкі і цікавыя дакументы.

Марыэль часта намінавалася на прэстыжныя кінаўзнагароды, але ў апошні час яна вырашыла прысвяціць сябе літаратурнай дзейнасці.

# «Падвойны падман» і Шэкспір

**Навукоўцы даказалі прыналежнасць п'есы «Падвойны падман, або бедалагі-палюбоўнікі» («Double Falsehood, or The Distrest Lovers»), якая раней лічылася фальшыўкай, пяру Шэкспіра.**

Да такой высновы прыйшлі навукоўцы з Асацыяцыі навуковай псіхалогіі, прааналізаваўшы тэксты драматурга. Вынікі былі апублікаваныя ў часопісе асацыяцыі «Psychological Science». Праграма, спецыяльна распрацаваная для аналізу літаратурных тэкстаў, прааналізавала творы ўсіх, хто мог быць датычны да стварэння «Падвойнага падмана»: 33 тэксты, напісаных Шэкспірам, 12 п'ес Льюіса Тэабальда, які знайшоў і выдаў п'есу праз сто гадоў пасля смерці Шэкспіра, а таксама тэксты Джона Флетчара, драматурга, які працаваў разам з Шэкспірам.

Праграма засведчыла, што аўтарам п'есы з'яўляецца Шэкспір. Такія высновы былі зробленыя на падставе аналізу выкарыстання пэўных часцінаў мовы, літараспалучэнняў, эмацыйна афарбаваных і рэдкіх слоў.

Навукоўцы адзначаюць, што цалкам давяраюць вынікам сваёй працы.

П'есу ўпершыню апублікавалі і паставілі ў 1727 годзе. Спачатку былі захопленыя рэцэнзіі, аднак неўзабаве яе абвясцілі фальшыўкай і выключылі з шэкспіраўскага канону. Тэатральны імпрэсарыа Тэабальд, які выявіў рукапіс, сцвярджаў, што гэты твор з'яўляецца кампіляцыяй трох аўтарскіх версій страчанай п'есы Шэкспіра «Кардэніо», але да яго тлумачэнняў тады ніхто не прыслухаўся. Паколькі рукапісы былі згубленыя, з тых часоў даследчыкі спрачаліся, хто насамрэч з'яўляецца аўтарам п'есы: Шэкспір, сам Тэабальд ці Флетчар.

Аўтарству Шэкспіра на дадзены момант прыпісваюць 38 п'ес, 154 санеты, чатыры паэмы і тры эпітафіі.

# Дом-музей Бродскага

**Першы ў свеце музей Іосіфа Бродскага адкрыўся ў вёсцы Нарынская Каношскага раёна Архангельскай вобласці.**

Будучы лаўрэат Нобелеўскай прэміі па літаратуры адбываў там высылку з сакавіка 1964 па кастрычнік 1965 года.

Музей Бродскага размясціўся ў адрэстаўраванай сціплай вясковай хаце Песцерава, у якой жыў паэт. У аснову экспазіцыі ўвайшлі рэчы, якімі карыстаўся І. Бродскі: крэсла, стол, канапа, газавая лямпа, бачок для праяўкі фотастужкі, знойдзенае пры аднаўленні хаты фанернае вечка ад пасылкі, адрасаванай Бродскаму яго бацькам з Ленінграда.



Агульны аб'ём сродкаў, выдаткаваных на музейны праект, склаў каля пяці мільёнаў расійскіх рублёў.

Іосіфа Бродскага выслалі на пяць гадоў у далёкую Архангельскую вобласць «за дармаедства». Там ён правёў паўтара гады, пісаў вершы, публікаваўся ў мясцовай газеце, працаваў на ферме, у калгасе. І. Бродскі назваў гэты час самым шчаслівым у сваім жыцці.

Дзякуючы садзейнічанню Ганны Ахматавай тэрмін высылкі быў скарочаны, і ў верасні 1965 года І. Бродскі вярнуўся ў Ленінград. Паэта прынялі ў Саюз пісьменнікаў, што дазволіла пазбегнуць новых абвінавачванняў у дармаедстве. У чэрвені 1972-га паэт быў вымушаны назаўжды пакінуць радзіму. Памёр Іосіф Бродскі ў студзені 1996 года ў Нью-Ёрку.



# Пластычная аперацыя «пад Шэкспіра»

**Больш за 200 тысячаў даляраў ЗША выдаткаваў на пластычныя аперацыі кітайскі пісьменнік Чжан Юй.**

Ён надзвычай шануе творчасць вялікага ангельскага драматурга Уільяма Шэкспіра і таму захацеў вонкава быць падобным на свайго літаратурнага куміра.

Каб стаць «копіяй» легендарнага драматурга, мужчына насмеліўся на 10 пластычных аперацый. На працягу некалькіх месяцаў кітайцу адкарэктавалі разрэз вачэй, змянілі форму носа і падбароддзя.

Чжан Юй кажа, што гатовы ўкласці яшчэ больш грошай у свой новы вобраз. Паводле яго словаў, у іх з Шэкспірам шмат агульнага. Як і легендарны драматург, Юй нарадзіўся ў бедной сям'і і змог «стаць на ногі» выключна дзякуючы сваім кнігам.

Чжан Юй з'яўляецца адным з самых вядомых маладых пісьменнікаў КНР.

## ПРЭМІІ

### Прэмія імя Астрыд Ліндгрэн

**У Стакгольме ўручана міжнародная літаратурная прэмія імя Астрыд Ліндгрэн за 2014 год.**




Старшыня журы Буэль Весцін уручыў узнагароду дабрачыннай арганізацыі «PRAESA» з Паўднёва-Афрыканскай Рэспублікі.

На прэмію, заснаваную трынаццаць гадоў таму ўрадам Швецыі пасля смерці знакамітай дзіцячай пісьменніцы, сёлета намінаваліся каля двухсот прэтэндэнтаў з 61 краіны. Па ўмовах конкурса, на ўзнагароду «The Astrid Lindgren Memorial Award (ALMA)» могуць прэтэндаваць не толькі літаратары, але і ілюстратары, мастакі, творчыя калектывы, якія ствараюць для дзяцей і працуюць з дзецьмі.

Цяперашні пераможца – «PRAESA» – займаецца альтэрнатыўнай адукацыяй і з дапамогай літаратурнай творчасці дапамагае маленькім не толькі вучыцца чытаць, але і ведаць сваю родную мову і культуру. Для гэтага валанцёры «PRAESA» стварылі дастаткова разгалінаваную сетку кніжных клубаў, выдаюць літаратуру на многіх дыялектах, якія існуюць у Паўднёвай Афрыцы.

Прэмія імя Астрыд Ліндгрэн з'яўляецца самай буйной узнагародай, якая ўручаецца ў галіне дзіцячай і падлеткавай літаратуры. Сума, якая выплочваецца пераможцу, складае 5 мільёнаў шведскіх крон (700 тысяч даляраў ЗША).

### Прэмія «ЛитоДрама»

***«ЛитоДрама» – узнагарода, якая ўручаецца пад эгідай Літаратурнага інстытута імя Максіма Горкага і Саюза расійскіх пісьменнікаў.***

Цырымонія ўзнагароджвання лаўрэатаў прэміі адбылася 8 красавіка. У намінацыі «Авангардная п'еса» быў уганараваны Ягор Чэрлак (Чалябінск) за п'есу-фантазію пра Юрыя Гагарына. Напярэдадні Дня касманаўтыкі такое рашэнне журы літаратурнай прэміі «ЛитоДрама» можна назваць лагічным. П'еса Я. Чэрлака напісана ў жанры фантастыка-іранічнай камедыі. Па сюжэце твора першы касманаўт Зямлі не загінуў у авіякатастрофе, а дажыў да нашых дзён, захаваўшы інкогніта.

У намінацыі «П'еса, звязаная з літаратурнай спадчынай» лаўрэатам прэміі «ЛитоДрама» стаў Аляксандр Ігнашоў (Самара) з п'есай «Да Божага парога».

Усяго ў конкурсе прынялі ўдзел больш за 365 аўтараў з розных краінаў свету, прадставіўшы на суд журы каля 800 твораў.

# Невядомы аповед пра Шэрлака Холмса

**У Вялікабрытаніі знойдзены рукапіс дагэтуль невядомага аповеду пра прыгоды Шэрлака Холмса. Магчыма, ён належыць пяру Артура Конан-Дойла.**

Рукапіс знайшоў на гарышчы 80-гадовы Ўолтар Эліёт. Ён сцвярджае, што аповед быў напісаны Конан-Дойлем у якасці акта дабрачыннасці. У 1902 годзе ў шатландскім мястэчку Селкірк быў знішчаны паводкай драўляны мост. Праз два гады мясцовыя жыхары арганізавалі троxдзённы збор сродкаў на новы мост. Часткай мерапрыемства стаў выпуск зборніка апавяданняў, у стварэнні якога паўдзельнічаў і знакаміты пісьменнік. Аднак згаданы аповед у зборніку не падпісаны, таму сапраўдные аўтарства твора пакуль застаецца пад пытаннем.

**Старонка падрыхтавана паводле матэрыялаў The Bookseller, The Local Se, The Guardian, Associated Press, vsiknygy.net і prostoknіga.com.ua, novostiliteratury.ru і Newsru.ua.**

Літаратурная Беларусь
Кіраўнік праекта «ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» Алесь ПАШКЕВІЧ. Рэдактар Барыс САЧАНКА.
Тэлефон для даведак: (8-017) 200-80-91. Адрас электроннай пошты: sbp@tut.by

TV

## 3 МАЯ, НЯДЗЕЛЯ

### 1 БЕЛАРУСЬ

**07.30** Лірычная камедыя «Закаханы і бяззбройны» (Расія).
**09.00** Навіны.
**09.10** «Арсенал». Праграма пра армію.
**09.40** Камедыя «Кухня» (Расія).
**10.45** «Пра ежу!». Кулінарны майстар-клас.
**11.20** XXL WOMAN TV. Жаночы часопіс.
**12.00** Навіны.
**12.10** Навіны. Цэнтральны рэгіён.
**12.35** «Зона Х». Вынікі тыдня.
**13.05** Таямніцы следства.
**13.40** Каробка перадач.
**14.15** Вакол планеты.
**15.00** Навіны.
**15.15** Твой горад.
**15.30** Вострасюжэтная ваенная драма «Снайпер. Зброя адплаты» (Беларусь - Расія). 3. і 4-я серыі.
**17.35** Меладрама «Знайдыш-3». 1-4 серыі.
**21.00** Галоўны эфір.
**21.55** Навіны надвор'я.
**22.20** Дыялогі аб цывілізацыі.
**22.55** Крымінальная меладрама «Начная фіялка» (Расія-Украіна).
**00.40** Камедыя «Кухня» (Расія).

### Н

**07.00** «Нядзельная раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** Нядзельная пропаведзь (з субтытрамі).
**09.20** Пакуль усе дома.
**10.05** Маст. фільм «Іван Броўкін на цаліне».
**11.50** «Брэйн-рынг».
**12.55** Горка!
**13.55** «Голас. Дзеці». Лепшае.
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** Як Іван Васільевіч змяняў прафесію.
**17.20** «Вялікая розніца ў Адэсе». Фестываль пародый.
**20.00** Контуры.
**21.05** Вызваленая Еўропа.
**22.00** Ідэальнае спатканне.
**23.00** Канцэрт Дзімы Білана.

### ТВ

**06.25** «Студэнты International». Серыял.
**07.10** «Сардэчна паскардзіцца».
**07.30** Тэлечасопіс «Аўтапанарама».
**07.55** «Шэрлак Холмс». Мастацкі фільм.
**10.10** «Чыстая праца».
**11.00** «Вялікі сняданак».
**11.40** «Салдаты».
**13.30** «24 гадзіны».
**13.40** «Next 2». Тэлесерыял.
**15.25** «Дарагая перадача».
**16.00** «Цэнтральны рэгіён».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Аўтапанарама».
**17.15** «Ваенная таямніца».
**19.30** «Тыдзень». Інфармацыйна-аналітычная праграма.
**20.25** «Апошні самурай». Мастацкі фільм.



**23.00** Зорны рынг.
**00.00** «Уладар пярсцёнкаў. Вяртанне караля». Мастацкі фільм.

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.10** Кінааповесць «Экіпаж машыны баявой» (СССР).
**08.25** «Турыст».
**09.10** Прыгодніцкі мультсерыял «Клуб Вінкс. Школа чараўніц» (Італія).
**10.35** Тэлебарометр.
**10.40** Fitnews. Праграма пра прыгажосць і здароўе.
**11.20** Ваша лато.
**11.50** Латарэя «Пяцёрачка».
**12.00** Хачу ў тэлевізар!
**12.05** Я хачу гэта ўбачыць!
**12.40** «Зразумець і абясшкодзіць».
**13.15** Камедыйная-прыгодніцкі серыял «Мама-дэтэктыў» (Расія).
**15.15** Рамантычная камедыя.
**17.20** Comedy Woman. Гумарыстычная шоу-праграма (Расія).
**18.30** Ікра.
**19.15** Суперлато.
**20.05** Кіпень.
**20.25** Тэлебарометр.
**21.00** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА. Відэачасопіс.
**21.35** Спортлато 5 з 36, КЕНО.
**21.45** Прыгодніцкі баявік «Гаспадар мораў: На краі Зямлі» (ЗША).
**00.10** Вышэй за дах.
**00.40** Футбол. Ліга Еўропы УЕФА. 1/4 фіналу. Агляд.

### 3 БЕЛАРУСЬ

**08.00** Калейдаскоп.
**08.10** «Бег». Гістарычная драма. 1-я і 2-я серыі (СССР, 1970 г.).
**11.15** Прэм'ера. «Грані Перамогі». Дакументальны серыял.
**11.45** «Подых струн». Музычная праграма. Госць: Зоя Гарына.
**12.25** «Наперад у мінулае».
**12.50** Хіт-парад. «Сто песень для Беларусі».
**13.45** Калейдаскоп.
**13.55** «Размаўляем па-беларуску».
**14.00** Прэм'ера. «Святло далёкай зоркі». Памяці кінарэжысёра Леаніда Нячаева.
**14.25** «Прыміце тэлеграму ў доўг». Дзіцячая камедыя (СССР, 1979 г.).
**15.45** «Музеі Беларусі». Гісторыка-культурны комплекс «Лінія Сталіна».
**16.10** «Раманс пра закаханых». Рамантычная драма. 1-я і 2-я серыі (СССР, 1974 г.).
**18.20** Калейдаскоп.
**18.30** Прэм'ера. «Грані Перамогі». Дакументальны серыял.
**19.00** «Кубанскія казакі». Музычная камедыя (СССР,1949 г.).
**20.45** Калыханка.
**21.05** Прэм'ера. «Грані Перамогі». Дакументальны серыял.
**21.35** «Майскія зоркі». Ваенная драма (Чэхаславакія - СССР, 1959 г.).
**23.00** «Песні ваенных гадоў». Канцэрт Дзяржаўнага акадэмічнага Вялікага сімфанічнага аркестра ім. П.І.Чайкоўскага і салістаў Марыінскага тэатра.
**00.35** «Культпрасвет».
**01.10** Калейдаскоп.

### 5 БЕЛАРУСЬ

**06.00** PRO спорт. Навіны.
**06.30** Сэлфі.
**06.45** Футбол. Чэмпіянат Беларусі. Шахцёр (Салігорск) - Дынама (Мінск).
**08.30** Футзала. Чэмпіянат свету. Матч за трэцяе месца.
**09.35** Футзала. Чэмпіянат свету. Фінал.
**10.40** Баскетбол. НБА. Плэй-оф. Бруклін - Атланта.
**00.35** Хакей. Еўрачэлендж. Беларусь - Нарвегія.
**14.30** Футбол. Ліга Еўропы УЕФА. Чвэрцьфінал. Агляд матчаў.
**15.25** Футбол. Чэмпіянат Англіі. Эвертан - Манчэстар Юнайтэд. Прамая трансляцыя.
**17.35** Сэлфі.
**17.55** Футбол. Чэмпіянат Англіі. Арсенал - Чэлсі. Прамая трансляцыя.
**19.55** Баскетбол. Адзіная ліга ВТБ. Лакаматыў-Кубань - Цмокі-Мінск.
**21.25** Тэніс. Турнір ВТА. Фінал.
**22.40** Баскетбол. НБА. Плэй-оф. Кліпэрз - Сан-Антоніа. Прамая трансляцыя.
**01.00** PRO спорт. Навіны.

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Студыя «Белсат».
**07.45** Казкі для дзетак.
**08.25** Зона «Свабоды».
**09.00** «Госці», дак. фільм.
**09.45** Над Нёмнам (тэлечасопіс).
**10.05** Два на два (тэледыскусія).
**10.35** Рэпартэр (публіцыстычная праграма).
**11.00** Казкі для дзетак.
**11.40** «Тры шалёныя нулі», тэлесерыял.
**12.10** Мова нанова: «Эканоміка».
**12.25** Чорным па белым (культурніцкая праграма): Урокі Украіны.
**12.50** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**13.30** «Mad Men. Утрапёныя IV», серыял.
**14.15** Відзьмо-невідзьмо (інфармацыйна-забаўляльны агляд).
**14.40** «Шахта № 8», дак. фільм.
**15.40** «Гафтаўніцы», трагікамедыя.
**17.05** «Падарожжа на Далёкі Усход: з Берліну ў Токіа», дак. серыял: ч. 7: «Праз В'етнам у Кітай».
**18.00** Форум (ток-шоу): Сям'я ці ячэйка?
**18.40** «Час гонару», тэлесерыял.
**19.25** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**19.50** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма): Канстытуцыя 3 траўня.
**20.05** Эксперт (сатырычная праграма).
**20.30** Дакументальная гадзіна: «Страчаныя жыцці», дак. фільм, 2010 г., Аўстрыя.
**21.25** Кінаклуб: «Анжэль і Тані».
**21.40** «Анжэль і Тані», маст. фільм, 2010 г., Францыя.
**23.10** Невядомая Беларусь: «Станіслаў Шушкевіч», дак. фільм.
**23.55** «Mad Men. Утрапёныя IV», серыял.
**00.45** «5 хвілін свабоды», дак. фільм.

# Шаноўныя чытачы!

**На жаль, газету «Новы час» немагчыма купіць у шапіках або крамах. Няма нас і ў дзяржаўнай сістэме распаўсюду Белпошты. Але можна падпісацца на «Новы час», і кожны тыдзень атрымліваць газету.**

Падпісацца можна на любую колькасць месяцаў, аформіўшы банкаўскі ці паштовы перавод і накіраваўшы копію плацёжнага дакументу на адрас рэдакцыі. (Глядзіце ўзоры квітанцый). **Нашы рэквізіты: рахунак 301274 1108019 у аддзяленні №53 9 ОАО «Белінвестбанка», код банка 153 10073 9. Адрас банка: 22 0004, Мінск, вул. Калектарная, 11. Адрас рэдакцыі: 22 0113, Мінск, вул. Мележа, 1, офіс 1234.**

**Акрамя таго падпісацца можна ў рэдакцыі і ў нашых рэгіянальных прадстаўнікоў:**
**Магілёў:** (8 029) 930 79 22, Міхась
**Мінск:** (8 029) 178 31 68, Вольга
**Слуцк:** (8 029) 364 42 60, Зінаіда
**Гомель** (8 029) 697 82 75, Аляксандр

БЕЛПОЧТА

ф. ПС 112

**ЭЛЕКТРОННЫЙ ДЕНЕЖНЫЙ ПЕРЕВОД**

ВЫРУЧКА ☐ НАЛОЖЕННЫЙ ПЛАТЕЖ ☐ № ______ (вход, по карте отправки)

(сумма цифрами) (сумма прописью)

ПОЛУЧАТЕЛЬ___ Г-та «Новы час», р/с 3012741108019 отд. №539 ОАО «Белинвестбанк», код 153100739, УНН 190790926

КУДА 220004, г. Минск, ул. Коллекторная, 11
почтовый код, адрес получателя, телефон)

ОТПРАВИТЕЛЬ ____________
почтовый код, адрес отправителя, телефон)

АДРЕС ____________

Доставка ☐ уведомление ☐ простое ☐ заказное ☐ электронное

(назначение платежа)

(письменное сообщение)

Отметки отделения почтовой связи места приема:
(почтовый код, оттиск контрольно-переводной печати, кол. шт.)
№ перевода по ф. 5 ____________
Время приема _______ ч. _____ мин.
Подпись

# Паважаныя чытачы!

Падпісны кошт аднаго нумара газеты 4500 руб., аднаго месяца — 18000 руб.

**ДЗЯКУЙ ВАМ ЗА ПАДТРЫМКУ!**
«Новы час» запрашае да супрацоўніцтва распаўсюджвальнікаў газеты ва ўсіх рэгіёнах Беларусі.
**Даведка па тэл: (8 029) 651-21-12.**

КВИТАНЦИЯ

ЧИУП «Час навінаў»
(получатель платежа)
отд. №539 ОАО «Белинвестбанк»
(наименование банка)

Счет получателя 3012741108019 Лицевой счет Код 739
УНП* 190790926

(фамилия, имя, отчество, адрес)

| Вид платежа | | | Дата | Сумма |
|---|---|---|---|---|
| Период подписки указывает абонент | | | | |
| | | | | |

Плательщик

Пеня ______
Всего ______

Кассир

# Шкілеты з шафы Хілары

Алег НОВІКАЎ

**Заява Хілары Клінтан пра намер балатавацца на пасаду прэзідэнта адразу дала старт пошукам шкілетаў у яе шафе. Прапануем падборку самых папулярных кампраматаў на фаварыта прэзідэнцкай кампаніі ЗША 2016 года.**



### Палітычная неразборлівасць

Цяперашні лідар дэмакратаў прыйшла ў палітыку ў 13 гадоў, калі ўпершыню пачала ўдзельнічаць у выбарчых кампаніях у якасці валанцёра. Спачатку маладая міс Родхам (яе дзявоцкае прозвішча) пад уплывам бацькі была прыхільніцай рэспубліканцаў. Прычым такім фанатычным, што нават удзельнічала ў 1964 годзе ў кампаніі Бары Галдуотэра — самага правага кандыдата ў гісторыі ад рэспубліканцаў на пасаду прэзідэнта. Зенітам яе кар'еры ў шэрагах рэспубліканцаў стала старшынства ў клубе маладых рэспубліканцаў у родным каледжы. Аднак, паступіўшы ў 1968 годзе ў Ельскі ўніверсітэт, Хілары нечакана радыкальна змяніла погляды і на выбарах 1972-га ўжо падтрымлівала Джорджа Макгаверна — найбольш левага кандыдата ад Дэмакратычнай партыі ў гісторыі.

### Махінацыі з нерухомасцю

Хілары Клінтан мае дачыненне да вельмі сумнеўных аперацый з нерухомасцю. У 1977 годзе Клінтаны інвеставалі грошы ў стварэнне сямейнага курорту Whitewater, які праз некалькі гадоў збанкрутаваў пры загадкавых абставінах. Пры гэтым адзін з супрацоўнікаў адміністрацыі курорту пакончыў жыццё самагубствам. У 1996 годзе пра тую падзею з-за публікацый у прэсе ўзгадалі, і давялося праводзіць дадатковае следства, у выніку якога Біл і Хілары, праўда, давялі сваю невінаватасць. Так ці інакш, з-за таго, што Клінтаны трапіла пад следства, яны сталі першай прэзідэнцкай парай у гісторыі ЗША, у якой агенты ФБР узялі на ўсялякі выпадак адбіткі пальцаў.

**Пакуль ні адзін з так званых кампраматаў не здолеў хоць неяк пахіснуць лідарства Хілары Клінтан у прэзідэнцкай кампаніі**

### Карупцыя

Падазраваць у карупцыі Клінтанаў пачалі ў 1993 годзе пасля таго, як яны правялі адзін год у Белым Доме. Высветлілася, што некаторыя функцыі па арганізацыі падарожжаў прэзідэнта (раней гэта была сфера адказнасці асобнага дэпартаменту) былі перададзеныя фірмам у Арканзасе, за якімі стаялі сябры Біла і Хілары. Прычым Хілары, быццам, і займалася перадачай дарагіх кантрактаў сваім знаёмым.

### Прагматызм замест маралі

Шматлікія амерыканскія біёграфы згодныя, што Хілары і Біл Клінтан ніколі не кахалі адзін аднаго. Іх саюз узнік выключна на агульных палітычных амбіцыях. Прынамсі, да сустрэчы з Білам Хілары сустракалася з актывістам рэспубліканскай партыі Дэвідам Рупертам. Як прызнавалася пасля Хілары, раман не меў перспектывы з-за таго, што ёй не падабалася адсутнасць у Дэвіда вялікіх амбіцый. Увогуле, называць сябе місіс Клінтан Хілары стала толькі ў 1980 годзе, пасля пачатку кампаніі на пасаду губернатара Арканзаса, у якой удзельнічаў яе муж. Пасля таго, як выбухнуў скандал наконт сувязяў яе мужа з Монікай Левінскі, Хілары адмовілася падаць на скасаванне шлюбу, што магло значыць яе сыход з вялікай палітыкі. У сувязі з гэтым кансерватары кажуць, што абранне асобы з такой біяграфіяй на пасаду прэзідэнта створыць для жанчын кепскую мадэль паводзін.

### Нетрадыцыйная сексуальная арыентацыя

Хілары даўно падазраюць у тым, што яна лесбіянка. Такія высновы робіцца сыходзячы з яе напорыстай манеры, адсутнасці цікавасці да сваёй знешнасці ў падлеткавым узросце, прынцыпу падбору яе персаналу, сярод якога шмат мускулістых жанчын. Некаторыя сацыёлагі лічаць, што Абама атрымаў больш галасоў, чым Хілары падчас праймерыз, паколькі выглядаў больш па-жаноцку. Тыя ж сацыёлагі сцвярджаюць, што Хілары Клінтан з-за сваёй сексуальнай прыроды ў палітыцы імітуе агрэсіўны стыль мужчыны, правакуючы працаўніка на адкрыты бой. На іх думку, у выпадку абрання Хілары на пасаду прэзідэнта, ЗША чакае шэраг войнаў. У сваю чаргу, крытыкі версіі пра сексуальную нетрадыцыйнасць Хілары Клінтан звяртаюць увагу на дастаткова мяккую знешнюю палітыку ЗША ў часы, калі Клінтан займала пасаду сакратара адміністрацыі Абамы. На іх думку, пераезд Хілары Клінтан у Белы дом працягне тэндэнцыю калапсу ЗША як сусветнага лідара.

### Халатнасць

Гэта самы свежы кампрамат на Хілары, які ўсплыў на старонках прэсы прыкладна паўгода таму. У халатнасці яе абвінавацілі пасля таго, як стала вядома, што палітык выкарыстоўвае асабістую электронную скрыню для перасылкі дакументаў стратэгічнай важнасці для краіны. Працаўнікі дэмакратаў ўпэўненыя, што практыка такога абмену лістамі магла дапамагчы ісламскім тэрарыстам арганізаваць які-небудзь замах. Праўда, ніякай канкрэтыкі яны не называюць.

### Хлусня

Не вялікі, аднак важны аргумент супраць кандыдатуры Хілары Клінтан звязаны з выпадкамі, калі яна хлусіла. Так, у 1995 годзе Хілары сустрэла славутага альпініста Эдмунда Хілары (першы, хто пакарыў Эверэст). У размове яна сказала, што яе бацькі назвалі дачку Хілары ў гонар суразмоўцы. Гэта была відавочная хлусня, паколькі Эдмунд Хілары ўзняўся на самую вялікую гару на планеце ў 1953 годзе, а Хілары нарадзілася ў 1947-м. Праўда, пазней у якасці апраўдання, яна распавяла, што гэта гісторыя — сямейны міф.

### Французскае паходжанне

Найбольш экзатычным кампраматам на Хілары ёсць версія пра яе французскія карані. Пасля таго, як Жак Шырак адмовіўся ўдзельнічаць у вайсковай кампаніі супраць Іраку ў 2002 годзе, для амерыканцаў характэрныя масавыя антыпатыі на адрас усяго французскага. Між тым архіварыусы мяркуюць, што продкі Хілары прыехалі ў ЗША з цяперашняга канадскага Квебеку (пра гэта сведчаць такія імёны ў яе генеалагічным дрэве, як Пікард, Бушэ і інш). Па сутнасці, калі добра пашукаць, Хілары сапраўды амерыканка французскага паходжання. Наколькі французская тэма з'яўляецца плямай для біяграфіі палітыка, цяжка сказаць. Пакуль ні гэты і ніякі іншы са загаданых кампраматаў не здолеў пахіснуць лідарства Хілары Клінтан у прэзідэнцкай кампаніі.

## ЯНЫ ПРА НАС. ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

Адмова беларускага прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі прысутнічаць на прысвечаным 70-годдзю Перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне парадзе ў Маскве звязаная з яго імкненнем заручыцца падтрымкай краін Захаду напярэдадні выбараў. Лукашэнка рыхтуе візіт у Рыгу на саміт «Усходняга партнёрства», і яму ў гэтых умовах было б вельмі нязручна апынуцца ў ліку нямногіх кіраўнікоў дзяржаў, якія будуць на Чырвонай плошчы 9 мая. Уся яго аргументацыя аб тым, што ён праводзіць уласны парад, з-за якога і не можа прыехаць, выглядае смешна, таму што на 60-годдзе Перамогі ён прыязджаў у Маскву, адсоўваючы на некалькі гадзін мерапрыемствы ў Мінску. Зараз гэта таксама можна было зрабіць.

**«REGNUM» (Расія)**

Лукашэнка часта любіць пагаварыць аб суверэнітэце і незалежнасці сваёй краіны, аднак для ўмацавання гэтага самага суверэнітэту асабіста ён зрабіў зусім няшмат. У прыватнасці, прэзідэнт так і не распачаў рухаў, накіраваных на дыверсіфікацыю эканомікі Беларусі, цесна звязаную з эканомікай Расійскай Федэрацыі, а ўсе зробленыя ім намаганні па пашырэнні эканамічных сувязяў з іншымі дзяржавамі, няхай гэта будзе Венесуэла або Кітай, заўсёды мелі малы эфект. Шматгадовая антынацыянальная палітыка стала яшчэ адной памылкай, дапушчанай Аляксандрам Лукашэнкам. У выніку гэтага беларуская мова ператварылася на тэрыторыі Беларусі ў пасынка, а сацыяльная гістарычная памяць беларускага народа звузілася да савецкага перыяду. Зрэшты, у цяперашні час складаецца такое ўражанне, што беларускі лідар пачынае ўсведамляць допушчаную раней памылку на фоне геапалітычнай сітуацыі. Пасля ўкраінскіх падзей у Беларусі робіцца спробы абмежаваць выкарыстанне на тэрыторыі краіны георгіеўскіх стужачак, а сам Лукашэнка пасля даволі доўгага перапынку зноў загаварыў па-беларуску.

**«Geopolitika» (Літва)**

Чатыры дывізіёны былых у эксплуатацыі зенітна-ракетных сістэм у мінулым годзе беларусам мы адправілі. Чым, відавочна, моцна пакрыўдзілі прэзідэнта Аляксандра Лукашэнку, які ніяк не можа дачакацца С–400. У ліпені 2014 года на выставе MILEX–2014 у Мінску ён заявіў журналістам: «Я папрасіў яшчэ гадоў сем таму, каб нам паставілі гэтыя комплексы». Аднак пра што забыўся згадаць Аляксандр Рыгоравіч у мінулым ліпені, дык гэта пра пазіцыю, якую заняло кіраўніцтва Беларусі (і займае па гэты дзень) у дачыненні да падзей на Украіне. Агучаныя ацэнкі былі рэзкімі і не вельмі дружалюбнымі, не кажучы ўжо слова «саюзніцкімі».

**«Politrussia» (Расія)**

Заява, што 9 траўня нязменны лідар не будзе прысутнічаць на парадзе Перамогі ў Маскве. «Як жа так? І ты, Брут?!» — абураюцца русафілы. «Малайчына, і да яго дайшло, што ад Крамля трэба трымацца далей», — радуюцца русафобы. «Хітры, зноў на двух крэслах усядзецца хоча», — каментуюць цэнтрысты. Быццам пры гэтым Лукашэнка не сказаў пра тое, што будзе ў Мінску адзначаць Дзень Перамогі. Быццам да гэтага не было інфармацыі аб тым, што ў гэтым парадзе прымуць удзел даволі вядомыя ва Украіне пскоўскія дэсантнікі. Пры поўным парадзе і са сваімі сцягамі. І ў Маскве Лукашэнка пабывае наўпрост напярэдадні правядзення святкавання 70-годдзя Перамогі. Гэта значыць, сістэму свайго светапогляду (а, адпаведна, дзяржаўную палітыку і ідэалагічную напампоўку насельніцтва) Лукашэнка мяняць і не думаў.

**«Новый Регион–2» (Украіна)**

Беларусь ужо даўно ператварылася ў свайго роду «one man show» Лукашэнкі. Адносіны з ёй у Расіі ўстойлівыя: кідаецца, часам, у вочы асабістая антыпатыя расійскага аўтакрата да свайго беларускага калегі, аднак на парадыгму адносін гэта амаль не ўплывае. Расія фінансуе беларускую стабільнасць прыкладна па той жа схеме, што і чачэнскую, даручочы Лукашэнку тое, што не даруе нікому. Пытанне толькі ў тым, як доўга праіснуе адна з дзвюх самых «саўковых» постсавецкіх дзяржаў? Калі там паўстануць прыкметы рэвалюцыйнай сітуацыі, Расія, вядома, умяшаецца. У агляднай перспектыве гэтым не пахне, а таму верагоднасць «сябroўскага» ўдзелу Расіі ў лёсе Беларусі нікчэмна малая.

**«AVA» (Малдова)**

Беларусы церпяць ад эканамічнага крызісу, які ахапіў іх краіну ўслед за Расіяй і на фоне вайны ва Украіне. Заробкі скарачаюцца, працоўных месцаў становіцца менш, але незадаволенасць палітыкай Аляксандра Лукашэнкі пры гэтым не расце. Адзіная вулічная акцыя, якая адбылася за апошні год, была прысвечана абвяшчэнню незалежнасці Беларусі ў 1918 годзе. Але ў ёй прыняло ўдзел няшмат людзей, хоць улада пагадзілася на яе правядзенне і не праводзіла традыцыйных прэвентыўных арыштаў.

**«Gazeta Wyborcza» (Польшча)**

24 красавіка 2015 | № 16 (433) Новы Час

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### Расія. Спорт супраць Майдану

Мікола Старыкаў, лідар расійскага руху «Антымайдан», сфармуляваў план недапушчэння каляровых рэвалюцый. Галоўную стаўку, на думку Старыкава, трэба зрабіць на спорт. Спартыўны напрамак — гэта ў першую чаргу секцыі пад эгідай «Антымайдана», дзе маладыя людзі змаглі б не толькі бясплатна займацца спортам, але і «атрымаць добры патрыятычны зарад, сфармавацца як асоба», лічыць Старыкаў. Ён упэўнены, што ў выніку гэта дазволіць сфармаваць для моладзі асноўны пасыл: «Антымайдан» — гэта цікава. Гэта модна. Гэта прывабна». Другі важны элемент канцэпцыі «Антымайдана» — прынцыповае дыстанцыяванне ад дзяржавы, якая, быццам, кампраметуе рух. Эксперты, аднак, сумняваюцца ў тым, што «Антымайдан» зможа існаваць без падтрымкі Крамля. Той жа спартовы кірунак патрабуе дыялогу са школамі і чыноўнікамі ад адукацыі. На думку большасці назіральнікаў, «Антымайдан» паўтарыць лёс руху «Нашы» (прапуцінскі рух, які апіраўся на дзяржструктуры). Штучная прырода «Нашых» прывяла ды таго, што падчас так званых «балотных пратэстаў» у 2011 годзе прыхільнікі Пуціна не маглі кантраляваць вуліцу.

**Паводле расійскай прэсы**

### Кітай. Абмежавалі доступ у Ганконг

Кітайскія ўлады абмежавалі жыхарам гораду Шэньчжэнь — самы блізкі да Ганконгу буйны горад — права наведаць былую брытанскую калонію. Цяпер грамадзяне КНР з Шэньчжэня могуць ездзіць у Ганконг толькі раз на тыдзень. Такім чынам Пекін хоча вырашыць шмат праблем, якія выклікаюць візіты кантынентальных кітайцаў у асаблівую адміністратыўную зону Ганконг. Па-першае, «турысты» займаюцца спекуляцыямі і несанкцыянаваным вулічным гандлем. Па-другое, з-за іх перапоўнены мясцовы транспарт. Увогуле, гэта далёка не першая мера супраць кантынентальных кітайцаў у Ганконгу. Раней цяжарным кітайкам забаранялі нараджаць у Ганконгу, куды яны масава ехалі, паколькі ўзровень медыцыны там вышэйшы, чым у іншых кітайскіх правінцыях. Цяжка сказаць, наколькі ліміт на наведванне Гангконгу дапаможа ўрэгуляваць міграцыю кітайцаў у багаты Ганконг. Усяго ў мінулым годзе горад наведала 60 мільёнаў кітайцаў.

**Паводле французскай прэсы**

### Таджыкістан. Зачыстка чужых імёнаў

Міністэрства юстыцыі Таджыкістана прапануе ўнесці змены ў закон «Аб дзяржаўнай рэгістрацыі актаў грамадзянскага стану» забарону на «імёны, якія чужыя нацыянальнай культуры і падобныя на назвы прадметаў, жывёл і птушак, а таксама імёны, якія прыніжаюць гонар і годнасць чалавека». Справа ў тым, што сярод людзей старэйшых пакаленняў у Таджыкістане нярэдка сустракаюцца такія імёны, як Хашок (корм) або Сангак (каменьчык). Традыцыя даваць такія незвычайныя імёны ўзнікла ад забабонаў пра тое, што непрывабнае імя дзіцяці зробіць яго менш прывабнымі для Бога, і ён не забярэ яго да сябе. Цяпер гэтая традыцыя прыцягнула ўвагу таджыкскіх уладаў. Ужо ёсць выпадкі, калі бацькам прапанавалі змяніць імя дзіцяці на больш блізкае нацыянальнай культуры. Нядаўняя ініцыятыва пакуль не была перададзеная ў парламент, але ўжо выклікала неадназначную рэакцыю ў грамадстве. Многія асудзілі яе як парушэнне грамадскіх свабодаў. Цікава, што ўлады ў кампаніі за правільныя імёны могуць разлічваць на падтрымку ісламістаў. Як вядома, іслам заахвочвае надаваць прыгожыя і належныя імёны і не ўхваляе імёны з дрэнным або непрыемным значэннем.

**Паводле таджыкскай прэсы**

### Харватыя. Перад пагрозай рэвалюцыі ветэранаў

Харвацкі ўрад, які фармуюць сацыял-дэмакраты, аказаўся ў крызісе пасля таго, як Асацыяцыя ветэранаў патрыятычнай вайны (1991–1995) патрабавала надаць ім новыя льготы, прычым замацаваўшы гэтыя правы ў Канстытуцыі. Напэўна, кожная ветэранская арганізацыя можа агучваць падобныя патрабаванні да чыноўнікаў, аднак з харвацкімі ветэранамі — справа асаблівая. Праблема ў тым, што сярод 4 мільёнаў харватаў у вайне за незалежнасць супраць Югаславіі ўдзельнічала больш за паўмільёна чалавек. Фактычна, гэта цэлая сацыяльная каста, пад кантролем якой у дадатак знаходзяцца сілавыя міністэрствы (падчас апошняй маніфестацыі ветэранаў паліцыя нават дазволіла дэманстрантам разбіць вокны ў будынку прэм'ера). Эксперты кажуць, што ветэранскі пратэст — гэта частка стратэгіі правых парый, каб абвясціць датэрміновыя выбары і прыйсці да ўлады. Не дарма ў выпадку перамогі Саюз харвацкай дэмакратыі (HDZ) гатовы прызначыць міністрам аднаго з лідараў ветэранаў.

**Паводле харвацкай прэсы**

# Жарсці па апошнім маскалі

Алег НОВІКАЎ

**Уся Украіна падзялілася на прыхільнікаў і крытыкаў камедыйнага серыяла «Останній москаль».**



Скандальныя сітком (рэжысёр Сямён Гораў) стартаваў 14 красавіка на канале «1+1» і, здавалася, заслугоўвае толькі пазітыўных водгукаў. Хаця б таму, што ва Украіне даўно кажуць пра неабходнасць стварэння аналагаў расійскага «мыла». «Апошні маскаль» давёў, што мясцовая масавая культура — цалкам рэальная рэч. Прэм'ерную серыю серыялу пра прыгоды маскоўскага мажора Валеры ў глухой карпацкай вёсцы паглядзелі 3 мільёны 268 тысяч гледачоў. Гэта складае 36,4% усіх украінскіх тэлегледачоў ва ўзросце 18–54 гадоў.

Не дзіўна, што ў серыяла імкліва сфармавалася свая армія фанатаў, а артыст Юрый Гарбуноў, што выканаў ролю хітрага гуцула, стаў ледзь не эталонам сапраўднага мужчыны. Прадукцыя «1+1» спадабалася таксама і гледачам у рускамоўных рэгіёнах, хаця серыял фактычна будуецца на анекдотах з цыклу «Прыязджае ў Карпаты маскаль. «Апошні маскаль» — добрая, бліскучая і каларытная камедыя пра чалавечыя адносіны. Аб'ектам сатыры ў праекце з'яўляюцца культурныя стэрэатыпы», — піша адно з выданняў Запарожжа.

Аднак паралельна фільм выклікаў і жорсткую крытыку. Самая незвычайная прэтэнзія заключаецца ў тым, што ўкраінцы на экране выглядаюць анекдатычна, а вось «маскаль» атрымаўся занадта пазітыўным персанажам. На інтэрнэт-форумах сустракаюцца каментары накшталт «людзі, якія знялі гэты недасерыял, ненавідзяць украінцаў».

«Інтуіцыя ў чарговы раз не падвяла: украінскія тэлеканалы здольныя паказваць серыялы пра ўкраінцаў выключна ў аспекце «шараварщчыны» — пацешнай і абмежаванай. Украінская мова належыць толькі тым, хто ў шараварах і не можа без самагонкі і сала. Не глядзіце — брыдасць. Беражыце свае нервы», — напісаў на сваёй старонцы ў Facebook намеснік старшыні ЦВК Андрэй Магера.

«Апошні маскаль» апынуўся, як па мне, вельмі няўдалай спробай стварыць... нават не ведаю, што... Гэта не камедыя, таму што не смешна... Я ўжо не кажу пра тое, што аўтары пайшлі рызыкоўным шляхам насмешкі з братоў-гуцулаў, не маючы ніякага ўяўлення пра іх традыцыі, звычкі, гісторыю і, урэшце, рэчаіснасць...» — так ацаніў фільм дарадчык главы Службы Бяспекі Украіны Маркіян Лубкоўскі.

**Прэм'ерную серыю серыялу пра прыгоды маскоўскага мажора ў глухой карпацкай вёсцы паглядзелі 3 мільёны 268 тысяч украінцаў, што складае 36,4% ад гледачоў ва ўзросце 18–54 гадоў**

Некаторыя гуцулы і этнографы, сапраўды, лічаць пабачанае ў серыяле пасквілем на гуцульскую культуру. Так, львоўскі пісьменнік Юры Віннічук адзначае: «Гэтыя дэбілы хоць раз у Карпатах былі? Хоць бы раз чулі, як гуцулы размаўляюць?»

Цікавая пазіцыя Юрыя Шэўчука, дырэктара ўкраінскага кінаклубу ў Нью-Ёрку. Ён крытыкуе твор Горава за тое, што ён зняты паводле расійскіх міфаў пра Украіну: «Серыял прапануе нам погляд на ўкраінцаў, які тыпова ўласцівы носьбітам рускага расісцкага менталітэту. Па-першае, у фільме ўкраінцы намаляваны як цёмныя мужыкі, таму ніводны разумны чалавек не пажадае быць украінцам. Па-другое, украінцы дэбільныя, але ў сваім дэбілізме цалкам бяскрыўдныя і для шмат каго нават трохі сімпатычныя. Па-трэцяе, украінцы размаўляюць на мове, на якой у рэальным жыцці размаўляюць толькі рускамоўныя. Чацвёрты фактар — гумар серыяла імперскі, бо ўсё ўкраінскае — смешнае па вызначэнні». Усё гэта, лічыць амерыканскі эксперт, у выніку нявечыць тысячы душаў маладых украінцаў.

Стваральнікі серыяла, у сваю чаргу, прынялі выклік крытыкаў, выступіўшы ў абарону свайго прадукту. Гэта выклікала цікавую культуралагічную баталію вакол ролі гумару ў цяперашняй Украіне, месца масавай культуры ў грамадстве, задачах кіно ў постмайданавай Украіне.

«Народ, які не можа пасмяяцца з сябе, — слабы народ. Луі дэ Фюнеса, які высмейваў французскіх жандараў, ненавідзелі ўсе жандары. Але гэта ж не значыць, што ён жадаў кагосьці пакрыўдзіць. Наш серыял — як анекдот, і хтосьці яго разумее, а хтосьці — не. Маркіян Лубкоўскі, напрыклад, не зразумеў гэты анекдот», — кажа актор Гарбуноў.

Стваральнікі карціны аспрэчваюць тэзіс пра тое, што яны хацелі пакрыўдзіць гуцульскую спадчыну. Больш за тое, па іх словах, фрагментарна сцэнар пісалі самі гуцулы, якія прысутнічалі на здымачнай пляцоўцы. «То самагонка не такога колеру, то акцёры на дыялекце не кажуць, то ў гарнітурах «штосьці не тое»... А вось калі б акцёры загаварылі як сапраўдныя гуцулы, тут жа ўдзячныя гледачы закрычалі б: «Што такое? Не разумеем!» — піша адзін кінакрытык.

На думку некаторых культуролагаў, такія фільмы, як «Апошні маскаль» — лепшая зброя супраць расійскай прапаганды, якая малюе ўкраінцаў як фашыстаў. «У серыяле ўкраінцы не дурныя, а мілыя і лагодныя. Ну ніяк на фашыстаў, пра якіх любіць гаварыць Кісялёў, не падобныя», — адзначае адзін з блогераў. Другі блогер піша, што гэты фільм зроблены для ўкраінскага грамадства, якое жыве парадыгмай вайны. Ён піша: «Сам факт выхаду такога шоў на ўкраінскім тэлебачанні — ужо подзвіг сам па сабе. Хоць бы таму, што сярод бясконцых блокаў навінаў, якія прапануюць крывавыя і трывожныя сюжэты, нам вельмі моцна бракавала чаго-небудзь тэрапеўтычнага, надзённага, але пры гэтым таго, што вылечвае».

У гэтай спрэчцы вакол серыялу паступова выдзеліўся трэці лагер. Гэта тыя, хто прымае крытыку наконт карціны, аднак даруе яе аўтарам усе правалы. На іх думку, увесь негатыў пераважвае тое, што зроблены першы крок у развіцці ўкраінскага маскульта. «Каму смешна, а каму — не: справа асабістага пачуцця гумару і густу. Але чым больш будуць здымаць украінскіх фільмаў, тым будзе больш якаснага кіно», — піша журналіст Юлія Яравая.

Памятаючы выраз «пра густы не спрачаюцца», будзе лагічна прапанаваць кожнаму самому зрабіць выснову наконт «Апошняга маскаля». Усе серыі ўкраінскага сіткома можна абсалютна бясплатна паглядзець на канале youtube.

# Прыгоды іспанскага інтэрфронту

Алег НОВІКАЎ

**Усе эксперты пагаджаюцца з тым, што іспанскія муніцыпальныя і аўтаномныя выбары 24 мая цалкам зменяць палітычны пейзаж у краіне. Прычым будзе перафарматаваная не толькі левая, аднак і правая сцэна. Пацясніць кансерватараў мае шансы маладая партыя «Грамадзяне».**




У кантэксце хуткіх выбараў у Іспаніі модна пісаць пра феномен левага руху «Podemos». Прычына інтарэсу — пазітыўная дынаміка (рух з нуля за пару гадоў вырас у рэйтынгах да 15–20 працэнтаў), незвычайная гісторыя стварэння («Podemos» паўстаў з ініцыятывы маладых выкладчыкаў) і арыгінальны механізм прыняцця рашэння — адкрытая электронная дэмакратыя. Між тым, паралельна «Podemos» набірае моц яшчэ адна структура, якая таксама паўстала знізу.

Гаворка пра партыю «Грамадзяне», якая нарадзілася ў Каталоніі ў 2006 годзе. Гісторыя «Грамадзян» падобная на гісторыю фармавання Інтэрнацыянальных франтоў у Прыбалтыцы, якія ўзніклі ў часы перабудовы як рэакцыя рускамоўных на нацыянальнае адраджэнне тытульнай нацыі. Аналагічна Прыбалтыцы, у Каталоніі ў 2005 годзе пасля прыняцця пакету моўных законаў актывізаваліся іспанскамоўныя жыхары: будучы індустрыяльна развітым краем, Каталонія доўгі час прыцягвала працоўных мігрантаў з усіх куткоў Пірэнеяў.

У 2005 годзе група іспанскамоўных інтэлектуалаў і журналістаў Каталоніі заклікала да стварэння платформы, якая будзе змагацца супраць «прымусовага нацыяналізму». Перш за ўсё яе ініцыятарам не падабалася абавязковае выкарыстанне каталонскай мовы ў афіцыйным справаводстве. Праіснаваўшы год у фармаце асацыяцыі, праціўнікі каталанізацыі вырашылі зрабіць наступны крок і заснавалі партыю, якую ахрысцілі «Грамадзяне — Грамадзянская партыя» (Ciudadanos — Partido de la Ciudadanía). Лідарам партыі быў абраны 26-гадовы юрыст Альберт Рывера, які застаецца старшынёй да сённяшняга дня. Праз год на выбарах у рэгіянальны парламент «Грамадзяне» атрымалі першыя дэпутацкія мандаты.

Заснавальнікі партыі прыдумалі практыку ўключаць у свой выбарчы спіс выключна людзей, якія ніколі не мелі дэпутацкага вопыту. Гэта і іншыя ноу-хау прыцягнулі да «Грамадзян» інтарэс за межамі Каталоніі.

За апошнія пяць гадоў у шэрагу буйных гарадоў і рэгіёнаў, дзе каталонскае пытанне з'яўляецца абсалютна неактуальным, з'явіліся дэпутаты ад «Грамадзян». У мінулым годзе партыя прарвалася ў еўрапарламент, атрымаўшы каля трох працэнтаў галасоў. На лютаўскіх выбарах у Андалузіі партыю Альберта Рыверы падтрымалі каля 9 працэнтаў (4-я па колькасці пададзеных галасоў партыя па выніках галасавання).

> **24 мая пасля выбараў стане вядома, чым закончацца прыгоды іспанскага Інтэфронту**

Адначасова на першае месца ў раскрутцы іміджу «Грамадзян» выйшла тэма грамадскага кантролю над уладай і яе кадравае абнаўленне. На месцах «Грамадзяне» таксама часта рэкламуюць сябе як партыя, якая найбольш эфектыўна шукае адказы на рэальныя праблемы грамадства.

Другім парадоксам «Грамадзян» стала змена каардынат партыі ў палітычным спектры. «Грамадзяне» нараджаліся як партыя левацэнтрысцкага кшталту. На ўстаноўчым з'ездзе было абвешчана, што галоўнымі каштоўнасцямі для партыі ёсць ліберальны прагрэс і дэмакратычны сацыялізм. Увогуле, галоўныя задачы партыі: роўнасць рэгіёнаў (гэта прадугледжвае ліквідацыю аўтаномій), роўнасць правоў грамадзян без уліку іх мовы, гендэрнай, рэлігійнай і этнічнай прыналежнасці, сацыяльна-эканамічнага статусу. «Грамадзяне» намагаюцца таксама трымаць дыстанцыю ад іспанскіх дзяржаўнікаў, асуджаючы ідэю унітарнай Іспаніі.

Аднак з-за запыту на новыя палітычныя сілы і крызісу кансерватыўнай Народнай партыі да «Грамадзян» пацягнуліся правыя выбаршчыкі. Найбольш выразна гэты працэс адбываецца ў камуне Валенсія, дзе кандыдат ад «Грамадзян», паводле апошніх сацыялагічных апытанняў, выйшаў на першае месца па папулярнасці на фоне падзення рэйтынга «Народнай партыі» (PP). Поспех «Грамадзян» на майскіх выбарах можа ператварыць іх у самую перспектыўную правую сілу ў Іспаніі. Тым больш, што перыядычна з'яўляюцца чуткі наконт магчымага блоку «Грамадзян» з вядучай ліберальнай партыяй — «Саюз за прагрэс і дэмакратыю». Праўда, пакуль спробы дыялогу не мелі поспеху.

З іншага боку, дрэйф «Грамадзян» у правым накірунку стварыў новыя рызыкі для арганізацыі. Ідэйная размытасць «Грамадзян» прымушае іх спікераў увесь час лавіраваць, каб, як гаворыцца, быць і вашым, і нашым. Напрыклад лідар партыі ўмудрыўся спачатку падтрымаць аднаполыя шлюбы, а пасля заявіць, што «гомасексуалізм — чужая тэма для іспанскага соцыуму». Таксама няма канкрэтнай пазіцыі па пытанні карыды. Пасля таго, як кіраўніцтва «Грамадзян» падтрымала забарону карыды, прызнаўшы яе крывавым і антыэкалагічным спортам, партактыў на месцах выступіў супраць такога рашэння, паколькі, на іх думку, такая забарона супярэчыць праву грамадзян на вольны выбар.

Яшчэ адным слабым месцам «Грамадзян» застаецца інерцыйнае факусаванне на каталонскай праблематыцы. Адпаведна праграме, дасюль галоўная задача «Грамадзян» — «супрацьстаянне ўдушэнню, якое прадстаўляе для каталонскага грамадства навязванне яму нацыянальнай ідэнтыфікацыі».

Чым закончацца прыгоды іспанскага Інтэфронту, стане лепш зразумела пасля выбараў 24 мая. З улікам турбулентнай прыроды цяперашняй іспанскай палітыкі, чакаць можна чаго заўгодна. На думку палітолагаў, нават не перамога, а добры вынік «Грамадзян» на выбарах здольны падарваць пазіцыі кансерватараў-дзяржаўнікаў на правым флангу і надаць новы імпульс дыскусіі пра федэралізацыю Іспаніі.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Нікола Старджэн



Кіраўнік Шатландскай нацыянальнай партыі (SNP), на думку большасці аналітыкаў, выйшла абсалютным пераможцам у дэбатах паміж партыйнымі лідарамі, арганізаваных у рамках перадвыбарнай парламенцкай кампаніі. Нагадаем, выбары адбудуцца 7 мая. Лепшай ілюстрацыяй яе прарыву стаў рост папулярнасці SNP, якая цяпер мае шансы выйграць выбары на ўсіх выбарчых участках у Шатландыі. У прынцыпе, незалежнікі і раней мелі добрыя перспектывы, аднак перамога на тэледуэлі абсалютна змяніла месца Ніколы ў брытанскай палітыцы. Раней лічылася, што нацыяналісты пасля выбараў падтрымаюць лейбарыстаў у абмен на пашырэнне фіскальнай аўтаноміі Шатландыі, аднак самі ўваходзіць у кабінет не стануць, а будуць ціха сядзець у парламенце. Цяпер усе кажуць, што Старджэн не абмяжуецца роляй статыста. Як піша брытанская прэса, на нашых вачах нарадзілася другая Маргарэт Тэтчэр — палітык з валявой натурай, які будзе ўпарта ісці да сваёй мэты — незалежнасці Шатландыі. Палітолагі таксама кажуць, што кіраўніцтва SNP у самым хуткім часе перагледзець свае папярэднія абяцанне — не праводзіць у бліжэйшы час новага рэферэндуму наконт шатландскай незалежнасці.

### Іслам Карымаў



Інаўгурацыйная прамова абранага ў чацвёрты раз прэзідэнта выклікала шмат плётак наконт яго псіхічнага здароўя. Справа ў тым, што апублікаваная афіцыйная версія выступу 77-гадовага палітыка прыкладна ў два разы карацейшая, чым тая, якую ён прачытаў аўдыторыі. Палову прамовы складалі імправізацыі Карымава, якія не могуць не выклікаць як мінімум шэрагу пытанняў. Падчас выступу узбекскі гарант выдаў масу вельмі важных выразаў накшталт «замежныя інвестыцыі — гэта добра», «будучае пакаленне выбірае будучыню» і г.д. Апагеем выступу стаў пасаж пра тое, што прыйшоў час «заснаваць ва Узбекістане дэмакратыю». Карымаўская рыторыка, на думку экспертаў, ясна сведчыць, што рацыянальна Карымаву думаць усё цяжэй, і ён хутка пакіне пасаду прэзідэнта.

### Мусі Маймане



34-гадовы чарнаскуры харызматычны дэпутат парламенту Паўднёвай Афрыканскай Рэспублікі (ПАР) сказаў, што будзе балатавацца на пасаду старшыні сваёй партыі «Дэмакратычны альянс» (вядучая апазіцыйная сіла ў краіне). Пра свае амбіцыі палітык заявіў пасля таго, як 66-гадовая Хелен Зіле (Helen Zille), лідар «Дэмакратычнага альянсу», заявіла аб тым, што сыходзіць з пасады лідара. Сенсацыя заключаецца ў тым, што «Дэмакратычны альянс» — гэта партыя, што прадстаўляе перш за ўсё інтарэсы белай меншасці. Па словах Мусі, чарнаскуры лідар «Дэмакратычнага альянсу» зможа лепш абараняць правы белых. Палітолагі, аднак, асцярожна ацэньваюць шансы кандыдата, з улікам яго ўзросту. З іншага боку, усе прызнаюць, што Мусі Маймане стаў вельмі папулярнай у краіне фігурай, дзякуючы нядаўняму скандалу, калі падчас нейкай парламенцкай сесіі ён адкрыта назваў прэзідэнта Якуба Зуму «злодзеем». Выбары новага старшыні «Дэмакратычнага альянсу» пройдуць 9 мая.

# На чатырох колах па Заходняй Беларусі

Ігар МЕЛЬНІКАЎ

**На тэрыторыі Заходняй Беларусі савецкія ўлады рэквізавалі дзясяткі аўтамабіляў розных марак. Сярод трафеяў новых уладаў быў і «Шэўрале Майстар дэ Люкс» 1937 года, які кіраўнік БССР Панцеляймон Панамарэнка пазней падарыў Янку Купалу.**

## Аўтамабілізацыя ўсёй краіны

Ужо ў 1922 годзе на тэрыторыі Другой Рэчы Паспалітай з'явіліся першыя прадстаўніцтвы замежных фірм, якія займаліся вытворчасцю аўтамабіляў. Гутарка ідзе пра «Ролс-Ройс», «Бугаці», «Дэлаж», «Мерседэс», «Аўстра-Даймлер».

Годам раней у Польшчы была створана арганізацыя «Аўтамабільны клуб Польшчы». Яе прадстаўніцтвы былі і на тэрыторыі Заходняй Беларусі. Так, у Палескім ваяводстве офісы аўтаклубу знаходзіліся ў Брэсце на Бугу («Палескі аўтамабільны клуб») на вуліцы Сінкевіча, дом 3, а таксама ў Лунінцы, Пінску, Пружанах і Століне. У Беластоцкім ваяводстве аўтамабілісты збіраліся ў Гродна, Ваўкавыску, Аўгустове і Граеве. На Навагрудчыне прадстаўніцтва клубу размяшчалася ў Віленскім чыгуначным вакзале Навагрудка, а таксама ў Баранавічах, Лідзе, Нясвіжы, Слоніме, Шчучыне. Нарэшце, у Віленскім ваяводстве аматары персанальных аўто збіраліся ў Віленскім аўтаклубе на Буфаловай гары, дом 19, у Глыбокім, Маладзечна, Паставах і Свянцянах.

У 1923 годзе на тэрыторыі Другой Рэчы Паспалітай было зарэгістравана 203 «Бэнса», 102 «Кадзілакі», 221 «Додж», 381 «Фіят», 132 «Лорэна», 116 «Мерседэсаў», 189 «Опеляў», 80 «Рэно» і іншыя машыны.

Паступова адкрываліся зборачныя цэхі вядомых аўтамарак (напрыклад «Форда», «Шэўрале», «Бьюіка» і іншых). Аднак ужо ў сярэдзіне 1920-х гадоў у Польшчы пачалі разумець, што краіне неабходна стварыць уласны аўтапрам. Больш таго, тады ў Еўропе набірала папулярнасць ідэя стварэння народнага аўто.

З'явіліся праекты «Палонія», «Ірадам», якія, аднак, не атрымалі распаўсюду. У 1928 годзе з'явіўся аўтамабіль «Ральф Стэтыш», аўтарам якога быў інжынер, граф Стэфан Тышкевіч. Першы ўзор машыны быў выстаўлены на аўтамабільным салоне ў Парыжы. Усяго было выпушчана каля 200 экземпляраў машыны, аднак пасля пажару на заводзе вытворчасць «Ральфа» была спынена. У 1929 годзе Сусветны эканамічны крызіс аказаў негатыўны ўплыў на развіццё, аднак ужо праз некалькі гадоў сітуацыя палепшылася.

## Народны аўтамабіль

Першай найбольш папулярнай польскай маркай стаў «Фіят 508 І». 21 верасня 1931 года прадпрыемства «Дзяржаўныя інжынерныя прадпрыемствы Польшчы» заключыла дамову з італьянскай фабрыкай «Фіят» у Турыне на права прадукавання машын гэтай фірмы ў Польшчы. Варта адзначыць, што палякі праводзілі перамовы з рознымі фірмамі, напрыклад з «Сітраенам» і «Шкодай», але дамовіцца ўдалося з менавіта з італьянцамі. Мантаж «Фіятаў» з дэталяў, прывезеных з Італіі, пачаўся ў 1932 годзе. Пазней распачаўся выпуск мадэляў 514, 522 і 524.

Ужо ў лістападзе 1933 года першыя польскія «Фіяты» трапілі ў продаж. Кошт машыны быў вельмі высокі — 7200 злотых. У 1934 годзе гэтая машына прайшла мадэрнізацыю: дадалася чатырохступенчатая скрыня перадач, а таксама больш моцны рухавік. Хутка пачалася праца над «Фіятам 508 III Юнак», які ў значнай ступені быў зроблены з польскіх частак. Сярэдні кошт машыны складаў 5,5 тысячы злотых (курс долара да злотага ў 1930-х гадах складаў 1 да 4. — І.М.).

У 1935–1939 гадах было выраблена 3,5 тысячы «Фіятаў». У 1937 годзе пачалася вытворчасць мадэлі 518, за аснову для якой была ўзятая італьянская машына «Artida 2000» (да пачатку Другой сусветнай вайны было выраблена каля 900 адзінак гэтага аўто). На машыну звярнула ўвагу камандаванне Войска Польскага. Было прынята рашэнне на базе «Фіята» пачаць прадукаванне вайсковага «Лазіка» (Фіят 508 III W). Аўтарам праекта быў інжынер Мечыслаў Свярчэўскі. Машына выкарыстоўвалася як пазадарожнік. Акрамя гэтага, у аўто прадугледжваўся мантаж лёгкага ўзбраення (ручных кулямётаў і вінтовак).

У Заходняй Беларусі машыны знакамітых брэндаў, у тым ліку вельмі дарагіх «Ролс-Ройсаў», знаходзіліся ў гаражы князёў Радзівілаў у Нясвіжскім замку. Частка легкавікоў выкарыстоўвалася ў якасці таксі ці паліцэйскіх машын. Амерыканскія машыны «Кадзілак» і «Шэўрале» былі ў распараджэнні аддзялення Банка Польскага ў Лідзе, Баранавічах і Гродна.

У 1931 годзе на тэрыторыі Другой Рэчы Паспалітай было зарэгістравана 17 152 легкавых аўто. На 1 студзеня 1939 года ў Беластоцкім ваяводстве было зарэгістравана 365 машын, у Навагрудскім — 189, у Палескім — 217, у Віленскім — 275. У міжваеннае дваццацігоддзе ў Другой Рэчы Паспалітай выдавалася каля 35 часопісаў, прысвечаных аўтамабілям.




Рэклама машыны «Шкода», 1930-я гады



Рэклама машыны «Шкода», 1930-я гады

**У 1931 годзе ў Другой Рэчы Паспалітай было зарэгістравана 17 152 легкавых аўто. У міжваеннае дваццацігоддзе выдавалася каля 35 аўтачасопісаў**

## Язда па правілах

Як вядома, і тады, і зараз аўтамабільны рух адбываецца паводле правілаў дарожнага руху. У лютым 1939 года ў Варшаве польскім Аўтамабільным клубам было выдадзена ПДР, у якім, як адзначаў выдавец, былі ўлічаны ўсе новаўвядзенні, звязаныя з дадзенай тэматыкай. Падрабязна былі апісаны абавязкі кіроўцы і ўласніка аўтамабіля, а ў асобнай частцы распісваліся асаблівасці атрымання права на кіраванне аўтамабілем. Правілы руху былі зацверджаны Міністэрствамі камунікацыі і Унутраных спраў 7 кастрычніка 1931 года. Пазней, у 1937 годзе, у гэты дакумент былі ўнесены праўкі.

Якія ж патрабаванні ўтрымліваліся ў польскіх ПДР узору 1939 года? Напрыклад, права на кіраванне машынай выдавалася з 16 гадоў і пасля праходжання адмысловага экзамену. Аўтамабілістам дазвалялася рухацца толькі па правым баку дарогі ў накірунку руху, аднак, пры адсутнасці сустрэчнага руху дапускаўся рух... па цэнтры дарогі. У правілах пазначалася, што картэж польскага прэзідэнта, міністра абароны Польшчы, машыны пажарных, паліцыі, медыцынскай дапамогі, вайсковай жандармерыі мелі прыярытэт перад іншымі ўдзельнікамі дарожнага руху. Цікавым з'яўлялася і тое, што для легкавікоў, грузавікоў і матацыклаў на трасе не абмяжоўвалася хуткасць руху. Аднак у гарадах яны маглі рухацца з хуткасцю не больш за 40 кіламетраў у гадзіну. Перад выездам за мяжу грамадзянін Польшчы павінен быў вырабіць міжнародныя правы на кіраванне аўтамабілем, якія выдавалі ваяводскія ўлады ці кіраўніцтва Клуба аўтааматараў, а таксама прычапіць да ўласнага аўта знак з надпісам «PL».

## Дарогі

На тэрыторыі Заходняй Беларусі да верасня 1939 года добрых дарог, мякка кажучы, не хапала. На Палессі, па сутнасці, адной з галоўных магістраляў была траса, якая звязвала Брэст з савецка-польскай мяжой. Лепей сітуацыя была на Віленшчыне, Навагрудчыне і Беласточчыне. Але і там дарогі еўрапейскага ўзроўню праходзілі ў асноўным ля ваяводскіх цэнтраў.

Прапаную звярнуцца да ўспамінаў прафесара Людаміра Савіцкага, які ў 1927 годзе аб'ехаў на машыне значную частку Заходняй Беларусі і Украіны. Адсутнасць нармальных дарог на гэтых тэрыторыях польскі даследчык небеспадстаўна тлумачыў палітыкай улад Расійскай імперыі, якія з вайсковага пункту гледжання імкнуліся не развіваць дарожную інфраструктуру сваіх заходніх рэгіёнаў.

«У палескіх вёсках, якія тонуць у мятровай багне, нам з вялікай цяжкасцю ўдавалася кіраваць нашым аўто. Некаторыя дарогі былі настолькі вузкія, што колы нашай машыны праходзілі па яе краях, што магло б прывесці да таго, што машына ўедзе ў кювет», — пісаў польскі даследчык. Прафесар з калегамі ехалі з Уладавы праз Кобрын, Пінск, Канал Агінскага, Ружаны, Слонім (дзе, па меркаванні даследчыка, былі выдатныя дарогі), Навагрудак. Далей навуковец даехаў да мяжы з Савецкім Саюзам ля Ракава і накіраваўся звычайнымі вясковымі дарогамі ў Маладзечна, Вілейку, Нарач і далей, у бок мяжы з Латвіяй. Пасля таго, як удзельнікі экспедыцыі ўбачылі Браслаўскія азёры (дзе, як паказвае мапа 1939 года, сучасных дарог амаль не было. — І.М.), яны накіраваліся ў Вільню. Наступным пунктам былі Стоўбцы і савецка-польская мяжа. У Няхневічах навуковец наведаў польскіх вайсковых асаднікаў. Відавочна, Людамір Савіцкі імкнуўся ўбачыць «рыжскую мяжу» і задакументаваць яе адметнасці. Аднак рух у памежнай зоне быў абмежаваны. І рэжымам і... рэкамі. «Мастоў праз Прыпяць, за выключэннем чыгуначнага ля Лунінца, няма. Дарогі да паромаў пралягаюць праз багну, а Пінская рачная флатылія не спраўляецца з арганізацыяй руху праз рэкі. Таму нам нічога не заставалася, як даехаць праз Чучэвічы да Лунінца і там пагрузіць аўтамабіль на чыгуначную платформу. Так мы апынуліся на другім беразе Прыпяці», — пазначаў ва ўспамінах даследчык.

У верасні 1939 года Заходняя Беларусь стала савецкай. Адсутнасць добрых дарог адыграла кепскі жарт з бранятанкавымі часткамі Чырвонай Арміі, якія перайшлі «рыжскую мяжу» — яны загразалі ў багне. Бездарожжа Заходняй Беларусі спазнаюць і вермахт у пачатку Вялікай Айчыннай, і савецкая армія ў 1944 годзе.

# У пошуках страчанага свету: невядомая выява Пінскага касцёла езуітаў

Аляксей ХАДЫКА

**Гэта гісторыя пачалася ў 1998 годзе, калі я, корпаючыся ў картатэцы аддзела графікі Бібліятэкі Красінскіх (аддзел старадрукаў Нацыянальнай бібліятэкі ў Варшаве) складаў спіс выяваў «беларусістыкі».**



Ян Скатніцкі

Гравюры, паштоўкі, малюнкі беларускіх мясцін, храмаў, выявы гістарычных і не вельмі персаналій. І вось сярод іх — вобраз касцёла і калегіума езуітаў у Пінску, выкананы ў 1920–1930-я гады. Аўтарская нетыражная каляровая графіка, пэўна пастэль. Аўтар — Ян Скатніцкі. Замаўляю.

Праз 17 гадоў, выпадкова ўбачыўшы ў «Фэйсбуку» ў групе «Древо литвинское» фотаздымак таго самага касцёла, зруйнаванага бальшавікамі ў 1953 годзе (калегіум ацалеў, там зараз музей Палесся), выкладаю здымак таго самага аркуша. Далібог — аб'ект прыгожы і велічны, цудоўнае віленскае барока, як на фотаздымку, так і ў графіцы. Толькі ў графіцы прысутнічае яшчэ рамантычны свет і колер вечаровага захаду, раскінутыя ўнізе кампазіцыі сеткі, рыбны рынак… Рэакцыя з боку карэспандэнтаў групы ў інтэрнэце, пэўна людзей неабыякавых да гісторыі Пінска: а што гэта за карцінка? Мы такую не бачылі!

І праўда, думаю я. Гэта ж не паштоўка і не гравюра, яна існуе ў адзінкавым экземпляры і захоўваецца ў такім зборы, да якога даследчыкі выяўленчага мастацтва папросту звычайна не дабіраюцца. Пачынаю шукаць інфармацыю…

### Хто такі Ян Скатніцкі?

Класічныя манаграфіі па польскім мастацтве Тадэвуша Дабравольскага, як і шматтомнік Рамана Афтаназі пра шляхецкія рэзідэнцыі Рэчы Паспалітай адказу на гэта пытанне не даюць. Інтэрнэт аказваецца больш карысным: у польскай, і толькі ў польскай, вікіпедыі — невялікі артыкул, малы, як на доўгае жыццё пана Скатніцкага (1876–1968), ураджэнца Люблініяшчыны, Баброўнікаў, польска-беларускага памежжа.

Наш герой выяўляецца зусім не простым артыстам (на што звяртаў увагу і сам па сабе якасны пінскі краявід). Вучыўся ў Акадэміі мастацтваў у Санкт-Пецярбургу — у самога Лявона Бакста, лідара «Мира Искусств» з Гародні. Затым Скатніцкага чакала Кракаўская акадэмія мастацтваў, і зноў выбітныя настаўнікі — яскравыя постаці польскага сімвалізму (Яцэк Мальчэўскі) і «Маладой Польшчы» (Юзаф Мехофер).

Але і гэта яшчэ не ўсё: затым быў пераезд у Парыж, заканчэнне мастацкай адукацыі ў Academie de la Grande Chaumiere. І хаця гэта Акадэмія ўзнікла толькі ў 1902 годзе, у першай траціне XX стагоддзя яна з'ўлялася найбольш вядомай і папулярнай сярод парыжскіх мастацкіх школ. Сярод яе выкладчыкаў — безумоўна знаёмыя беларусам імёны: Фернан Лежэ і скульптар з Віцебску Восіп Цадкін. Праўда, абодва гэтыя мастакі маладзейшыя за Скатніцкага.

Па вяртанні з Парыжу адбылася першая персанальная выстава мастака — у Towarzystwie Przyjaciol Sztuk Pieknych (Таварыстве сяброў мастацтваў) у Кракаве, сталіцы Малапольскага ваяводства. З гэтым ваяводствам звязанае жыццё Скатніцкага аж да 1917 года (у гэты час ён пастаянна жыве ў Закапанэ).

Праўда, наступныя тры (яны ж апошнія) персанальныя выставы мастака прайшлі па-за межамі Малапольшчы. У 1910 годзе ён экспанаваў свае працы ў Львове, а ў 1913-м і 1918-м — у знакамітым Towarzystwie Zachety Sztuk Pieknych («Захэнце») у Варшаве. Што да Малапольшчы, то тут Скатніцкі стаў актывістам моднага «закрытага» літаратурнага кабарэ ў Кракаве — «Зялёны шарык» (Zielony Balonik). Ідэю польскага літаратурнага кабарэ пазней абygралі на савецкім тэлебачанні — у «Кабачку 13 крэслаў» (1966–1980). У самім Закапанэ Скатніцкі выступіў сузаснавальнікам таварыства «Мастацтва Падгалля» (Sztuka Podhalacska) і майстэрняў «Kilim».

### За мальбертам і офісным бюро

Падчас Першай сусветнай вайны Скатніцкі служыў у II Брыгадзе Легіёнаў, і пэўны час кіраваў у Закапанэ Камітэтам дапамогі грамадзянскім асобам. На гэтай пасадзе з ім здарыўся эпізод, дзякуючы якому Скатніцкі мог бы зрабіцца ў савецкія часы вельмі папулярнай асобай. Яму асабіста давялося ўдзельнічаць у вызваленні з аўстрыйскага арышту затрыманага па падазрэнні ў шпіянажы на карысць Расіі ў малапольскім мястэчку Паранін нейкага таварыша Ульянава. 6 жніўня гэты падазроны тыпус, больш вядомы нам як таварыш Ленін, з дапамогай Скатніцкага пакінуў вязніцу. За што ўжо ў 1945 годзе савецкі амбасадар у Варшаве выказваў Скатніцкаму персанальную падзяку.

Так здарылася, што па набыцці Польшчай незалежнасці Скатніцкі аддаў перавагу не мастацтву, а грамадзянскай дзейнасці (заканамерна яго ўспаміны, выдадзеныя ў 1957 годзе, называюцца «Przy sztalugach i przy biurku» — «За мальбертам і офісным бюро»). У 1918 годзе быў абраны ў Дзяржаўную Раду Польскага каралеўства, а з 1922 па 1929 гады працаваў дырэктарам дэпартаменту культуры і мастацтва ў Міністэрстве рэлігій і грамадзянскай адукацыі ў Варшаве. Служба там пачалася з чарговага гучнага эпізоду — 16 снежня 1922-га Скатніцкі прысутнічаў на выставе ў будынку ўжо прыгаданага мастацкага таварыства Zachety, дзе адбыўся паспяховы замах крытыка-мадэрніста Элігіуша Невядомскага на жыццё першага прэзідэнта незалежнай Польшчы Габрыеля Нарутовіча.



Пінскі касцёл і калегіюм езуітаў. 1920-я (?) гады. Графіка. Варшава, Бібліятэка Красінскіх

Верагодней за ўсё, краявід Пінска і паўстаў у перыяд з 1922 па 1929 гады, калі Скатніцкі па справах працы мусіў наведваць значныя для рэлігійнага жыцця краіны цэнтры. Пінск такім цэнтрам, безумоўна, з'ўляўся. Як з'ўляўся і цэнтрам эканамічным, дзе адбываліся буйныя камерцыйна-прамысловыя выставы, што мелі цікавае мастацкае афармленне, якое, дарэчы, дагэтуль слаба даследавана.

***

Па 1929 годзе Скатніцкі фактычна адышоў ад палітыкі, ды і ў мастацкім жыцці ўдзельнічаў мала. Адразу па Другой сусветнай вайне ён спрабаваў вярнуцца да дзяржаўнай працы ў Міністэрстве нацыянальнай адукацыі сацыялістычнай Польшчы, але выкрытыя звесткі пра яго працу ў «капіталістычным» урадзе 1920-х гадах вымусілі да звальнення.

З вядомым польскім гісторыкам мастацтва Анджэем Касакоўскім ён арганізаваў мастацкі гуртоk у Градзіску Мазавецкім, а апошнія гады жыў (і пахаваны) у размешчанай у 25 кіламетрах ад Варшавы Падкове Лешнай.

Тамсама жыў добра вядомы беларускім знаўцам культуры Станіслаў Лорэнц, рэстаўратар помнікаў Навагрудскага і Віленскага ваяводстваў (1929–1935) і прафесар гісторыі мастацтваў міжваеннага Віленскага ўніверсітэта. Будучы дырэктарам Варшаўскага Нацыянальнага музея (1936–1982), Лорэнц, разам з іншым жыхаром Падковы, шматгадовым старшынёй Саюза Польскіх пісьменнікаў Яраславам Івашкевічам, адразу па вызваленні Варшавы ратаваў яе рухомыя помнікі — творы мастацтва, кнігі.



Дзякуючы знаёмству з гэтымі асобамі, карціны Скатніцкага трапілі ў Музей імя Ганны і Яраслава Івашкевічаў у Ставісках, былой сядзібе Івашкевічаў. І сёння работы Яна Скатніцкага можна спаткаць на мастацкіх аўкцыёнах.

І апошняя дэталь. Выпадкова ў размове з былой актывісткай навагрудскага турыстычнага руху Тацццянай Царук, якая зараз жыве ў Варшаве, высветлілася, што пару дзясяткаў гадоў таму яна вазіла па Навагрудчыне пані… Марыю Скаргонску-Скатніцку. Больш за тое, пры касцёле Сэрца Ісуса ў Сталовічах (1910–1912), дзе захоўваецца цудатворная скульптура Божай Маці Ларэтанскай, ёсць пахаванне аднаго з фундатараў… Скатніцкага.

Да таго ж сям'я візіцёркі мела сядзібу пад Клецкам. У якой сувязі гэтае адгалінаванне Скатніцкіх знаходзіцца з мастаком Янам Скатніцкім — трэба яшчэ высвятляць.

А нам застаецца спадзявацца, што выява Пінскага касцёла езуітаў, зробленая напаўзабытым мастаком, зробіцца цаглінкай у падмурак аднаўлення гэтага шэдэўра беларускай архітэктуры.







# Віцебск — горад гістарычных кантрастаў

Ігар МЕЛЬНІКАЎ

**У горадзе на Заходняй Дзвіне ў мінулы ўік-энд адбываўся фэст экскурсаводаў. У яго рамках я выступіў з лекцыяй, у якой распавёў наконт уласнага досведу ў справе папулярызацыі гісторыі Беларусі.**

## Архітэктура: савецкая і дарэвалюцыйная

У «паўночную сталіцу» Беларусі я прыехаў ужо другі раз. У мінулым годзе ў Віцебску мне давялося выступіць з лекцыяй па гісторыі ўдзелу беларусаў, грамадзян Другой Рэчы Паспалітай, у Вераснёўскай кампаніі 1939 года. І тады, і цяпер мяне ўразіла пасляваенная архітэктура гэтага горада. Гэтым ён вельмі нагадвае Мінск. І сапраўды, на большасці цэнтральных будынкаў вісяць ахоўныя дошкі, на якіх пазначана, што «камяніцы» былі пабудаваныя ў 1950-я гады. Аднак ёсць і іншы Віцебск. Дарэвалюцыйны. На вуліцы Пакроўскай можна ўбачыць шмат утульных цагляных домікаў пабудовы канца XIX — пачатку XX стагоддзя.

У пэўны момант злавіў сябе на думцы, што я не ў Віцебску, а ў родным Бабруйску. У горадзе на Бярэзіне да сённяшняга дня захавалася шмат старых дамоў так званай яўрэйскай бізнес-пабудовы. Тое ж самае назіраецца і ў горадзе Марка Шагала.

Напрыклад, будынак былой махорачнай фабрыкі, якую заснавалі ў 1883 годзе. У пачатку XX стагоддзя прадпрыемствам валодаў віцебскі купец Арон Вольфавіч Калбаноўскі. Тады на фабрыцы працавала 75 чалавек. Да 1913 года калектыў прадпрыемства пашырыўся, што дазволіла выпускаць за год 80 тысяч пачак тытуню і махоркі. Пасля кастрычніцкага перавароту бальшавікі нацыяналізавалі фабрыку, а ў 1930 годзе яна атрымала назву «Віцебская махорачная фабрыка «Змычка». У гады Другой сусветнай вайны прадпрыемства было ў эвакуацыі, а ў пачатку 1970-х гадоў яго аб’ядналі з Гродзенскай табачнай фабрыкай. Зараз будынак гэтага некалі славутага прадпрыемства, а таксама разбураная сінагога і дом краўца нагадваюць пра мінулае і з’яўляюцца выдатнымі аб’ектамі для гарадскіх экскурсій.

## Помнік Альгерду

У горадзе на Заходняй Дзвіне ўсё жыве гісторыяй, і гэта выдатна. Як вядома, летам 2014 года ў Віцебску быў усталяваны помнік вялікаму князю літоўскаму Альгерду. Тут «паўночная сталіца» пераплюнула Мінск. І гэта адбылася ў горадзе, дзе досыць моцныя ўплывы мае так званая «расійская грамадскасць», якая з’яўляецца заходнерускай «пятай калонай» на Беларусі. «Не ўсё так проста», — адзначыў у размове са мной экскурсавод Раман Воранаў.

«Цяжкасці былі. Нейкія актыўныя таварышы накіравалі ў гарвыканкам ліст з гнеўным абурэннем на тое, што ў славянскім горадзе хочуць паставіць помнік «ворагу славянства». Што, маўляў, гэта сапсуе выгляд Беларусі ў вачах расіян. І гэтае пасланне, калі я не памыляюся, падпісалі некалькі дзясяткаў чалавек. Тады мы сабралі некалькі соцень подпісаў у падтрымку ўсталявання гэтага манумента. Як бы тое ні было, але праўда перамагла, і помнік нашаму славутаму князю з’явіўся», — падкрэслівае Раман.

Тая ж «расійская грамадскасць» у свой час выступала за пабудову ў Віцебску помнікаў Аляксандру Неўскаму і князёўне Вользе. Аднак даследчыкі гісторыі горада адказалі апанентам, што гэтыя гістарычныя асобы не маюць прамога дачынення да гісторыі Віцебска. Што ж тычыцца гісторыі князя Альгерда, дык гэтай гістарычнай асобай беларусы павінны ганарыцца. У 1318 годзе Альгерд ажаніўся з дачкой віцебскага князя Марыяй. Такім чынам, шляхам дынастычнага шлюбу Віцебск і Віцебскае княства ўвайшлі ў склад Вялікага Княства Літоўскага.

Сучаснай заходнерускай «пятай калоне» вельмі не падабаецца, што дзейнасць князя Альгерда была накіравана на ўмацаванне і развіццё як ВКЛ у цэлым, так і горада на Заходняй Дзвіне ў прыватнасці. Дзякуючы намаганням князя хутка выгляд Віцебска змяніўся ў лепшы бок. Не любяць змагары за «рускі свет» узгадваць, што Альгерд вымушаны быў абараняць горад ад магчымай агрэсіі з Усходу. Так, «адзінакроўныя браты» з Масквы ўвесь час імкнуліся акупаваць тэрыторыі хрысціянскага Вялікага Княства Літоўскага. Дарэчы, Альгерд эфектыўна змагаўся супраць крыжакоў, а перамога ў бітве на Сініх Водах у 1362 (1363) годзе паклала пачатак вызваленню ад ардынскага панавання. Менавіта падчас праўлення гэтага князя ўсе беларускія землі апынуліся ў складзе Вялікага Княства Літоўскага.

Сённяшнюю сітуацыю ў беларускай «паўночнай сталіцы» можна назваць неадназначнай. З аднаго боку, пакуль стаяў і чакаў знаёмага ў цэнтры Віцебска, заўважыў тры машыны з беларускімі нумарамі, у салоне якіх віселі георгіеўскія стужкі. Можа, іх павесілі несвядомыя грамадзяне, якія да сёння лічаць іх сімваламі 9 мая. А можа, якраз «свядомыя». Тыя, хто марыць пра прыход «зялёных чалавечкаў» і анексію беларускіх тэрыторый «рускім светам». У віцебскіх газетных шапіках прадаюцца брашуры адэптаў заходнерусізму Андрэя Герашчанкі і Вячаслава Бандарэнкі. З другога боку, у цэнтры Віцебска стаіць помнік Альгерду, а на адным з будынкаў, побач з рэкламай «Славянскага базару», вісіць герб Віцебскай вобласці, на якім выява гістарычнага герба беларусаў — «Пагоні». Вось такія метамарфозы.

Ну і яшчэ адно віцебскае новаўвядзенне, якое не звязана з гісторыяй і палітыкай. Летам 2014 года ў горадзе, дзе нарадзіўся Марк Шагал, з’явіўся... «Макдональдс». Раман Воранаў пазначае, што ў першыя месяцы пасля адкрыцця рэстарана там былі такія чэргі, што на вуліцу выходзілі. «Нагадвала тое, што адбывалася ў Маскве і Мінску, калі там з’явіліся першыя «Макі», — смяецца мой суразмоўца.

## Living history як інструмент для адукацыі

Мой візіт у Віцебск праходзіў у рамках агульнабеларускай акцыі «Фэст экскурсаводаў». У рамках мерапрыемства былі запланаваны дзве экскурсіі: «Задзвінская гісторыя» і «Віцебскае барока», на першую з якіх я нават паспеў трапіць. А пазней адбылася і мая лекцыя, прысвечаная ўласнаму досведу ў справе папулярызацыі гісторыі Беларусі. Удзельнікаў імпрэзы асабліва цікавіў феномен «вайскова-гістарычнай рэканструкцыі», і як з яе дапамогай магчыма паўплываць на жаданне людзей ведаць сваю гісторыю. Насамрэч, «living history», ці «ажыўшая гісторыя», — вельмі папулярная з’ява ва ўсім свеце. У Расіі і Польшчы штогод праводзяцца сотні рэканструктарскіх фэстаў, якія з задавальненнем наведваюць тысячы жыхароў і гасцей краін. У канцы 2013 года расійскае Федэральнае агенцтва па турызме прыняло рашэнне прасоўваць ваенна-гістарычны турызм. Гістарычныя рэканструкцыі — асноўная яго складовая частка. Тады была выказана думка, што на іх аснове трэба ствараць якасны турпрадукт.

Тады ж на Расійскае Вайскова-гістарычнае таварыства ўсклалі функцыю кансультавання Растурызму ў пытанні распрацоўкі маршрутаў і выдзялення сродкаў. У Беларусі рэканструкцыю як сферу турызму ніхто на дзяржаўным узроўні не разглядае. Ёсць «Лінія Сталіна», але яна даўно ператварылася ў аб’ект для правядзення аднатыпных фэстаў па аднаму і таму ж сцэнару і з аднымі і тымі ж удзельнікамі. Да таго ж сучасная тэхніка псуе агульны выгляд гістарычнага аб’екта. Праводзіцца шэраг малых мерапрыемстваў, напрыклад, фестываль па Першай сусветнай вайне «Скокі» ў Брэсцкай вобласці. Аднак усё гэта збольшага трымаецца на прыватнай ініцыятыве і амаль без удзелу дзяржавы.

У Польшчы праводзяцца буйныя рэканструкцыі па розных эпохах, і перш за ўсё па Першай і Другой сусветных войнах, і там дзяржава (ад узроўню міністэрстваў да гарадскога кіраўніцтва) актыўна імкнецца дапамагчы і садзейнічаць арганізацыі такіх мерапрыемстваў. А калі грошай не хапае, то, прынамсі, не перашкаджае іх правядзенню. Як вынік — выдатная лекцыя па гісторыі і для мясцовых, і для гасцей.

Беларусам застаецца на ўласную ініцыятыву прасоўваць вайскова-гістарычныя рэканструкцыі і фэсты, а таксама развіваць экскурсіі з анімацыямі. У гэтым сэнсе актыўную пазіцыю займае Група вайскова-гістарычнай рэканструкцыі «Беларусы ў Войску Польскім», адным з паспяховых вынікаў дзейнасці якой з’яўляецца экскурсія-рэканструкцыя па былой «рыжскай мяжы» пад Заслаўем.

На лекцыі была прадстаўлена мая кніга «Заходнебеларуская Атлантыда 1921–1939», выдадзеная ў серыі «Бібліятэчка Новага часу», а таксама адбылася цікавая дыскусія па розных пытаннях, звязаных з праблемай папулярызацыі гісторыі Беларусі ў сучасных, няпростых умовах. Пры ўсіх цяжкасцях, якія сёння існуюць у згаданай сферы, галоўнай задачай гісторыкаў, культуролагаў, журналістаў, краязнаўцаў і ўсіх неабыякавых да нашай мінуўшчыны людзей ёсць актыўнае распаўсюджванне гістарычных ведаў сярод усіх прадстаўнікоў беларускага грамадства.

Новы Час

Агульнапалітычная штотыднёвая газета

novychas.info

Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар
**Кароль Аляксей Сцяпанавіч**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА**
220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234.
Тэл. +375 29 986-38-05, +375 17 268-52-81
novychas@gmail.com; novychas.info

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. Замова № 536

Падпісана да друку 24. 04.2015. 8.00.
Наклад 7000 асобнікаў. Кошт свабодны.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая. Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы. Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.